«НІХТО НЕ ВЕДАЎ ЯЕ САПРАЎДНАГА ІМЯ». ТАЯМНІЦА ГАЛІНЫ МАКАРАВАЙ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 тг @historynn

№ 9(38) — 2021

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

Андрэй Скурко
ЗАЛАТАЯ МАРА ЯНУКА ЧАРНЯЎСКАГА

Аляксандр Пашкевіч
ЦІ БЫЛІ ПАТРЭБНЫЯ ПАЎСТАННІ XIX СТАГОДДЗЯ?

Алесь Белы
«ЛІТОЎСКАЯ ЛАМБАРДЫЯ, УРАДЛІВАЯ І ШМАТЛЮДНАЯ...»

Сяргей Грунтоў
ГЕРЦАГСТВА БУКАВІНА

# ЭМІЛІЯ ПЛЯТЭР
# ГЕРАІНЯ

16+

## Ад рэдакцыі

*І прыйдзе новых пакаленняў*
*На наша месца грамада*
*Судзіці суд, ці мы сумленна*
*Жыццё прайшлі, ці чарада*

*Зняваг мінулых нас не з'ела,*
*Пакінуўшы свой дым і чад,*
*І мы па-дайняму нясмела*
*Жылі не ў лад і неўпапад?..*

*...А ўжо свой выдасць непадкупны*
*Аб нас гісторыя прысуд,*
*Калі аглядам гляне рупным*
*І разбярэ, ў чым справа тут.*

*У сведкі запісы пакліча,*
*Паданні клікне ў час такі*
*І ўсё паліча, пераліча...*
*А суд гісторыі цяжкі!..*

Гэты рэфлексіўны верш Янка Купала напісаў у 1926 годзе, і ён, відаць, ніколі не страціць сваёй жыццёвай актуальнасці. Сапраўды, жыццё ідзе сваім няспынным бегам, змяняюцца эпохі, сыходзяць адныя пакаленні і нараджаюцца новыя. Гісторыя творыцца на вачах, то запавольваючы, то паскараючы ходу, усе людзі ў ёй так ці інакш, актыўна ці пасіўна, але бяруць удзел. І рэгулярна ў гісторыі ўзнікаюць пераломныя моманты, у якія літаральна кожнаму, каму давялося ў гэты час жыць, трэба прымаць складаныя рашэнні, станавіцца на той ці іншы бок, браць на сябе дадатковую адказнасць за свой уласны лёс, лёс сям'і і народа. Адказнасць не фармальную, заснаваную на пісаных законах, а перадусім маральную, перад уласным сумленнем і гонарам. А яшчэ — перад гісторыяй.

Суд гісторыі — самы непазбежны з усіх зямных судоў. Хоць не ўсе пра гэта пастаянна памятаюць і задумваюцца, ён прыходзіць абавязкова, і прыходзіць да ўсіх. Яго прысуду бяссільныя ў перспектыве перашкодзіць нават самыя магутныя людзі гэтага свету. І нярэдка першыя паводле гэтага прысуду робяцца апошнімі, а апошнія — першымі. Як прадзед Андрэя Скурко, пра якога ён расказвае на **старонках 4–9**, ці Эмілія Плятэр, пра якую піша Віталь Чырвінскі на **старонках 10–19** гэтага нумара.

**Наша Гісторыя**
9/2021

тг @historynn

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Эмілія Плятэр. Партрэт Ігнаса Рудольфаса. Музей Вітаўта Вялікага, Літва.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефон:** +375 (33) 311-28-43

**E-mail:** kramanasha@gmail.com

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 29.09.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 1522021.
Наклад 3200.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка ў друкарні «Маскоўскі друкарскі двор», вул. 3-я Харашоўская, д. 18, к. 1, 123298, г. Масква, Расійская Федэрацыя
www.printyard.ru, тэл. +7 (499) 283-64-29

# Падпісацца? Праз Рэдакцыю!

Пачынаючы з ліпеня 2021 года падпіску праводзіць і дастаўляе выданні сама Рэдакцыя. Кошт — 7 рублёў за адзін нумар. Пры падпісцы на паўгоддзе зніжка — 35 рублёў за шэсць нумароў. Гэта значыць, што вы плаціце за пяць і шосты атрымліваеце ў падарунак.

Аформіць падпіску можна двума спосабамі.

1. **Усіх, хто карыстаецца інтэрнэтам,** просім зайсці на сайт **Nashakrama.by**, выбраць часопіс, перыяд падпіскі і аплаціць анлайн па картцы. Можна ў любы момант падпісацца адразу на год! Падпіска на найбліжэйшы нумар пры анлайн-замове будзе прымацца да 14 дня месяца, у якім выходзіць новы нумар часопіса.
2. **Хто не карыстаецца інтэрнэтам**, можа прыйсці ў любы банк ці на пошту і зрабіць аплату за падпіску па рэквізітах, указаных ніжэй. Пасля выражце і запоўніце квітанцыю, змешчаную ў нізе старонкі. Дашліце яе нам лістом па адрасе: 220004, Мінск, а/с 62. Альбо адпраўце звесткі ў тэлеграм ці вайбер на нумар +375 33 311 28 43.

**Рэквізіты для аплаты** ў банку ці на пошце (праз «адвольны плацеж» ці «плацеж па рэквізітах» — «произвольный платеж» или «платеж по реквизитам»):
*Атрымальнік плацяжу:* Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы»
*УНП атрымальніка:* 190786828
*Рахунак атрымальніка:* BY84BLBB30120190786828001001
*BIC банка атрымальніка:* BLBBBY2X
*Прызначэнне плацяжу:* Падпіска на часопіс «Наша гісторыя» на перыяд ........
*Сума плацяжу:* ........

**!** Вельмі просім усіх прыярытэтна карыстацца спосабам 1. Пры ім будзе меней збояў і меншая нагрузка на калектыў Рэдакцыі пры апрацоўцы замоваў.

Тэлефон для даведак па пытаннях падпіскі: +375 33 311 28 43.

**ПАДПІСНЫ АБАНЕМЕНТ**
на часопіс **«Наша гісторыя»**

| Кошт падпіскі | | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|

На _____ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Каму ______________________

Куды ______________________

______________________














Тэлефон для кантакта ____________________

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце) ____________________

____________________

Дасляць на адрас 220004, Мінск, а/с 62.




66


78


58


40






71


84





# Залатая мара Янука Чарняўскага

**Рудбекіі**, залаты шар, былі любімымі кветкамі сям'і Чарняўскіх, як і многіх сялян таго часу.





**Ад майго прадзеда Івана Чарняўскага ў сямейным архіве засталіся тры фотаздымкі: на вайне, у турме і ў труне, піша Андрэй Скурко. А ў яго долі ўвасобіўся лёс і прагненні цэлага пакалення.**

У 1896-м, калі Янук нарадзіўся, яго родная Пількаўшчына Мядзельскай воласці (цяпер раёна) жыла яшчэ фактычна сярэднявечным парадкам. Менш як 40 год мінула з часу адмены прыгону — і пра яго яшчэ можна было пачуць ад жывых сведкаў. На вачах прадзеда пачыналася сталыпінская аграрная рэформа, раздача хутароў. Вёска зажыла па-новаму.

Менавіта тады з цэнтра Пількаўшчыны ў аддаленае лясное ўрочышча Жукова перанёс сваю гаспадарку дзед паэта Максіма Танка — Хведар Скурка (прозвішча Андрэя Скурко і Максіма Танка мясцовыя людзі вымаўляюць «Ску́рка», з націскам на першы склад).

## Каб жыць бліжэй да свайго ветрака

Бацька Янука, таксама Іван, вырашыў не аддаляцца так. Чарняўскія ўзялі хутар метраў усяго за 300 ад ранейшай вясковай сялібы, каб жыць бліжэй да свайго ветрака. Цяпер на полі, разараным вялікімі плугамі, цяжка нават адшукаць узгорак, дзе ён стаяў. Той вятрак я бачыў на тапаграфічных картах

**Фота прадзеда ў нашым доме вісіць на ганаровым месцы, у самаробнай рамцы.** Гэты 19-гадовы хлапец толькі што трапіў са сваёй вёскі ў вялікі свет. Толькі што навучыўся чытаць. Наперадзе — чатыры гады вайны.

### Спыніся, далёкі і блізкі

Пад мохам цёмных яловых лясоў, пад торфам асушаных балот Мядзельшчыны хаваюцца страх і слёзы Першай сусветнай вайны. Гэта вайна стала для рэгіёна сапраўды Вялікай. 120 тысяч чалавек! Столькі загінула тут за 12 (!) дзён Нарачанскай аперацыі 1916 года. А колькі народу лягло ў зямлю за амаль тры гады, калі на Мядзельшчыне стаяў фронт? Не падлічыць. У Мядзельскім раёне — 19 мемарыялаў Першай сусветнай, безліч дотаў і ўмацаванняў. Турыст сустракае іх нечакана: сярод азёрнага хараства і разараных палёў. Адзін з моцных сімвалаў той вайны — вялізная яма на могілках мястэчка Княгінін: яна ўтварылася на месцы пахавання дзвюх з паловай тысяч салдат, што памерлі ад ран і атручэння газам у мясцовым шпіталі.

**Спіс помнікаў Першай сусветнай** на Мядзельшчыне:



польскіх часоў, а яго вялікі жоран ляжаў яшчэ пры канцы 1980-х каля калгаснага мехдвара, які называлі «фазэндай» пад уплывам серыяла пра рабыню Ізаўру.

Мой тата малым заспеў яшчэ старую, сталыпінскіх часоў лазню, якую прадзед паставіў воддаль будынкаў пры ляску, што называецца Аступ: піраміда камення замест печкі; палок, збіты з жэрдак-круглякоў; земляная падлога, засланая яловымі лапкамі; копанка побач, з якой не асабліва і згінаючыся можна было начэрпаць вады — да меліярацыі 1950-х Пількаўшчына стаяла на востраве сярод багны.

Можна ўявіць, як мыўся ў той лазні ў апошні вечар малады Янук, прызваны ў салдаты на Першую сусветную вайну. «Царскай» або «мікалаеўскай» вайной называлі яе ў нас. «Вялікай» — у Еўропе. Яе боль, маштаб і значэнне праз 4 пакаленні амаль забыліся. А менавіта Першая сусветная зламала 500-гадовы лад беларускай вёскі. Сотні тысяч людзей прайшлі праз плавільны кацёл франтоў, шпіталяў, бежанства, страцілі ўсё, што мелі, пабачылі вялікі свет, успрынялі новыя ідэі.

### Святло на балотных астравах

Янук з іншымі пількаўскімі хлопцамі трапіў у Петраград, у артылерыю. У салдатах ён перахварэў на тыф (і выжыў), навучыўся чытаць. У нас у сям'і дагэтуль захоўваецца «Библейская история», выдадзеная вайсковым ведамствам у 1916 годзе, якую прадзед прывёз з Петраграда.

Пасля рэвалюцыі іх часць, як і большасць іншых, перайшла на бок чырвоных. Пра ўдзел прадзеда ў тых лёсавызначальных падзеях зусім мала фактаў данеслася праз два пакаленні. Нібыта ён расказваў, як іх часць стаяла на лёдзе і падчас гарматных залпаў салдаты мусілі падаць. Тады, лежачы на лёдзе, прадзед адмарозіў рукі. Узімку работу на двары ён мог рабіць толькі ў цёплых рукавіцах.

У пачатку 1920-х Янук дэмабілізаваўся. Уяўляю, як ён, даехаўшы цягніком да Княгініна, ішоў апошнія 15 кіламетраў ►



**На гэтым фота Янука няма, а па цэнтры стаіць Стэпка — яго жонка.** У іх ужо нарадзілася Валя — дзіця ў стылёвай берэтцы. Абапал стаяць Стэпчыны браты. Валявы і суровы характар роду Купцоў напісаны на тварах. З унукамі сядзяць іх маці (справа) і бацька. Суворы дзед Піліп лёг у зямлю яшчэ ў Пількаўшчыне, а 82-гадовую бабу Ганулю — свякроў ворага народа — улады дэпартавалі ў Казахстан. Там яна і загінула ў ваколіцах калгаса «Красная звезда».

▸ праз Кіржына, Восава, Наўрані, Слабаду — знаёмыя, але змененыя вайной вёскі. Як з пількаўскай грэблі пабачыў святло ў вокнах бацькоўскай хаты.

**Янук быў не самы багаты ў Пількаўшчыне. Бацька паэта Максіма Танка меў пад 70 гектараў**

На той час яго маці ўжо не жыла, бацьку было каля сямідзесяці, гаспадарку правіў старэйшы брат Мацей. Цікава, як ён і яго жонка Дарыля ўспрынялі вяртанне Янука: цяпер хутар трэба было дзяліць. Афіцыйна той падзел быў задакументаваны толькі ў канцы 1930-х пастаўскім натарыусам. Але фактычна, відаць, Янук атрымаў палову бацькавай валокі раней, калі ажаніўся.

### І крыўдавала, і ўцякала

Стэпка не хацела за яго ісці. Яе род у Пількаўшчыне называлі Купцамі. Яны разбагацелі на гандлі скацінай (мелі свае прафесійныя хітрыкі:




Ад Янука засталося два турэмныя фота — **з пачатку і канца зняволення.**

добра пагандляваўшы на кірмашы, яны хавалі грошы ў хамут і апраналіся пабядняцку — на выпадак сустрэч з разбойнікамі пры дарозе Вільня – Мядзел).

Купцы мелі многа зямлі, Стэпчыны браты скончылі 2-класнае вучылішча ў Мядзеле. Былі Купцы высокія, плячыстыя, з чорнымі, як смоль, валасамі. Чарняўскага ў вёсцы называлі Капейка — ніхто не помніў чаму. Янук быў невысокі, каржакаваты, меў валасы з рудзізной і ястрабіны нос.

Стэпка дэманстратыўна яго ігнаравала: калі Янук прыходзіў да яе, сядала са сваім кавалерам на пасажны* куфар і міла з ім размаўляла, не зважаючы на госця. Але ў тыя часы ў пытаннях шлюбу многа важыла слова бацькі. І Піліп Скурка загадаў дачцэ ісці за Янука: «на хутары лепей жыць» (а Стэпчын кавалер быў з вёскі, з суседніх Мацкоў). Стэпка крыўдавала на бацьку, уцякала ад Янука па першым часе, але, пражыўшы з ім век, ацаніла «свайго старыка» за смеласць, надзейнасць, спакойны характар. У 1928-м у іх нарадзілася дачка Валя — мая бабуля.




Пасажны куфар бабы Стэпкі — сямейная рэліквія. Яго і дзве шафы ўратавалі ад канфіскацыі суседзі. Калі сям'я вярнулася з Казахстана, куфар вярнулі. **На фота: на куфры Тамаш, прапраўнук дзеда Янука, сын Андрэя Скурко.**

* **Пасажны** — які давалі дзяўчыне ў пасаг, па-расейску «приданое», тую маёмасць, якую дзяўчына забірала ў сваю новую сям'ю.

### А вось і нашы

Прадзед быў перфекцыяністам. Калі адзявацца — дык чыста і франтавата, калі хата — дык новая і вялікая, калі конь — дык ідэальны. Коні былі яго жарсцю. Уяўляю, як сёння яго цікавілі б машыны. Прадзед выменьваў, шукаў, купляў, пакуль не здабыў варанога Тыгра, які не слухаўся нікога, апроч гаспадара. Дый Януку раз, выкінуўшы з санак, паламаў ключыцу.

**«Думалі жыць», — так характарызавала перадваенны час прабаба**

Паставіў дзед у канцы 1930-х і вялікую хату. Старая, цесная загадкавым чынам згарэла. «У Чарняўскага хата гарэла, а ён пад пярэплатамі* бліны еў», — смяяліся ў Пількаўшчыне. Пры Польшчы за згарэлую хату плацілі добрую страхоўку...

Ад чырвонаармейскіх часоў Іван меў сімпатыю да савецкай улады. Не ўспрымаючы міжваенную Польшчу за сваю дзяржаву, ён усё чакаў, калі з усходу «прыйдуць нашы». Ідэі сацыяльнай справядлівасці і нацыянальных правоў, дэклараваныя бальшавікамі, успрынялі многія беларускія сяляне. Прадзед хадзіў сустракаць савецкае войска на мядзельскую дарогу ў верасні 1939-га.

На момант прыходу савецкай улады ў Заходнюю Беларусь Янук меў 13 гектараў зямлі і кавалак лесу ва ўрочышчы Дубовы Пень. Таксама, пазычыўшы грошай у далёкай радні, ён дакупіў сенакос. «Думалі жыць», — характарызавала той час прабаба.

### Далі на ўсю катушку

Янук быў далёка не самы багаты ў Пількаўшчыне. Езуп Бабровіч і Янук Скурка, бацька паэта Максіма Танка, мелі дзесяцін па 60. Чаму ў якасці акцыі запалохвання, каб падштурхнуць пількаўшчанаў да ўступлення ў калгас, раскулачылі менавіта Янука — пытанне. Вясковая легенда кажа, што прычынай былі словы, сказаныя ім на сходзе калгасным актывістам: «Адчапіцеся, басякі, дайце пажыць».

Масавая калектывізацыя ў Заходняй Беларусі ішла ў 1949-м. Пры «першых саветах», у 1939–1941-м, сілаю ў калгасы не заганялі. У вайну жылі на сваіх гаспадарках, давалі прытулак суседзям са спаленых у блакаду вёсак, кармілі партызанаў.

У 1948 годзе быў складзены адпаведны данос, прадзедаву гаспадарку абклалі як кулацкую непад’ёмным падаткам і вызначылі норму вывазкі лесу — сям’ю з трох чалавек нагрузілі як цэлую Пількаўшчыну. Ад іх патрабавалі высякаць лес, грузіць на воз і вазіць на станцыю ў Княгінін. Калі Янук не даў рады сплаціць падатак і вывезці лес, яго судзілі.

«Далі на ўсю катушку», — сказаў прадзед, выйшаўшы з мядзельскага райсуда ў снежні 1948-га. Ён атрымаў 10 год турмы і 5 год паражэння ў правах па артыкуле 93 КК БССР.

Разумеючы, да чаго ідзе справа, прадзед выкінуў у куст на балоце самапал, зроблены знаёмым кавалём. Заходнебеларускія хутаране мелі зброю, гэта было ў парадку рэчаў.


ФОТА ПАЎЛІНЫ СКУРКО

Пасля XX з’езда і дэмантажу сталінізму Чарняўскія вярнуліся з Казахстана ў родную вёску. На месцы іх дома была пустка: хату калгас забраў. **Ад сялібы застаўся адзін склеп — «заязджалі трактарам, але так і не змаглі праламіць».** І Янук стаў будавацца наноў. Калгаснае начальства спрабавала забараніць: маўляў, гэта ўжо не ваша зямля. Не, наша. На канёк новазбудаванай хаты павесілі вянок з кветак: такі старадаўні звычай.

### А Тыгр не даваўся

Янук сядзеў у Мінску, Вілейцы, Оршы. Бачыў, як памерлым у турме вязням прабівалі ломам галовы перш чым пахаваць; як у ліцейцы МТЗ зэкі збіраліся выліць коўш распаленага металу на брыгадзіра; як у камеры палітычны біў злодзея табурэткай за крадзеж. На этапе, у «сталыпінскім вагоне», падчас гульні ў тысячу прадзед, заядлы карцёжнік, трымаў банк.

Яго жонка з дачкой заставаліся ў Пількаўшчыне. У іх хаце зрабілі праўленне калгаса, гаспадары ж жылі ў бакоўцы. Усю маёмасць канфіскавалі.

Конь Тыгр не даваўся, каб яго закілзалі чужыя людзі. ▶

* **Пярэплаты** — дыялектнае слова, якое азначае азярод, драўляную канструкцыю для сушэння сена. У іх ёсць неабходнасць у раёнах з вялікай колькасцю ападкаў, як паўночная частка Беларусі ці даліны Карпат.

▸ Калі калгасны конюх залез на бэльку і паспрабаваў закінуць аброць зверху, Тыгр скінуў яго пад ногі і стаптаў.

## «Калі я толькі ўступлюся, я сам буду там, дзе Янук», — адказаў Максім Танк

У 1952-м выйшаў загад высылаць сем'і раскулачаных. Дачка Янука была на той час ужо замужам і жыла ў іншым месцы. А жонка Стэпка трапіла ў Паўднёвы Казахстан. Разам з ёю выслалі сям'ю яе раскулачанага брата Юліся (жонку і двухгадовае дзіця), а таксама іхнюю з Юлісем



Баба Стэпка перажыла ўсё ліха ХХ стагоддзя і ўжо ні па чым не плакала. Але не стрымала слёз, калі ўнук прывёз з горада паперу аб іх з мужам рэабілітацыі. За адсутнасцю складу злачынства. **На фота: старая Стэпка з дачкой Валяй, унукам Генем і яго жонкай Аняй ды праўнукам Андрэем.**



ФОТА ТАМАРЫ БАБІНАЙ

**Андрэй Скурко з жонкай і сынам.** Гэты артыкул ён напісаў, знаходзячыся ў турме «Валадарка».

82-гадовую маці. Баба Гануля высылкі не перажыла.

«Дзе твае зубы?» — пытаўся я, малы, у прабабы Стэпкі.

«У Казахстане засталіся», — адказвала яна.

Ссыльных высаджвалі з эшалонаў у голым полі, яны самі ляпілі гліняныя мазанкі, каб мець жытло, пілі ваду з арыкаў, хварэлі ад яе. Побач качавалі казахі. Баба Стэпка ўспамінала іх народнае свята з гонкамі на конях з авечай тушкай, падзеннямі і калецтвам. Праз колькі год у Казахстан прыехаў і Янук: пасля смерці Сталіна яму змянілі меру стрымання. Прадзед працаваў у калгаснай цяслярскай брыгадзе, прабаба хадзіла «на хлапок» (збіраць бавоўну). Іх здароўе было зруйнаванае. У свае 50 з нечым гадоў, як сведчаць медычныя даведкі, прадзед меў ціск 200 на 100. Быў фактычна інвалідам. Ён пражыў усяго 5 год пасля вызвалення.

### Народ-шыпшына

Іх адпусцілі ў 1956-м, пасля ХХ з'езда КПСС. Былі варыянты, куды ехаць. Былым грамадзянам міжваеннай Польшчы можна было выязджаць у Польшчу сацыялістычную — засяляць заходнія землі, атрыманыя ад Германіі пасля вайны. У Польшчу можна было



выцягнуць і дзяцей. Або ўсім разам можна было паехаць у Ташкент: Янукоў зяць, мой дзед, быў будаўніком, рабочыя рукі там патрабаваліся. Але Янук і Стэпка пастанавілі вяртацца дадому — «на Беларусь».

## «Адчапіцеся, басякі, дайце пажыць»

Мой тата запомніў дзіцячай памяццю, як яны прыехалі. Як будавалі зноў хату на разрабаваным котлішчы. Як дзед казаў яму, малому: «Згінуць бальшавікі — будзе ў нас зноў зямля, будзе конь, будзем з табой катацца». У сялянскую галаву прадзеда не ўкладалася, як можа доўга існаваць улада, якая дазваляе сабе такую несправядлівасць. Захаваліся яго лісты ва ўсе магчымыя інстанцыі, аж да Савета міністраў СССР, з просьбай разабрацца і вярнуць адабраную маёмасць. І адпіскі на іх.

«Ты ж чакаў бальшавікоў!» — падшпільвала Янука Стэпка.

Тата запомніў, як аднойчы, калі яны з дзедам былі дома адны, прыйшоў стары дзедаў

DEPOSITPHOTOS.COM, BY MELICA



**Трохгадовага Геню прывезлі ў Мядзел, каб сфатаграфаваць для дзеда з бабай і адправіць здымак у далёкі Казахстан.** Дзед з бабай так перажывалі, чаму ён скрывіўся, што прыйшлося зрабіць яшчэ адно фота.

сябар — Мацейка. Старыя выпілі па чарцы, закусілі цыбулінай, на вочы іх ці то ад цыбулі, ці то ад перажытага набеглі слёзы. Мацейка запяяў «Рэчаньку», пасля дзед — турэмную песню.

«Пакуль ты, Янук, сядзеў, усе твае ворагі паздыхалі», — сказаў пасля Мацейка. Ён меў на ўвазе тых, хто падпісаў фатальны данос.

У 1992-м дзеда рэабілітавалі «за адсутнасцю складу злачынства». Калі мой тата прывёз у Пількаўшчыну паперы, я ўпершыню пабачыў, як баба Стэпка, якая магла спакойна закапаць «лішніх» кацянят, заплакала.

На ўскрайку Аступа ёсць месца, дзе прадзед прысеў апошні раз, ідучы з калгаса. У труну яму паклалі іконку, маляваную на дрэве, якая была з сям'ёй у Казахстане. Каля прадзедавай магілы штогод прабіваецца з зямлі невыводная калючая шыпшына. ◆



У 2018 годзе аўтар артыкула напісаў песню паводле прадзедавай гісторыі. Гэты блюз выконвае гурт «Цмокі», у якім Андрэй грае на бас-гітары.

### Іван і Бог

Ноччу Івану сасніўся Бог,
і сказаў яму Бог: Іван,
прадай зямлю, забірай сям'ю
і ўцякай за акіян.
Бо скора надыдуць ліхія гады
і будзе іх 52.
Калі зараз мяне не паслухаеш ты,
калі зараз мяне не паслухаеш ты,
нават Я не ўратую вас.

Паслухай, пекла ідзе сюды,
імя яму будзе калгас.
Там свята няма і праўды няма,
а ёсць толькі працадзень.
Там прыхадзень будзе з тваіх дзяцей
рабіць другасортных людзей.
Там свята няма і праўды няма,
такога, як ты, чакае турма,
сям'ю тваю — Казахстан.
Вырасце лес на тваім двары,
рабамі стануць гаспадары —
ратуйся, бяжы, Іван.

Спіцца і сніцца, думаў Янук,
выходзячы на раллю.
Як можа быць вінаваты плуг
у тым, што арэ зямлю?
Я гэтае поле потам паліў —
хто зможа яго забраць?
Насустрач дарогай круціўся пыл,
насустрач дарогай круціўся пыл
з-пад ботаў чырвоных салдат.

Калі зараз мяне не паслухаеш ты…



FACEBOOK.COM/CMOKI.BAND

**Гурт «Цмокі».**




# ЭМІЛІЯ ПЛЯТЭР
## Гераіня

**Добрая адукацыя праясніла яе светапогляд, выхаванне з хлопцамі паказала, што можна актыўна мяняць свет, але што ж насамрэч падштурхнула дзяўчыну з багатага роду са зброяй змагацца за свабоду роднага краю? Разбіраецца ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

### «Я кіравалася любоўю»

25 сакавіка 1831 года. Антузава пад Дынабургам, маёнтак Плятэраў. Каротка стрыжаная дзяўчына ў мужчынскім адзенні кранальна развітваецца на ганку з кабетай, захутанай у вялізную цёплую хустку. Пасля развітання дзяўчо спраўна ўскоквае на каня і разам з яшчэ адной вершніцай рушыць прэч, раскідваючы брудны веснавы снег конскімі капытамі. Гаспадыня вяртаецца ў дом, дзе на стале ў гасцёўні ляжыць спісаны аркуш паперы.

«Сведчу гэтым лістом маім, што да зробленага сёння кроку ніхто мяне не падбухторваў, наадварот, цётка мая, яснавяльможная Гасперава Плятэр, спрабавала мяне адгаварыць ад гэтага намеру. **Я кіравалася любоўю да Айчыны**.

Акрамя таго, выхаваная ў самоце, нягледзячы на гэта, сілкуючы з дзіцячых гадоў тую думку, што калі-небудзь пайду на вайну, я прыняла гэта за нейкае натхненне, паколькі шмат гадоў гэтая незвычайная для маладых дзяўчат думка ўвесь час мяне

**Эмілія Плятэр.** Літаграфія з працы Юзафа Страшэвіча «Les Polonais et les Polonaises ou 100 portraits et biographies des personnes, qui ont figuré dans la derniére guerre» (Парыж, 1832—1837).

WIKIMEDIA COMMONS

займала. Антузава. 25 сакавіка. Эмілія Плятэр».

### З рыцарскага роду

Эмілія Плятэр паходзіла са старажытнага роду. Яе продкі былі рыцарамі-крыжаносцамі з Вестфаліі (адной з земляў Германіі). У XV стагоддзі яны прыйшлі ў Інфлянты, сталі буйнымі землеўласнікамі — і аселі.

Сама Эмілія нарадзілася ў Вільні ў 1806 годзе ў сям'і Францішка-Ксаверыя Плятэра і Ганны з нямецкага роду фон Моляў, што стагоддзі таму аселі на Браслаўшчыне. Калі дзяўчынцы было дзевяць гадоў, бацькі развяліся. Віна тут, відаць, ляжала на бацьку, бо дзяўчынка і яе маці сталі жыць у маёнтку вельмі ўплывовай і багатай сям'і мужавых сваякоў, Зіберк-Плятэраў, у маёнтку Ліксна Дынабургскага павета Віцебскай губерні (цяпер сяло ў Латвіі). З дачкой тата стасункаў не падтрымліваў, нават калі памерла яе маці, і пра сябе добрай памяці ў гісторыі не пакінуў: ні пасадаў, ні пабудаваных мураванак, ні кніг. Відаць, жыў як набяжыць.

Разам з дзецьмі Зіберк-Плятэраў Эмілія атрымала добрую хатнюю адукацыю: цудоўна ведала нямецкую і французскую мовы, цікавілася матэматыкай і гісторыяй. А паколькі аднагодак-дзяўчат там не было, паненка расла са стрыечнымі братамі і стала выдатнай вершніцай, фехтавальшчыцай і стралком.

Старадаўні род — значыць, шмат шкілетаў у шафе, а гісторыя роду ў той час была важнай часткай адукацыі. Да ўсяго, Эмілія Плятэр вельмі любіла гісторыю. З таго, што магло моцна паўплываць на светапогляд дзяўчынкі, трэба згадаць падзеі Інфлянцкай вайны. У 1559 годзе Іван Жахлівы захапіў Дынабург (цяпер Даўгаўпілс у Латвіі) і паставіў ваяводам тутэйшага шляхціца — Людвіга Плятэра. Але ледзь толькі войскі Стэфана Баторыя наблізіліся да горада, Плятэр адчыніў перад імі браму. Пасля таго Плятэры сталі графамі.

У 1729 годзе адзін з Плятэраў выкупіў у Яна Чапскага горад Краслаў (цяпер Краслава ў Латвіі) ды пабудаваў тут свой замак і шмат іншых будынкаў. Яго нашчадкі будуць валодаць горадам і ваколіцамі доўгія гады. Найлепш запомніцца Аўгуст Геранім Плятэр, які жорстка ўціскаў «сваіх» сялян: калі тыя бунтавалі, ён пазычаў у губернатара армію, а на працу літаральна заганяў дубцамі.

### Прадвесніца беларускага Адраджэння

За стагоддзі бытавання ў Рэчы Паспалітай колішнія немцы апалячыліся, так што асяроддзе Эміліі было найперш польскамоўным. Літоўцы ў Вікіпедыі асцярожна пішуць, што паненка цалкам магла быць знаёмай з літоўскай мовай, але гэта толькі здагадкі. Затое няма ніякіх сумневаў, што Эмілія ведала і любіла мову беларускую.

Захаваліся ўспаміны Максімільяна Маркса, будучага паплечніка Кастуся Каліноўскага, які пазнаёміўся з Эміліяй яшчэ падлеткам. Маркс піша, што маладая жанчына «з запалам, уласцівым чуламу шляхетнаму сэрцу, аддалася душой беларускаму люду, добра бачыла яго бяду і спачувала яму, намагаючыся як толькі было можна палегчыць долю. Яна збірала і спявала беларускія народныя песні, **штодня плаціла тым, хто ёй напяваў іх**. Слухаючы гэтыя песні, сама спрабавала складаць нешта падобнае. На фартэпіяна яна ўмела вельмі выразна перадаць і зухаватасць, і тугу народных матываў, і нават тэмбр сапрана-жалейкі і баса-дудкі». ▶



FACEBOOK.COM/STANISLAS.PLATERZYBERK

**Плятэры** ўзгадваюцца ў хроніках з 1160 года. І хоць многія з іх былі рыцарамі і давалі зарок бясшлюбнасці, род дагэтуль жывы: у 2010 годзе ў ім было 80 мужчын. Галава роду, **Станіслас Плятэр-Зіберк (на здымку)**, жыве ў Бельгіі.



1

[illegible]

Antuzow
25 Marca.

Emilia Platerówna

ARCHIWUM GŁÓWNE AKT DAWNYCH W WARSZAWIE

**Цыдулка Эміліі Плятэр** аб далучэнні да паўстання. 25 сакавіка 1831 года.

Падчас свайго прыезду ў Віцебск паненка Плятэр спынялася ў іх доме, і менавіта тут Максімільян чуў, як Эмілія спявала. «Спеў гэты жаласны, тужлівы, горкі, выкліканы сардэчным болем, імправізаваны з канкрэтнай нагоды, падобны на выццё, якое нельга перадаць... Музыка рукамі выціраў слёзы, а я стаяў анямелы...» Відаць, гэта былі знакамітыя галашэнні беларускіх жанчын (звычайна над памерлымі сваякамі або з іншай сумнай нагоды).




**Максімільян Маркс** (1816–1893). Удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў, даследчык Сібіры. У 1888 напісаў мемуары «Запіскі старога», у якіх з цеплынёй апісваў асаблівасці беларускай мовы і людзей, што цікавіліся беларушчынай. Вось так Маркс занатаваў цытату з песні, якую спявала Эмілія:

*Авой, авой, дзяцюк ты мой!*
*Не на радасць, не к шчасцю ты радзіўся!*

Эміліі было 17 гадоў, калі аднаго з яе стрыечных братоў за надпіс крэйдай на дошцы віленскай гімназіі «Віват Канстытуцыя 3 мая!» саслалі салдатам на Каўказ, на вайну. А тым часам сцяну над ложкам у пакоі, дзе жыла Эмілія, упрыгожваў партрэт Тадэвуша Касцюшкі...

## Пакаранне за надпіс

А між тым у 1817 годзе студэнты Віленскага ўніверсітэта ствараюць таемнае Таварыства філаматаў (ад грэч. «аматары навук»). Таемнае для ўладаў, бо, здаецца, пра філаматаў ведала моладзь па ўсім колішнім Вялікім Княстве Літоўскім: у якасці філіялаў таварыства з'явіліся Саюз сяброў, Гурток прамяністых, Таварыства філарэтаў і Таварыства паэтаў, і ва ўсіх удзельнікаў былі сябры ды сваякі, да якіх ляцелі ў лістах крамольныя думкі.

Пра тое, як шырока распаўсюдзіліся ідэі філаматаў, можна меркаваць па тым, што ўжо ў 1823 годзе 108 студэнтаў аддалі пад суд — гэта быў найбуйнейшы студэнцкі працэс у Еўропе! Арыштаваных трымалі ў будынках кляштараў, а пасля прысудзілі да турмы (як Яна Чачота і Тамаша Зана) або адразу выслалі ў глыб Расіі (як Адама Міцкевіча).

Але дзяўчат тады ва ўніверсітэтах не вучылі. Дзяўчатам належала ісці замуж, апраўдаць чаканні родных, суцешыць трывогі старой маці. Прыгажуняй была Эмілія ці не, яна была Плятэр — і выбар у яе быў. Ды хіба пра шлюб марыць дзяўчына, якая захапляецца Жаннай д'Арк і грачанкай Бабалінай, што ў 1821 годзе ахвяравала ўсё сваё багацце на паўстанне супраць туркаў і сама ўдзельнічала ў баях, нават камандавала караблём?

У Плятэраў бываў камендант Дынабургскай крэпасці, расійскі

## Беларуская мова ў Латгаліі

Хтосьці можа здзівіцца, што Эмілія Плятэр, большая частка біяграфіі якой, а перадусім дзяцінства і юнацтва, звязаная з тэрыторыямі, якія сёння не ўваходзяць у склад Беларусі, а з'яўляюцца часткай Латвіі, з дзяцінства ведала і любіла, акрамя сямейнай польскай, менавіта беларускую, а не якую іншую мову.

Але на самай справе аніякай супярэчнасці тут няма. Частка тэрыторыі цяперашняга латвійскага рэгіёна Латгалія ў ваколіцах гарадоў Дзвінск (Дынабург, Даўгаўпілс), Краслаўка (Краслава), Рэжыца (Рэзекнэ), Ілукста (Ілукстэ), Люцын (Лудза) уваходзіла ў зону распаўсюджання беларускіх гаворак, у многіх мясцовых вёсках, акрамя тых, дзе жылі латышы ці рускія-стараверы, сяляне гаварылі па-беларуску.

У 1920-я гады, калі гэтыя землі ўвайшлі ў склад незалежнай Латвіі, тут дастаткова актыўна дзейнічалі беларускія нацыянальныя арганізацыі, працавалі беларускія школы. Першы агульналатвійскі перапіс насельніцтва, праведзены 14 чэрвеня 1920 года, засведчыў у Латвіі больш за 75 тысяч беларусаў, што складала каля 4,25% ад усяго насельніцтва краіны і 14% насельніцтва Латгаліі. Тут у той час працавалі такія вядомыя беларускія дзеячы, як Канстанцін Езавітаў, Іван Краскоўскі, Паўліна Мядзёлка, Сяргей Сахараў і іншыя.

Агульны ход гісторыі ў XX стагоддзі, аднак, зусім не спрыяў захаванню на гэтых тэрыторыях беларускасці. Як пры дыктатуры Карліса Улманіса (1934–1940), так і падчас савецкай акупацыі Латвіі любыя формы беларускай нацыянальнай актыўнасці былі тут фактычна забароненыя, у выніку чаго нашчадкі беларускамоўных бацькоў пераходзілі ў побыце на рускую ці латышскую мовы і не набывалі беларускай свядомасці.

Тым не менш рэшткі колішняй беларускамоўнасці яшчэ часткова захоўваюцца ў рэгіёне і сёння. Мовазнаўца Міраслаў Янковяк, правёўшы сацыялінгвістычнае даследаванне аднаго з раёнаў Латгаліі, у 2009 годзе нават



выдаў кнігу «Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі».

## Ланкастэрскія школы

Рухавіком распаўсюджання крамолы былі «ланкастэрскія школы» — гэта такая форма вучэбнай працы, сутнасць якой складалася ў навучанні больш старэйшымі і дасведчанымі вучнямі малодшых паводле ўзросту.

Асноўнай перавагай гэтай сістэмы было стымуляванне самаадукацыі — а менавіта самаадукацыю ставіла вышэй за ўсё прагрэсіўная моладзь. У першай чвэрці XVIII стагоддзя ў Беларусі адкрылі 13 такіх школ: у Гомелі, Мінску, Стоўбцах і іншых гарадах.

Але хутка ўрад занепакоіўся ростам і дзейнасцю «таемных» таварыстваў і ўзяў ланкастэрскія школы пад кантроль, запатрабаваў весці навучанне па табліцах, выдадзеных дэпартаментам народнай адукацыі, абмежаваў такія школы адмысловым статутам — і ўрэшце яны самі пазачыняліся.

генерал Міхаіл Каблукоў, прасіў рукі, але атрымаў адмову. Можа, таму, што быў грамадзянінам дзяржавы, што «грэбуе свабодай Літвы», як пішуць адны даследчыкі, можа, справа ў тым, што яна кахала іншага, свайго настаўніка матэматыкі барона Дальвінга, як пішуць іншыя. Але, найхутчэй, каханне тут ні пры чым, проста Эмілія марыла пра змаганне і не прымала шлях пакоры.

Эмілія адчувала, што нешта насоўваецца. У 1829-м яны з маці наведалі Варшаву і Кракаў — і паўстанне ўжо на ўласных землях стала перспектывай, з якой трэба было лічыцца.

У 1830-м маці Эміліі памерла. Але падзеі, якія адбыліся напрыканцы лістапада, захінулі боль. У першыя снежаньскія дні прыйшлі навіны з Польшчы: палякі паўсталі супраць імперыі!

## Захапіць Дынабург

Праз тры месяцы, у першыя дні сакавіка 1831 года, на Масленіцу, якую звычайна святкавалі цэлы тыдзень, Эмілія наведала сваіх сваякоў у Дынабургу. У мясцовай фартэцыі размяшчалася юнкерская школа, тут вучыліся яе стрыечныя браты Люцыян і Фердынанд Плятэры.

Відаць, народныя гулянні беларусаў, якіх тут была большасць, іншым разам парадавалі б апантаную збіральніцу беларускіх звычаяў і фальклору. Але гэтым разам было не да народных спеваў. Непадалёк, у Двеце (цяпер Двіеце, Латвія), дзе жыла адна з цётак Эміліі, мела адбыцца сустрэча тых, хто спачуваў паўстанню. Маладая жанчына не магла не прысутнічаць.

Таемная рада прайшла па-юнацку рамантычна, але планы, якія разглядаліся там, былі сур'ёзныя: пастанавілі захапіць Дынабургскую крэпасць. Эмілія запэўніла, што збярэ тысячы людзей і прывядзе іх пад муры Дынабурга. Хлопцы, у сваю чаргу, паабяцалі падрыхтаваць мяцеж унутры крэпасці і адкрыць інсургентам вароты. Галоўнай мэтай быў захоп зброі і рыштунку.

Удзельнікі таемнай рады прысягнулі адно аднаму на вернасць, а Эмілію пасвяцілі ў рыцара-панну. Мяча, якім па традыцыі трэба было б падпаясаць новага рыцара, не знайшлося, таму замест ▶



**Магчыма, гэта партрэт Эміліі Плятэр.** Мастак Тадэвуш Лукашэвіч, 1830 год.

WIKIMEDIA COMMONS

## Антырасійскае паўстанне 1830–1831 гадоў

Палякі называюць яго Лістападаўскім паўстаннем, расійскія гісторыкі — Польскім паўстаннем або Польска-расійскай вайной.

5 лістапада 1830 года ў Расіі ў сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі ў Францыі і Бельгіі выйшаў загад аб прывядзенні ў баявую гатоўнасць арміі Царства Польскага і Асобнага Літоўскага корпуса, якія планавалася выкарыстаць у якасці «жандараў Еўропы». Але задоўга да гэтага расійская адміністрацыя зрабіла шмат крокаў, каб гэтае паўстанне падрыхтаваць: парушала канстытуцыю, абмежавала дзейнасць мясцовага сейма, уціскала прэсу, судзіла студэнтаў.

Пачалося паўстанне 29 лістапада 1830 года з замаху на намесніка імператара ў Царстве Польскім вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Малодшыя польскія афіцэры вывелі свае падраздзяленні на вуліцы горада, дзе да іх далучыліся мясцовыя жыхары. Без бою была захоплена крэпасць Модлін, якая мела на ўзбраенні 60 гармат. Дыктатарам паўстання палякі абралі генерала Юзафа Хлапіцкага.

У студзені 1831 года пры падтрымцы эмісараў з Варшавы для кіраўніцтва паўстаннем у Жамойці і Літве-Беларусі быў створаны Цэнтральны Віленскі камітэт. Для сувязі паміж паўстанцкімі камітэтамі Вільні і Варшавы былі вызначаныя паролі: «Кейстут» — для тых, хто накіроўваўся ў Царства Польскае; «Баторый» — для тых, хто прыбываў у Літву. Акрамя гэтага, эмісар павінен быў мець пры сабе медны грош 1824 года са сцёртай імперскай каронай.

25 студзеня 1831 года ў Варшаве на дэманстрацыі ў падтрымку дзекабрыстаў упершыню быў выкарыстаны дэвіз «У імя Бога, за нашу і вашу свабоду», прыдуманы Іаахімам Ляпевелем. Ён хутка стаў папулярным і змяшчаўся на паўстанцкіх штандарах са знакам чырвонага крыжа з двух бакоў на польскай і рускай мовах, часта ў скарочанай форме: «За нашу і вашу свабоду».

На землях былога ВКЛ дзейнічала больш за трыццаць партызанскіх атрадаў, якімі камандавалі адстаўнікі-вайскоўцы, шляхцічы, мяшчане і студэнты. Але ні сярод прафесійных вайскоўцаў, ні сярод патрыятычна настроеных грамадзян не знайшлося моцнага лідара — таленавітага і аўтарытэтнага кіраўніка, які б здолеў аб'яднаць усе сілы і выпрацаваць адзіную стратэгію ваенных дзеянняў. Цэнтральны паўстанцкі камітэт у Вільні займаў даволі пасіўную пазіцыю і таму не адыграў значнай ролі ў ходзе паўстання, якое ў выніку пацярпела паразу.

▸ рыцарскай зброі Эмілія атрымала ад хлопцаў у падарунак невялікую паляўнічую стрэльбу.

### Літва паўстала!

Таемныя атрады тым часам выспявалі ў розных месцах — і 26 сакавіка 1831 года пачалося. Невялікі гарнізон расійскай арміі пасля кароткага бою капітуляваў і быў абяззброены атрадамі паўстанцаў, якія з трох бакоў увайшлі ў мястэчка Расейны Віленскай губерні (цяпер Расейняй у Літве).

Урачыста было аб'яўлена аб далучэнні горада да Царства Польскага. Насельніцтву гарантаваліся свабода, роўнасць і братэрства. «Літва паўстала!» — напішуць у тагачаснай польскай перыёдыцы.
У беларускую гістарыяграфію гэты дзень увойдзе як пачатак антырасійскага паўстання ў Жамойці і Літве-Беларусі.



**Так сёння выглядае Дынабургская крэпасць, якую марыла захапіць Эмілія Плятэр.** На яе тэрыторыі, дарэчы, стаіць помнік яшчэ аднаму Плятэру — Леану, аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў.

VISITDAUGAVPILS.LV

## Аляксандр Рыпінскі

Сярод дынабургскіх змоўцаў быў таксама Аляксандр Рыпінскі (1809–1886). Ён паходзіў з-пад Віцебска, цікавіўся беларускім фальклорам, з юнацтва збіраў фальклорныя беларускія запісы. Калі стала ясна, што паўстанне прайграла, са сваім атрадам перайшоў у Прусію. Жыў у Парыжы і Лондане, выдаваў польскія і беларускія кнігі (менавіта ён, дарэчы, увёў у лацінскі шрыфт літару *й*, каб пазначаць «у нескладовае»). Пасля амністыі ў 1859 годзе вярнуўся на радзіму, працаваў над гісторыяй беларускай літаратуры.



Аляксандр Рыпінскі першы ўвёў у лацінскі шрыфт літару *й*, каб пазначаць «у нескладовае». **На фота ён (крайні злева) з сябрамі па Дынабургскай школе падхаружых, сярод якіх (другі злева, у акулярах) Люцыян Плятэр, стрыечны брат Эміліі.** Літаграфія з працы Юзафа Страшэвіча «*Les Polonais et les Polonaises ou 100 portraits et biographies des personnes, qui ont figurè dans la dernière guerre*» (Парыж, 1832–1837).

А 29 сакавіка Эмілія Плятэр з ад'ютанткай Марыяй Прушынскай конна ўехалі ў мястэчка Дусяты (цяпер Дусетас на паўночным усходзе Літвы). Выгляд дзяўчат быў эпатажна-ваяўнічы. Эмілія, узброеная двума пісталетамі і апранутая па-мужчынску, несумненна прыцягвала ўвагу. Яна дачакалася завяршэння імшы ў касцёле і выступіла з палымянай прамовай аб пачатку паўстання перад месцічамі, якія стоўпіліся на плошчы. За спінай жанчыны трымцела на ветры вынесеная з храма харугва з выявай Маці Божай Вастрабрамскай: яе шанавалі і каталікі, і праваслаўныя.

Хутка ў Эміліі быў даволі буйны партызанскі атрад колькасцю 280 стралкоў, 60 вершнікаў і некалькіх соцень сялян, узброеных косамі. Ёй значна дапамог дваццацігадовы стрыечны брат Цэзары Плятэр, які далучыў да яе сваіх паўстанцаў. Але тут, у Дусятах, менавіта Эмілія першай узняла штандар і гукнула: «Пара!»




**Схема крэпасці 1830-х гадоў.**

### Прыгоды атрада Плятэранкі

Эмілія не забылася пра свой амбіцыйны план — захапіць Дынабургскую фартэцыю. Ад Дусятаў да Дынабурга — 50 кіламетраў, два дні пешшу, але ў гэтым азёрным краі нельга было ісці напрасткі. Атрад рушыў на поўдзень, да дарогі. А на дарозе трэба ваяваць.

Паўстанцы перамаглі расійскі атрад ля паштовай станцыі ▸

▶ Даўгелі, выстаялі ў сутычцы з адной з калон (ахоўнай часткі) корпуса расійскага генерала Фёдара Шырмана, далі бой пад Уцянамі (цяпер літоўскі горад Уцяна). Ужо на паўдарозе да Дынабурга, 4 красавіка, атрад Эміліі ўзяў мястэчка Езяросы (цяпер горад Зарасай у Літве) — і жанчына ўласнай рукой упісала акт паўстання ў гарадскую і судовую кнігі. Засталося 20 км — там, у Дынабургу, чакаюць!

Але паўстанцаў спынілі казакі. Давялося ўцякаць. Недзе недалёка ваяваў сам Караль Залускі, якога ячшэ ў сакавіку абралі кіраўніком паўстанцкага ўрада, — і Эмілія прывяла сваіх людзей найперш да яго. Гэты манеўр заняў два месяцы.

У пачатку чэрвеня Эмілія Плятэр далучаецца да рэгулярнага войска польскага генерала Дэзідэрыя Хлапоўскага. Тут служыў і малады выпускнік Віленскага ўніверсітэта Ігнат Дамейка, які пакінуў нам цікавыя ўспаміны: «Да нас далучыўся даволі шматлікі, добра абмундзіраваны, узброены пікамі і палашамі кавалерыйскі атрад пад камандаваннем Плятэранкі. З ёю былі паўстанцы Цэзары і Уладзіслаў Плятэры, шмат цывільнай моладзі і пешых самаахвотнікаў».

Нягледзячы на жахі вайны, баявыя няўдачы і побытавыя нязручнасці, маладая графіня трымалася надзіва годна. Нават ва ўмовах ляснога партызанскага лагера Эмілія паказвала «адпаведнае найвышэйшаму свету выхаванне і абыходжанне». Зноў дамо слова Ігнату Дамейку: «Плятэранцы (так ён называў у сваіх успамінах Эмілію Плятэр, такой формай падкрэслівалася, што яна незамужняя дзяўчына) ніяк не было больш за 24 гады, невысокая, бялявая, круглатварая, з прыемным, сімпатычным тварам, з блакітнымі вачыма, зграбная, але слабага целаскладу. Сур'ёзная, у абыходжанні больш суровая, чым прыветная, негаваркая, ужо позіркам яна давала зразумець, што патрабуе адпаведнага стаўлення і прыстойнасці. І ніхто ў табары не дазволіў сабе ў яе прысутнасці сказаць якоесь недарэчнае слова ці жарт. Кожны з нас у абыходжанні з ёю паводзіў сябе ветліва і далікатна. Плятэранка была апранута ў шарачковы да кален сурдуцік з чырвоным каўняром і карункавым каўнерыкам вакол шыі (ён быў ёй вельмі да твару), у шырокія і доўгія шаравары, валасы коратка падстрыжаныя, на галаве мужчынская шапка, за поясам кінжал, збоку кароткая шабля, на боціках сярэбраныя шпоры. Сціплая, без ненатуральнай прэтэнзіі, на кані трымалася стройна. З ёю была неадлучная, такой жа, як і яна, статнасці яе прыяцелька, прыстойная, вясёлая, усім сімпатычная паненка Рашанавічанка».


WIKIMEDIA COMMONS


WFDIF.PL

**У 2017 годзе ў Польшчы знялі 17-хвілінны фільм «Эмілія Плятэр у сутычцы пад Шаўлямі» паводле карціны мастака Войцеха Косака, напісанай у 1904-м (уверсе).** На ёй Эмілія Плятэр ва ўпор адстрэльваецца з пісталетаў ад казакаў. На абоз, які яна ахоўвала, напалі знянацку. Жанчыну выратаваў маёр Пётр Павел Кекерніцкі, які аддаў ёй уласнага каня, а сам трапіў у палон. Трэйлер глядзіце па спасылцы.



## Апошні баль

У польскім войску Эмілію прынялі і залічылі ў склад штаба: яе смеласць і рашучасць выклікалі павагу. Жанчыну прызначылі ганаровым камандзірам роты 25-га пяхотнага палка. Акрамя таго, яна атрымала званне капітана.

Яе любілі. Магчыма, былі і таемныя паклоннікі. Але нагоды заляцацца яна не давала. Не вылучаючыся надзвычайнай прыгажосцю твару (калі верыць суб'ектыўнаму меркаванню аднаго з яе сучаснікаў), Эмілія зачароўвала прыгажосцю ўнутранай. У баях старалася не ствараць клопату для сваіх аднапалчан, якія ўсяляк абаранялі сваю «паненку Плятэр».

Калі аб'яднаныя ў корпус паўстанцкія атрады падчас вырашальнага паходу на Вільню занялі Коўна, у доме павятовага доктара па запрашэнні яго жонкі Караліны Кавальскай, дарэчы, вядомай сваім сяброўствам з Адамам Міцкевічам, быў арганізаваны баль у гонар Эміліі Плятэр. Многія танчылі на гэтай вечарыне апошні раз у сваім жыцці. Апошні раз кружылася ў танцы і наша гераіня. Цалкам верагодна, што падлога гэтага гасціннага дома страсалася і ад завадных скокаў беларускай «Лепятухі», якая выдатна выходзіла ў Эміліі: «Танцоры па-заліхвацку кідаліся ў розныя бакі, моцна тупалі нагамі, пляскалі ў далоні і час ад часу выкрыквалі "га-гу!"».

А 19 чэрвеня паўстанцы біліся на Панарскіх вышынях за Вільню. Аб'яднанае войска партызан і салдат польскай рэгулярнай арміі налічвала каля 12 000 чалавек.

**Вайсковыя званні для жанчын** тады ўжо не былі нечым неймаверным: афіцэрамі ў час паўстання 1830–1831 гадоў сталі дзве кракавянкі, Дэмбіцкая і Дэмбінская. З нашых земляў паходзілі ўдзельніцы паўстання, кампаньёнкі Эміліі Марыя Прушынская і Марыя Рашановіч, а таксама сваячка Эміліі Габрыэля Агінская.





Як выглядала Эмілія Плятэр, дакладна невядома. Таму мастакі малююць яе па-рознаму. **Паводле ўспамінаў Ігната Дамейкі, яна была бялявай з блакітнымі вачыма.**

Але ў расійскага боку было ўдвая больш войска і шмат зброі, так што паўстанцы панеслі цяжкае паражэнне. Найперш маральнае: згубіўшы 2 000 чалавек, паўстанцы страцілі веру ў сябе.

Было прынята рашэнне перайсці ў Прусію і скласці там зброю. Ігнат Дамейка так апісваў размову падчас аднаго з начных прывалаў: «Шмат нас, ліцвінаў, сядзела каля раскладзенага ў полі вогнішча... Праз усю ноч доўжылася напераменку то сумная, няўцешная, то весялейшая размова, што ажыўляла надзею. Мы пыталіся адзін у аднаго: "Куды ідзём?"... У размовы не ўмешвалася Плятэранка, бледнатварая, спакойная. А калі яна бачыла весялейшых, казала: "Цешцеся, звядуць вас у Прусію на ганьбу народа"».

Не пагадзіўшыся з загадам Хлапоўскага перайсці ў Прусію і скласці там зброю, бо «лепей загінуць з гонарам, чым скончыць такой ганьбай», Эмілія вырашыла самастойна дабрацца да Польшчы, каб працягнуць узброеную барацьбу. У кастрычніку рушыла ў шлях па лясных дарогах разам з братам і сваёй неадлучнай ад'ютанткай. Паўстанне было амаль задушана, паўстанцаў, затрыманых са зброяй, расійская армія расстрэльвала на месцы.

Стомленая ад нервовай напружанасці, голаду і холаду, Эмілія сур'ёзна захварэла. Яе прынялі ў сядзібе сям'і Абламовічаў у Юсцянаве тагачаснага Сейненскага павета (цяпер на паўднёвым захадзе Літвы, непадалёк ад мяжы з Беларуссю і Польшчай). Гаспадары з небяспекай для сябе хавалі яе пад выглядам настаўніцы шляхецкіх дзяцей, лячылі як умелі, але выратаваць не здолелі. Эмілія Плятэр памерла 23 снежня 1831 года. Была пахавана непадалёк, на могілках у мястэчку Копцева каля Друскенікаў (цяпер гэта мястэчка Капчамесціс у Літве). Царскія ▶



**На Вільню!** Лінарыт Міколы Купавы.

улады пасмяротна залічылі яе да дзяржаўных злачынцаў першага разраду. Маёмасць канфіскавалі. Падчас ператрусаў бясследна зніклі дакументы, а таксама сшыткі з запісамі Эміліі, дзе, напэўна, значную частку займалі занатаваныя народныя спевы, а таксама яе беларускія вершы.




Еўрапейцы бачылі ў графіні Плятэр **новую Жанну Д'Арк.** Карціна нямецкага мастака Георга Бенедыкта Вундэра.

### Вялікая эміграцыя

Адным з вынікаў паўстання 1830–1831 гадоў стала «Вялікая эміграцыя». Каля 1700 былых паўстанцаў з беларуска-літоўскіх губерняў (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай) пакінулі сваю радзіму і выехалі ў еўрапейскія краіны.

Пасля разбору шляхты амаль 10 тысяч сем’яў былі пазбаўленыя шляхецкіх (дваранскіх) правоў і пераведзеныя ў саслоўе аднадворцаў або мяшчан. Частку былой шляхты гвалтоўна перасялілі ў Херсонскую і Таўрычаскую губерні Расійскай імперыі.

10 снежня 1831 года ў Парыжы пачала сваю дзейнасць грамадска-палітычная арганізацыя «Таварыства літоўскіх і рускіх зямель». Таварыства, куды ўваходзілі ўраджэнцы Літвы-Беларусі, Жамойці і Украіны, узяло на сябе працу па зборы ўспамінаў удзельнікаў паўстання, а таксама падрыхтоўцы тэарэтычных прац, якія ў далейшым маглі б дапамагчы ў барацьбе за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Узначаліў гэту арганізацыю Цэзары Плятэр, які напісаў: «ліцвіны... змушаныя да выгнання, сабраліся ў Парыжы і ўбачылі, што Еўропа не мае адпаведных рэчаіснасці ўяўленняў пра паўстанне ў Літве, а таксама і пра саміх ліцвінаў, таму... стварылі таварыства». Аб’яднанне эмігрантаў былога ВКЛ павінна было садзейнічаць захаванню гістарычнай памяці і іх самасвядомасці, адметнасці ад палякаў. Нават пачатак паўстання яны святкавалі 26 сакавіка (дзень выступлення ў Расейнах), а не 29 лістапада, як у Польшчы. Таварыства дзейнічала да 7 ліпеня 1833 года.

### Пагоны палкоўніка ад Адама Міцкевіча

Эмілія Плятэр загінула не ў баі — але ўсё адно стала легендай. Адам Міцкевіч, адзін з філаматаў, што некалі




### Ордэн *Virtuti Militari*

заснаваны Станіславам Аўгустам Панятоўскім у 1792 годзе ў гонар перамогі над расійскім войскам у бітве пад Зяленцамі. Найвышэйшая ўзнагарода паўстанцаў 1830–1831 года.

7 лістапада 1831 года расійскі імператар Мікалай I зацвердзіў «свой» ордэн ваеннай доблесці *Virtuti Militari*, які адрозніваўся ад існуючага тым, што замест «1792» была выбіта дата «1831». Да 1808 года на аверсе крыжа *Virtuti Militari* быў змешчаны «Белы Арол», а на рэверсе — «Пагоня», але апошнюю па патрабаванні расійскага імператара Аляксандра I замянілі на надпіс *Rex et Patria* («Кароль і Айчына»).

Гэты ордэн павінны былі атрымаць усе генералы, афіцэры і ніжнія чыны расійскай арміі, якія ўдзельнічалі ў задушэнні паўстання. У перыяд лістапад 1831-га – чэрвень 1835-га) было адбіта 100 тысяч знакаў. Такім чынам кавалерамі ордэнаў, якія мелі аднолькавую назву *Virtuti Militari*, сталі як самыя адважныя паўстанцы, так і іх праціўнікі.

натхнялі яе, відаць, на вывучэнне фальклору, напісаў у 1832 годзе пра ліцвінскую Жанну Д'Арк верш «Смерць палкоўніка». Вялікі паэт «павысіў» у рангу ганаровага капітана — відаць, як даніну павагі.

Ды чаму твар дзявочы ў байца?
Два грудкі…
Хто мог знаць, што баёў завадатар
Быў… дзяўчына! Была — слёз
не трэба , жанкі, —
То ліцвінка Эмілія Плятэр!

*Пераклад Кастуся Цвіркі*

Маладой графіні, якая кінула ў жорны паўстання асабістае жыццё, прысвяцілі свае творы польскія, французскія, нямецкія, англійскія, італьянскія, венгерскія і іншыя паэты і пісьменнікі. Еўрапейскія мастакі з захапленнем ляпілі вобраз бясстрашнай жанчыны-военачальніцы, кіраўніцы паўстання: «Эмілія Плятэр у перастрэлцы ў Шаўлях», «Эмілія Плятэр на чале сялян-касінераў», «Эмілія Плятэр падчас бітвы» і г. д.

А насамрэч яна была звычайная і сапраўдная, з усімі сваімі жаночымі слабасцямі. Магла і прытомнасць страціць проста на полі бою, магла і паплакаць ад бездапаможнасці і адчаю. Думаецца, гераічнае ваярства хутка засталося ў юнацкіх рамантычных снах. Але яна любіла сваю Айчыну і марыла пра яе свабоду. ◆



ROBLEPAIR.WORDPRESS.COM

**Клемаціс** сорта Эмілія Плятэр.



PRZEGLADBALTYCKI.PL

**Помнік у Юсцянаве** (цяпер Вайняжарыс у Літве).

*Віктар Шніп*

## Балада Эміліі Плятэр

Юная графіня, ты не хочаш танчыць,
Спакушаць мужчынаў і ўцякаць ад іх,
І не спаць начамі, зоркі ў небе бачыць,
Нібы россып кветак побач ног сваіх,
Бо не час для танцаў, бо твая Айчына
Больш трываць не можа
здзеку чужакоў.
І няхай паўстанне — гэта
шлях мужчынаў
Да прыснёнай волі праз агонь і кроў —
Ты яго абрала, нібы пакахала
Маладога воя, што аддаў табе
Пад тваё ўладанне і душу, і цела…
Завіруха ў лесе ноч усю гудзела,
Ля цябе спявала, плакала ў журбе.
Ну а ты шаптала горача малітву
І, як свечка, гасла на вачах сяброў.
Мы свой край не страцім,
праіграўшы бітву,
Бо за волю края пралілася кроў,
І яна святая, як і ты святая
Для зямлі, якою заўтра станеш ты —
І ўваскрэснеш зоркай
па-над нашым краем,
Краем, што аднойчы выйдзе
з цемнаты…

*2008 год*



DEPOSITPHOTOS.COM, BY MKOS83

У Варшаве **імя Эміліі Плятэр носіць вуліца ў самым цэнтры горада.**

# Ці былі патрэбныя паўстанні XIX стагоддзя?

**Разважае намеснік галоўнага рэдактара «Нашай гісторыі», кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**




**Адыход у Прусію.** Карціна нямецкага мастака Дзітрыха Мантэна. 1832 год.

Пытанне, здавалася б, дзіўнае, бо ў нашым сучасным уяўленні паўстанні 1830–1831, а асабліва 1863–1864 гадоў успрымаюцца звычайна вельмі станоўча. Гэта моцны ўздым нацыянальнага духу, выступленне народаў былой Рэчы Паспалітай супраць акупацыйнай улады Расійскай імперыі, якая імкнулася «пераправіць» захопленыя землі, цалкам іх уніфікаваўшы і русіфікаваўшы. Урэшце, менавіта з тых часоў паходзяць слаўныя чыны многіх гістарычных постацяў, якіх мы сёння ўспрымаем як беларускіх нацыянальных герояў. Найяскравейшы прыклад — Кастусь Каліноўскі, перапахаванне парэшткаў якога ў Вільні ў лістападзе 2019 годаператварылася ў грандыёзную нацыянальную маніфестацыю.

Але насамрэч нічога недарэчнага ў такой пастаноўцы пытання няма. Падобным чынам яно нярэдка ставіцца не толькі ў нас, але і ў суседняй Польшчы, дзе з тых паўстанняў створаны сапраўдны культ. Бо калі мы яшчэ можам спрачацца адносна таго, наколькі вялікі ў іх быў беларускі нацыянальны чыннік і ці маем мы ўвогуле права на гэтую спадчыну, то ў палякаў ніякіх сумневаў у польскасці гэтых паўстанняў няма і быць не можа.

Пытанні ж адносна мэтазгоднасці ўзнікаюць, бывае, і ў палякаў таму, што, як вядома, абодва паўстанні скончыліся цяжкой паразай і пасля іх на доўгія дзесяцігоддзі польскія справы апынуліся ў нашмат горшых умовах, чым гэта было раней. Раз'юшаныя ўлады Расійскай імперыі жорстка помсцілі «няўдзячнаму» грамадству, руйнуючы тыя інстытуты, якія раней дазвалялі ладзіць у рамках імперыі больш-менш камфортнае нацыянальнае жыццё, нягледзячы на адсутнасць палітычнай незалежнасці. Не кажучы пра тое, што былі паламаныя дзясяткі тысяч людскіх лёсаў.

### Польскі погляд на паўстанні

Найбольш балючыя страты былі панесеныя пасля паўстання 1830–1831 гадоў, бо тады было асабліва шмат чаго траціць. Рэч у тым, што пасля перамогі над Напалеонам у 1815 годзе да Расійскай імперыі паводле рашэння Венскага кангрэса адыходзіў ладны кавалак этнічна польскіх земляў, большая частка створанага Напалеонам у 1807 годзе Вялікага Герцагства Варшаўскага. На гэтых землях была ўтворана асобная

адміністрацыйная адзінка пад назвай Царства Польскае.

Пры Аляксандру I, які даволі прыязна ставіўся да палякаў, на тэрыторыі Царства Польскага праводзілася дастаткова ліберальная як для Расійскай імперыі палітыка. Яму была дадзена канстытуцыя, паводле якой ключавыя пасады ў царстве маглі займаць толькі мясцовыя ўраджэнцы, а імператарскі намеснік не меў права прымаць ніякіх важных рашэнняў без згоды створанай пры ім дзяржаўнай рады. Некаторыя важныя пасады занялі асобы, якія былі высокімі чыноўнікамі яшчэ ў Рэчы Паспалітай і нават у напалеонаўскім Вялікім Герцагстве Варшаўскім.

Дзейнічалі тут таксама сейм і мясцовыя сеймікі. Польская мова была афіцыйнай, менавіта на ёй працавалі ўсе дзяржаўныя ўстановы, яна ж дамінавала і ў сферы адукацыі. Акрамя таго, канстытуцыя Царства Польскага прадугледжвала асаблівыя правы для Рыма-Каталіцкай царквы, таксама ў ёй прапісваліся асноўныя дэмакратычныя свабоды.

Тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, якімі Расія завалодала яшчэ да 1815 года (сучасныя Беларусь і Літва, правабярэжная Украіна, Беласточчына), у склад Царства Польскага ўключаныя не былі, таму на іх гэтая канстытуцыя не распаўсюджвалася. Але і тут мясцовыя эліты захоўвалі свае маёмасныя і палітычныя ўплывы, а польская мова заставалася фактычна афіцыйнай мовай краю.

Вядома, нельга сказаць, што гэта ўсё было так ужо ідылічна. Не заўсёды ўсе палажэнні, запісаныя ў канстытуцыі і іншых законах, строга выконваліся, былі шматлікія нюансы. Да таго ж напрыканцы кіравання Аляксандра I, а асабліва пасля яго смерці і ўцаравання ў канцы 1825 года новага імператара, Мікалая I, рабіліся ўсё больш рашучыя крокі па абмежаванні дэклараваных правоў палякаў. Так што асабліва забыцца пра тое, што яны жывуць у акупаваным краі, у іх не атрымлівалася. А тым больш цяжка было гэта зрабіць тым прадстаўнікам грамадскай эліты былой Рэчы Паспалітай, якія жылі па-за межамі Царства Польскага. Пытанне адносна аб'яднання ўсіх тэрыторый былой Рэчы Паспалітай у адну адміністрацыйную адзінку, на якой дзейнічала б канстытуцыя Царства Польскага, увесь час ставілася, але пазітыўнага вырашэння не атрымлівала.

Не дзіўна таму, што ў лістападзе 1830 года ў Польшчы, а таксама ў Беларусі, Літве і правабярэжнай Украіне выбухнула паўстанне, якое працягвалася амаль год ▸

## Без Статута і Уніі

Для Беларусі самымі буйнымі стратамі пасля задушэння паўстання 1830–1831 гадоў сталі, акрамя закрыцця Віленскага ўніверсітэта, адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага з пераходам цалкам на агульнарасійскае заканадаўства і ліквідацыя ў 1839 годзе Брэсцкай царкоўнай уніі.

І адно, і другое моцна паўплывала на стан грамадскага жыцця ў краі. Вядома, што асобнае заканадаўства — моцны чыннік адметнасці тэрыторыі. Нездарма ж і пры сучасных паглыбленнях міждзяржаўнай інтэграцыі найперш вядзецца гаворка пра ўніфікацыю ці гарманізацыю нарматыўных актаў.

Што тычыцца царкоўнай уніі, то сама па сабе яе наяўнасць таксама вызначала адметнасць краю, вылучала беларусаў-уніятаў як сярод палякаў-каталікоў, так і сярод рускіх-праваслаўных. Праўда, да XIX стагоддзя ўсходні абрад грэка-каталіцтва зазнаў вялікі ўплыў з боку абраду лацінскага, і ўвогуле ў ім былі заўважныя паланізацыйныя тэндэнцыі. Але ў той жа час у параўнанні з іншымі канфесіямі тут было ўсё ж найбольш беларускіх элементаў, што і не дзіўна, улічваючы тое, што пераважная большасць вернікаў-уніятаў былі беларускамоўнымі сялянамі. А таму можна было б спадзявацца, што калі б унія тады ацалела, то ў будучыні яе роля ў нацыятворчых працэсах магла б быць параўнальнай з той, якую яна адыграла ва ўкраінскай Галіччыне. Невыпадкова прафесары Віленскага ўніверсітэта 1820-х гадоў, якіх некаторыя даследчыкі схільныя лічыць нават пачынальнікамі беларускай ідэі, такія як Міхал Баброўскі, Ігнат Даніловіч, Ігнат Анацэвіч, Платон Сасноўскі і Язэп Ярашэвіч, былі «паповічамі» — сынамі ўніяцкіх святароў.

Праўда, не факт, што калі б паўстання 1830–1831 гадоў не было, то ліквідацыя уніі не адбылася б. Такія планы ў расійскіх уладаў былі і перад паўстаннем, бо да ўніяцтва яны заўсёды ставіліся нецярпіма. Праект аб'яднання ўніятаў з праваслаўнымі быў складзены яшчэ ў 1827 годзе. Але калі б працэс зацягнуўся, то гэта было б зрабіць ужо куды цяжэй. Пра тое сведчыць прыклад усходніх раёнаў Царства Польскага, дзе аб'яднанне ўніятаў з праваслаўнымі наважыліся правесці толькі ў 1875 годзе. Калі яшчэ менш за 40 гадоў да таго на вялікай тэрыторыі ўсё прайшло больш-менш гладка, то ў 1870-я ўжо каса шмат дзе находзіла на камень. Сяляне актыўна супраціўляліся, адмаўляліся прымаць праваслаўных святароў, байкатавалі праваслаўныя цэрквы, а шмат з іх у знак пратэсту перайшлі ў рыма-каталіцтва, спачатку фактычна, а пасля і фармальна.

▶ і было жорстка задушанае ўрадавымі войскамі. Што мела вельмі кепскія наступствы. Шмат удзельнікаў паўстання былі забітыя ў баях ці пакараныя смерцю, многія пазбаўленыя маёмасці і высланыя ўглыб Расіі, нямала было тых, каму давялося эміграваць.

Але галоўнае нават не гэта. Пасля паўстання мала што засталося ад ранейшых дадзеных палякам прывілеяў. У Царстве Польскім была адменена канстытуцыя, ліквідаваныя сейм, урад і ўласная армія. Таксама былі ліквідаваныя найбуйнейшыя адукацыйныя пляцоўкі, у тым ліку Варшаўскі і Віленскі ўніверсітэты. Пачалася барацьба з Каталіцкай царквой, а таксама наступленне на правы шляхты, асабліва сярэдняй і дробнай.

Фактычна аказалася, што палякі за сваё жаданне хутка аднавіць незалежнасць шляхам узброенага паўстання большасць набыткаў, якія змякчалі ім існаванне пад акупацыяй, страцілі, нічога ўзамен не набыўшы. А новае, зноў няўдалае паўстанне, якое выбухнула праз 30 з лішкам гадоў, у 1863–1864 гадах, сітуацыю толькі яшчэ больш абцяжарыла. Аж да таго, што пэўны час пасля яго не дазвалялася збірацца гуртам нават на сямейныя ўрачыстасці, не дапускалася выкарыстанне польскай мовы ў публічных месцах, а на друк па-літоўску і па-беларуску лацінскім шрыфтам забарона трымалася аж да пачатку XX стагоддзя.

То, можа, не варта было тады і ўвогуле варушыцца? Можа, лепш было б усім сядзець ціха і не будзіць ліха?

## Гісторыя — не шахматная партыя

Традыцыя ўзброеных нацыянальна-вызваленчых і проста народных паўстанняў за свае правы старая як свет. Мы ведаем у гісторыі іх вельмі шмат у розныя часы, у розных народаў і на розных кантынентах. І далёка не ўсе яны заканчваліся перамогай паўстанцаў. Нават наадварот, часцей уладам рана ці позна ўдавалася даць ім рады. І зусім рэдка бывала, каб задушэнне паўстанняў не заканчвалася жорсткімі рэпрэсіямі, ад якіх цярпелі цэлыя супольнасці.

Але, як ні парадаксальна, у балючых паразах можа быць не толькі адмоўны, але і станоўчы бок. Сумесны ўсвядомлены досвед праходжання праз суровыя выпрабаванні спрыяе загартоўцы і згуртаванню супольнасці, змушае яе цаніць і шанаваць тое, што літаральна выпакутавана пакаленнямі цаной вялікіх ахвяр. Так і паўстанні XIX стагоддзя далі шмат герояў, пра якіх складаліся легенды, прыкладамі якіх людзі кіраваліся самі і вучылі дзяцей. Памяць пра ахвяры і легенды, якімі ахутваліся падзеі паўстанняў, клаліся ў аснову ў тым ліку літаратурных, мастацкіх твораў, гістарычных прац. На якіх, у сваю чаргу, выхоўваліся новыя пакаленні патрыётаў, якія пасля, ужо ў належны гістарычны момант, дасягнулі таго, чаго не змаглі дабіцца продкі. Падобны маральны чыннік ніяк нельга недаацэньваць.

Але чаму б тым продкам самім было не пачакаць таго належнага гістарычнага моманту, захаваўшы тым самым жыцці людзей, не ламаючы іх лёсы і не ствараючы лішніх цяжкасцяў для існавання народа? Ці не праявілі яны злачынную неабачлівасць, выступаючы супраць магутнай імперыі ў неспрыяльны момант без усялякіх шанцаў на перамогу?

На самай справе, так лёгка гаварыць і ацэньваць пастфактум, калі максімальна праясняецца ўся дыспазіцыя: і ўласныя магчымасці, і сілы ды намеры праціўніка, і настроі ды памер супярэчнасцяў у сваім ды процілеглым лагерах, і пазіцыя знешніх чыннікаў, ды і ўвогуле самі тэндэнцыі развіцця чалавечага грамадства і на мясцовым, і на глабальным узроўні. Гэта сёння мы ведаем, што паўстанні тыя былі не толькі зусім слаба арганізаваныя, але да таго ж у тых умовах не склалася ні ўнутраных, ні знешніх фактараў, якія маглі б прывесці да іх перамогі. Бо перад намі як на далоні не толькі вынікі канкрэтных паўстанняў, але і панарама таго, што адбывалася праз гады, дзесяцігоддзі ці нават стагоддзі пасля іх. А тыя людзі, якія тады падымаліся на паўстанні, будучыні, натуральна, не ведалі, перад іх вачыма былі толькі мінулае і сучаснасць. Зыходзячы з гэтага і прымаліся рашэнні.

**Суровыя выпрабаванні змушаюць цаніць тое, што выпакутавана цаной вялікіх ахвяр**

А нейкія, хоць бы мінімальныя шанцы — яны ж ёсць заўсёды. Часам вырашальнае ўздзеянне на зыход барацьбы аказваюць не толькі аб’ектыўныя фактары, але таксама і дапушчаныя ў ходзе яе тым ці іншым бокам памылкі і пралікі. Ды і ўвогуле шмат чаго

можа залежаць ад нечаканага збегу абставін. Гісторыя — гэта ніколі не шахматная партыя, пры якой усе фігуры маюць дакладна акрэсленыя магчымасці хадоў, па-за якія не могуць выходзіць, а таму ўсё можна пралічыць на шмат хадоў наперад. Як бы ты да нечага ні падрыхтаваўся — заўсёды ёсць месца нечаканасці.

## Бунтары і «згоднікі»

Народы Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, паняволеныя ў межах Расійскай і Аўстрыйскай (пасля Аўстра-Венгерскай) імперый, у XIX стагоддзі амаль усе сутыкаліся з выбарам — паўставаць ці не паўставаць супраць сваіх мучыцеляў і прыгнятальнікаў. І развязвалі гэтую дылему па-рознаму.

Расійскай імперыі ўсё XIX стагоддзе ўдалося ўтрымаць у лаяльнасці сабе фінаў, эстонцаў і латышоў — буйных антырасійскіх выступленняў на іх землях не адзначалася. Фіны да пары задавольваліся сваім найбольшым ва ўсёй імперыі ўзроўнем аўтаноміі ў выглядзе Вялікага Княства Фінляндскага, а латышы і эстонцы ў якасці галоўных сваіх ворагаў і супернікаў бачылі тады не Расію, а мясцовыя нямецкамоўныя эліты, якія панавалі тут яшчэ з часоў крыжацкіх ордэнаў.

Народы, якія ўваходзілі ў склад Аўстрыйскай імперыі, перажылі нацыянальны ўздым падчас «Вясны народаў» 1848–1849 гадоў. Тады па ўсёй імперыі пракацілася хваля паўстанняў, якія ў гістарыяграфіі часта называюцца рэвалюцыямі: у Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Галіцыі (населенай палякамі і ўкраінцамі), Паўночнай Італіі, Харватыі, Трансільваніі (населенай венграмі і румынамі), Ваяводзіне (населенай перадусім венграмі і сербамі), Далмацыі, Славеніі.

У кожным з гэтых рэгіёнаў рэвалюцыі мелі лакальныя асаблівасці, залежныя ад мясцовых умоваў і складвання міжнацыянальных адносін. Адныя народы, галоўнай праблемай для якіх была германізацыя (венгры, чэхі, славенцы), выступалі супраць Вены і скіроўвалі свае патрабаванні аб пашырэнні ўласных правоў непасрэдна да яе. Тыя ж, якія падвяргаліся жорсткай мадзьярызацыі, галоўнага ворага бачылі ў Венгрыі і змагаліся перадусім супраць яе (славакі, харваты, румыны, сербы). На гэтых супярэчнасцях гуляў імперскі цэнтр, выкарыстоўваючы іх на сваю карысць. Так, харваты на чале з банам Ёсіпам Елачычам узялі актыўны ўдзел у задушэнні Венгерскай рэвалюцыі ў абмен на абяцанне вывесці Харватыю з-пад венгерскай улады.

Урэшце ўсе рэвалюцыі Вене ўдалося, хоць і з цяжкасцю ды з дапамогай Расіі, якая ўвяла войскі ў Венгрыю, задушыць. Але імперыя ўжо не магла быць ранейшай. Праз амаль 20 гадоў, у 1867 годзе, імператар Франц Іосіф І мусіў пагадзіцца з пераўтварэннем Аўстрыйскай імперыі ў Аўстра-Венгерскую. У складзе венгерскай яе часткі пэўную аўтаномію мела Каралеўства Харватыя і Славонія. Чэхі, якія ўвайшлі ў аўстрыйскую частку, часам ставілі пытанне, каб ім у складзе імперыі далі такі ж статус, як Аўстрыі і Венгрыі, але дабіцца гэтага не здолелі. У цэлым жа Аўстра-Венгрыя канчаткова ператварылася ў «шматковую імперыю», дзе ўсе шматлікія народы, хоць і былі, як правіла, незадаволеныя адзін адным, а некаторыя падвяргаліся і яўнаму ціску ды дыскрымінацыі (як, напрыклад, славакі ад венграў), усё ж мелі магчымасць сяк-так абараняць свае інтарэсы праз парламенцкія працэдуры і органы мясцовага самакіравання.

Буйных нацыянальных паўстанняў да канца існавання Аўстра-Венгрыі ўдавалася пазбегнуць, але калі ў 1918 годзе, пасля прайгранай Першай сусветнай вайны, імперыя апынулася ў сітуацыі вострага крызісу, усе народы з яе разбегліся, стварыўшы ці незалежныя, ці федэратыўныя (Чэхаславакія, Югаславія) дзяржавы або злучыўшыся са сваімі супляменнікамі з іншых дзяржаў (палякі, румыны, італьянцы).

У цэлым жа асаблівай залежнасці нацыянальнага лёсу ад таго, што хтосьці паўставаў, а нехта вырашаў пытанні з імперскім цэнтрам кампрамісна, не заўважаецца. Калі пасля Першай сусветнай вайны для народаў прабіў адпаведны час, то ўсё залежала не ад іх подзвігаў у мінулым, а ад здольнасці рашуча дзейнічаць і мець падтрымку ў грамадстве тут і цяпер.

## Быць «на правільным баку»

Праўда, немалаважна яшчэ пры гэтым знаходзіцца і «на правільным баку гісторыі», увасабляць сваім рухам найбольш адпаведныя эпосе трэнды ў развіцці грамадства. Паўстанні XIX стагоддзя ў Польшчы, Беларусі і Літве ўпісваліся ў іх не да канца. Яны былі паводле свайго характару пераважна шляхецкія — асабліва паўстанне 1830–1831-га, — і ў іх ідэалогіі значна адчувалася туга па старой Рэчы Паспалітай, гістарычны час якой ужо мінуў. ▶

Развіццё капіталізму тады ва ўсёй Еўропе няўхільна руйнавала колішнія саслоўныя перагародкі на падставе паходжання, на палітычную арэну выходзіла і актыўна патрабавала сабе правоў на паўнавартасны ўдзел у жыцці грамадства буржуазія, абуджаліся сялянства і нованароджаны пралетарыят. Мадэрныя нацыі, якія акурат тады пачалі ў нашым рэгіёне фармавацца, мусілі аб'ядноўваць усе катэгорыі грамадства на падставе ўсведамлення імі агульных, панадсаслоўных і панадкласавых інтарэсаў. Што давала б і паўстанням больш шырокую сацыяльную базу.

Але і падчас першага, і падчас другога паўстанняў такая сітуацыя яшчэ не склалася, удзел у іх іншых сацыяльных груп, па-за шляхтай, быў абмежаваны. Толькі пасля паразы паўстанняў гэта было нарэшце цалкам усвядомлена і ў польскім грамадстве набыла папулярнасць канцэпцыя «арганічнай працы» — дзейнасці на карысць эканамічнага і культурнага развіцця свайго краю, усіх сацыяльных груп грамадства.

## У беларусаў не можа быць такога ж стаўлення да паўстанняў XIX стагоддзя, як у палякаў

Аднак на землях па-за этнічнай Польшчай гэта набывала іншае вымярэнне. У Беларусі розніца паміж грамадскімі элітамі і большасцю сялянства была не толькі саслоўная, але і моўная ці канфесійная, а часта і тая, і другая. Што выклікала натуральныя антаганізмы і рабіла практычна немагчымым фармаванне на тэрыторыі ўсёй былой Рэчы Паспалітай адзінай мадэрнай нацыі. Шляхі непазбежна мусілі разысціся, і пытанне было толькі ў тым, наколькі далёка.

### Гістарычная запозненасць

У беларусаў не можа быць дакладна такога ж стаўлення да падзей паўстанняў XIX стагоддзя, як у палякаў. Бо мы, натуральна, разглядаем іх перадусім пад іншай прызмай: як гэта ўплывала на гістарычны лёс не польскага народа, а беларускага. Нас, вядома, найперш цікавіць і хвалюе тое, наколькі паўстанні, якія сталі важнай складовай часткай не толькі польскай, але і нашай гісторыі, паспрыялі аб'ектыўнаму гістарычнаму працэсу фармавання беларускай нацыі, а наколькі яму зашкодзілі.

Адна з галоўных праблем беларускага руху, якая не дала яму шырока разгарнуцца і прывяла да таго, што ён заўсёды быў найслабейшым і найменш уплывовым ва ўсім нашым рэгіёне, была яго гістарычная запозненасць. Паводле вядомага чэшскага гісторыка Міраслава Гроха, кожны паспяховы нацыянальны рух мусіць прайсці ў сваім развіцці тры важныя фазы.

1) Фаза «A», калі ў частцы мясцовых інтэлектуалаў з'яўляецца вялікая цікавасць да жыцця свайго народа, прытым не толькі і не столькі яго эліты, але і ніжэйшых грамадскіх пластоў, перадусім сялянства. Гэтыя інтэлектуалы пачынаюць глыбока даследаваць мову і культуру народа, ствараць адпаведную літаратуру, але пакуль што не вылучаючы палітычных патрабаванняў.

2) Фаза «B», калі частка інтэлектуалаў, не абмяжоўваючыся асабістым вывучэннем гісторыі, мовы і культуры народа ды іх развіццём, пачынае сярод гэтага народа нацыянальную агітацыю. Яны пачынаюць даводзіць людзям, паступова пашыраючы аўдыторыю, што іх родная мова і культура, якія дагэтуль знаходзіліся ў падпарадкаваным, «нізкім» стане, на самай справе не горшыя за іншыя, што імі трэба ганарыцца, а не саромецца іх, і ўвогуле гэты народ, адметны ад іншых, мае права сам вырашаць уласны лёс.

3) Фаза «C», калі народныя рухі атрымліваюць масавую падтрымку, у іх з'яўляюцца палітычныя патрабаванні і мэты, у тым ліку і адносна ўласнай суверэннай дзяржаўнасці.

У беларусаў фаза «A» пачалася прыкладна ў адзін час з іншымі народамі. Пачынаючы з мяжы XVIII—XIX стагоддзя ў інтэлектуалаў родам з нашых этнічных земляў можна заўважыць элементы відавочнай зацікаўленасці моваю і культурай мясцовага сялянства, самабытнай гісторыяй гэтага краю. Пра жыццё і справы некаторых з іх, як пра Міхала Баброўскага (артыкул Паўла Церашковіча ў № 3/2018) ці Яна Чачота (артыкул Васіля Герасімчыка ў № 8/2020), ужо можна было прачытаць на старонках «Нашай гісторыі». Але ў выніку працэс гэты зацягнуўся аж на цэлае стагоддзе, і ў фазу «B», калі нарэшце пачалася заўважная і паслядоўная нацыянальная агітацыя, беларусы здолелі перайсці толькі на мяжы XIX і XX стагоддзяў. Усе суседзі

прыйшлі да гэтага куды раней і да таго часу былі ўжо значна наперадзе, што са скрухай прызнавалі ў сваёй публіцыстыцы і самі нашы пачынальнікі.

### Чаплялася, але з месца не кранalася

І вось тут узнікае лагічнае пытанне: а ці не было першапрычынай такога гістарычнага спазнення беларускага руху тое, што ягоныя патэнцыйныя сілы абяскроўліваліся пасля разгрому «польскіх» паўстанняў і іншых формаў пратэснай актыўнасці? Бо падчас пасляпаўстанцкай рэакцыі пад разгром у нас патрапілі сярод іншага і такія інстытуты, якія ў іншых народаў сталі кузнямі для гадавання нацыянальных кадраў. Так, пасля паўстання 1830–1831 гадоў быў зачынены Віленскі ўніверсітэт, а пасля паўстання 1863–1864 гадоў — Горы-Горацкі земляробчы інстытут. На тэрыторыі беларуска-літоўскага краю пасля таго аж да самага канца Расійскай імперыі не засталося вышэйшых навучальных устаноў. Калі латышская ці эстонская таленавітая моладзь магла паступаць у Дэрпцкі ўніверсітэт, украінская — у Кіеўскі, Харкаўскі ці Новарасійскі (у Адэсе), то беларусы і літоўцы па высокую навуку мусілі кіравацца за межы свайго краю. Нельга сказаць, што гэта рабіла зусім немагчымымі іх прыход да нацыянальнай ідэі і наступную працу дзеля свайго народа — але ўсё ж значна гэта абцяжарвала і адкладала ў часе.

Не кажучы ўжо пра тое, што многія дзеячы, якія цікавіліся беларускай мовай і культурай, у выніку ўдзелу ў паўстанні заўчасна гінулі ці мусілі назаўсёды або на працяглы час пакідаць край, выпраўляючыся ў далёкую сібірскую ссылку ці ў эміграцыю на Захад. Дзе жылі ўжо іншымі праблемамі. Ці не прыйшла б з часам тая ж Эмілія Плятэр, якая моцна цікавілася беларускай народнай культурай, да беларускай нацыянальнай ідэі, каб не загінула маладой? Ці не сфармуляваў бы Кастусь Каліноўскі гэтую ідэю, не стаў «бацькам нацыі», калі б яго не павесілі на віленскім Лукішскім пляцы ў сакавіку 1864-га? І ці не было б з таго больш карысці? Адказы на гэтыя пытанні — толькі гіпатэтычныя.

**«Патэнцыйна беларускія» сілы абяскроўліваліся пасля разгрому «польскіх» паўстанняў**

А ў рэальнасці супольна перажываныя нягоды ўмацоўвалі ў нашай шляхты і да таго моцнае пачуццё еднасці са сваімі братамі па няшчасці з этнічнай Польшчы. У іх былі супольны клопат, супольныя героі і пакутнікі, супольныя міфы і легенды, супольныя мары і спадзяванні. Гэта, вядома, не выключала адчування рэгіянальнай адметнасці і цікаўнасці да народнай культуры, якая на гэтых землях была беларускай. Прыгадаем хоць бы Аляксандра Рыпінскага, які ў 1839 годзе ў парыжскай эміграцыі прачытаў публічную лекцыю «Беларусь. Колькі слоў пра паэзію простага люду гэтае нашае польскае правінцыі, пра ягоную музыку, спевы, танцы, etc.», якую пасля выдаў кніжкай. Ці Яна Чачота, які актыўна збіраў і публікаваў беларускі фальклор і сам пісаў вершы на беларускай мове. Ці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, пяру якога належыць нямала літаратурных твораў, цалкам ці часткова напісаных па-беларуску. Ці «вясковага лірніка» Уладзіслава Сыракомлю і «вешча» Адама Міцкевіча, уся творчасць якіх прасякнутая беларускімі матывамі. Такіх імёнаў можна назваць нямала.

Але вось перайсці рысу, пасля якой адкрыта заявіць, што беларусы — асобны народ і ад рускіх, і ад палякаў і «мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая», ніхто доўгі час не асмельваўся. Беларуская адметнасць успрымалася хутчэй як натуральны бар'ер на шляху русіфікацыі мясцовых сялян і як зарука захавання гэтай тэрыторыі ў польскай культурнай арбіце, але не як самастойная каштоўнасць. Нават той жа Дунін-Марцінкевіч, які сёння лічыцца першым класікам новай беларускай літаратуры, трымаючы разам з дачкой у канцы 1870-х гадоў патаемную хатнюю школку для навучання дзяцей, беларускай ідэі праз яе, паводле пазнейшага сведчання аднаго з вучняў, будучага пісьменніка-«нашаніўца» Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), ніяк не праводзіў:

«Вучылі нас там па-расейску, па-польску, па-французску, вучылі розных навук, але ані гісторыі Беларусі, ані нават беларускай мовы мы не чулі... Мо гэтага нашы бацькі не вымагалі, мо нават не хацелі, але ўсё ж ткі ў дзіцячай памяці ▸

▶ (а былі між нас і ладныя падросткі), як на мяккім воску, пясняр беларускі павінен быў сваю пячатку выціснуць. Марцінкевіч гэтага не зрабіў. Мы нават яго твораў не ўмелі... Умеў нябожчык заахвочваць нас да навукі, умеў строіць жарты, быў для нас вельмі добрым; любілі і шанавалі яго акалічныя сяляне і суседзі, але з пісаннем сваім, з думкамі сваімі ад усіх запіраўся ў каморку! І хоць каваў ён там беларускую жывую мову, хоць ён першы паказаў, што мова гэтая не цяжкая, не тапорная, за якую яе ўважалі, а гладкая, гібкая, пявучая, лірычная, багатая ў словы і звароты, каторых хватае выказаць нават такія чароўныя творы, як Міцкевіча; хоць ён першы сеяў зярняты, усходу каторых, бадай, ці спадзяваўся сам, — але ў штодзённым сваім жыцці не меў адвагі заявіць сябе шчырым беларусам, не меў адвагі беларускую ідэю прыпасаваць да жыцця і дзеля таго не мог пацягнуць за сабой большага гуртка блізкіх сабе людзей, не змог нават знайсці наследнікаў сваёй ідэі; і хоць справу беларускага адраджэння зачапіў, але з месца яе не скрануў».

Фактычна толькі ў прадмове да зборніка «Дудка беларуская», якая выйшла ў 1891 годзе, яе аўтар Францішак Багушэвіч — дарэчы, былы паўстанец 1863-га — адназначна заявіў, што «наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахотней гавораць па-французску, як па-свойму». І што «можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...». Гэтыя словы моцна кранулі сэрцы маладых беларусаў і заахвоцілі іх да працы на нацыянальнай ніве. Хіба што толькі з гэтага часу і можна казаць пра паўнавартасны і канчатковы пераход беларускага руху да фазы «В» па Гроху. Вельмі позна, у суседзяў гэта адбылося прынамсі на пакаленне раней.

### «Мяккая беларусізацыя», якая не адбылася

Усё сказанае вышэй тычылася перадусім уплыву паўстанняў на актыўнасць у беларускім кірунку прадстаўнікоў мясцовай эліты, найчасцей з паланізаванай шляхты, паводле веравызнання рыма-каталікоў. Менавіта гэтая катэгорыя грамадства стала асноўным рухавіком абодвух паўстанняў на нашых землях. І перадусім з гэтых асяродкаў, як мы ведаем, у канцы XIX і пачатку XX стагоддзя паходзілі тыя людзі, якія запусцілі арганізаваны беларускі рух.

Але ёсць тут таксама і іншы, не менш важны аспект. Справа ў тым, што з другой паловы 1850-х, пасля чарговай змены на расійскім імператарскім троне, калі да ўлады ў Пецярбургу прыйшоў больш ліберальны Аляксандр II, у краіне распачаліся так званыя Вялікія рэформы. І ў іх рамках сярод іншага Міністэрства народнай асветы на чале з Аляксандрам Галаўніным сур'ёзна задумалася над тым, каб у народных школах на заходніх землях імперыі ўвесці ў якасці дапаможнай мовы мясцовыя гаворкі. Натуральна, маючы на мэце не фармаванне асобных беларускай і ўкраінскай нацый, а палягчэнне праз гэта «дэпаланізацыі» і «абрусення» краю.

І гэта быў не толькі намер, рабіліся і канкрэтныя практычныя крокі. Так, 1 снежня 1862 года былі ўхваленыя цэнзураю і пасля таго надрукаваныя «Рассказы на белорусском наречии», якія мусілі выконваць у народных школах ролю своеасаблівага падручніка, кнігі для чытання. У гэтай невялічкай кніжачцы было змешчана 5 апавяданняў на розных беларускіх гаворках, пачынаючы ад цэнтральнабеларускай і канчаючы заходнепалескай.

Акурат у студзені 1863 года, калі пачалося паўстанне, гэтае выданне было зацверджана для выкарыстання ў школах. Але ў 1864-м, калі паўстанне было задушана і ў краі шалела мураўёўская рэакцыя, ад ідэі выкарыстання ў навучанні мясцовых гаворак адмовіліся і больш да гэтага не вярталіся, быў узяты цвёрды курс на класічную русіфікацыю, з выкарыстаннем толькі «вялікарускай» мовы. «Рассказы на белорусском наречии», аўтарства якіх дагэтуль дакладна

**Падчас пасляпаўстанцкай рэакцыі пад разгром трапілі і такія інстытуты, якія ў іншых народаў сталі кузнямі для гадавання нацыянальнай эліты**

не ўстаноўлена, засталіся толькі гістарычным помнікам. Менавіта яны, дарэчы, тая кніжка, якую знайшлі расійскія пагранічнікі ў корабе кніганошы ў аднайменным апавяданні Уладзіміра Караткевіча. Апавяданне «Чы добра мы зрабілі, пакінуўшы вунію?», якое абмяркоўваюць паручнік Фердзі Вольке і прапаршчык Алег Буткевіч, — акурат адсюль.



FACEBOOK.COM, СТАРОНКА «ПАЎСТАННЕ 1863–1864 ГАДОЎ»

## I бунтары, і лаялісты могуць уваходзіць у гісторыю як становучыя постаці

Вядома таксама, што адначасова з гэтай чытанкай-падручнікам было задумана выданне праўладнага часопіса для сялян на беларускай мове пад назвай «Друг народа», на які было ўжо нават у пачатку 1863 года выдзелена асігнаванне. Але справа зноў-такі не зрушылася з мёртвага пункта, бо пачалося паўстанне.

Верагодна, калі б гэтым намерам удалося тады здзейсніцца і сялянскія дзеці хоць крыху павучыліся па беларускамоўных чытанках, а іх бацькі бачылі, што іхная родная гаворка можа ўжывацца не толькі ў гутарках простых людзей, але і на пісьме, то і разуменне таго, што «мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая», прыйшло б куды раней. А тады гісторыя магла б павярнуцца іначай, і да часоў, калі пасля Першай сусветнай вайны рушыліся імперыі і ў нашай частцы Еўропы ствараліся новыя нацыянальныя дзяржавы, мы падышлі б куды больш моцнымі і ўпэўненымі, чым гэта было ў рэальнасці.

Зрэшты, не факт, што такая ліберальная палітыка ў адукацыйнай сферы і так пратрымалася б доўга, у яе таксама былі ўплывовыя праціўнікі. Якія скарысталіся паўстаннем 1863 года ў тым ліку і для таго, каб нанесці ўдар па ўжо ў той час дастаткова жвавым і заўважным украінскім руху. Нягледзячы на тое, што Украіна не была ахоплена паўстанцкімі настроямі, у ліпені 1863-га міністрам унутраных спраў Пятром Валуевым быў выдадзены цыркуляр, якім забаранялася публікацыя кніг на «маларасійскай», то-бок украінскай, мове, за выключэннем мастацкай літаратуры. А ў 1876 годзе Аляксандрам II быў выдадзены сумна вядомы Эмскі ўказ, якім фактычна ставілася па-за законам любая ўкраінская актыўнасць. Можна меркаваць, што аналагічныя акты прымаліся б і супраць беларускага руху, як толькі б расійскія ўлады пабачылі ў ім такую ж патэнцыйную небяспеку. Але на практыцы ён да самага пачатку XX стагоддзя надта сур'ёзнай праблемай так і не стаў.

### Усё складана

Адназначнага адказу на пастаўленае ў загалоўку пытанне не будзе. Наўрад ці яго ўвогуле магчыма даць. Бо гістарычныя наступствы ад прынятых ці не прынятых у пэўны час рашэнняў бываюць зусім непрадказальнымі. Тое, што ў адных абставінах можа спрацаваць на дабро, у іншых спрацоўвае на зло, і наадварот. Ніхто не можа дакладна прадказаць будучыню ва ўсіх яе нюансах, а тое, што цудоўна працавала ў мінулым, у новай сітуацыі можа быць зусім нядзейсным. Канчаткова ўсё расстаўляецца на свае месцы праз значную адлегласць часу, ды і тое не да канца і з агаворкамі.

Як становучыя постаці могуць адначасова ўваходзіць у гісторыю і бунтары, і лаялісты. А іх ацэнка будучымі пакаленнямі залежыць не толькі ад вынікаў дзейнасці, але і ад яе матывацыі. ◆

## Вечны рух арэляў

Мне людзі пішуць, што ніяк не змогуць падпісаць мяне на чарговы нумар часопіса «Наша гісторыя», бо яго ўжо няма ў падпісцы «Белпошты». Захоўваю нумар з Каліноўскім на вокладцы як велічэзную каштоўнасць. Толькі доўга не хапала моцы прачытаць артыкулы, прысвечаныя паўстанню, здавалі нервы.

Асэнсоўваючы ўсё гэта, і сённяшняе, і старадаўняе, так хочацца напомніць людзям два вершы Уладзіміра Караткевіча: «Балада пра архангелаў» і «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў». Ніхто не зможа адмяніць вечны рух арэляў уверх і ўніз.

**Вольга Маёрава, турма ў Гродне, ліст да Глеба Рубанава**

### Амаль хрысціянскі тост за ворагаў

*Адаму Мальдзісу*

Гіене — баяцца, сабаку — вішчаць,
Свінні — рыцца ў гноі сваім,
А льву патрэбны калючы гушчар,
Родны край і свабода ў ім.
П'ю за тое, каб нам сярод родных лясоў
Не вішчаць, не дрыжаць, не крывіць,
Бо ўсе мы тут не з гіен і не з псоў,
Бо мы — сапраўднай крыві.
І таму давайце за ворагаў піць
І за імі сатканую сець,
Бо ім не дадзена нас палюбіць
І не дадзена нас зразумець.
Бедалагі!
Не ўцяміць іх бедным мазгам,
Пакуль не праб'е ім канец,
Як добра быць другам і братам нам,
І яму, і табе, і мне.
Божа, дай ім даўжэй пражыць,
Хай спаўна адтрубяць свой час,
Хай да самай апошняй нашай мяжы
Будуць яны у нас.
Божа, ты скінуў іх нам, як дары,
І мы славім мудрасць тваю,
Бо яны нас будзяць яшчэ на зары
І рана заснуць не даюць.
І ўстаём і арэм мы нашы палі,
Пакуль не апусціцца змрок,
І мы ўстаем, і зброю сталім,
Слова сталім і радок.
Ім няма з кім ісці плячо да пляча,
З кім любіць, з кім стаяць у баі,
З кім смяяцца, спрачацца і нават маўчаць.
А памруць — хто паплача па іх?
Даруй ім. Яны пакараныя й так
(Даруй хоць на гэты раз),
Бо розуму ў іх, як слёз у ката́
І не могуць пазычыць у нас.
І даруй нам, што сеем мы ў душы ім жах,
Як скачком бяром частакол,
Што даводзіцца ім дрыжаць у дамах,
Калі гойсае леў вакол.
Твой закон, што вазіць нявартыя гной
Чалавек такі і народ,
Калі вораг ад назвы іхняй адной
Не бялее, як снег і як лёд.

## Васіль Вітка і паэзія педагогікі

З цікавасцю прачытаў успаміны Юліі Чарняўскай пра яе дзеда, Васіля Вітку. Вітка быў вельмі назіральны да педагагічных працэсаў, якія адбываліся ў нашай краіне. Неяк яму трапіла ў рукі кніга Віктара Шаталава, настаўніка-наватара з украінскага Данецка, «Педагагічная проза». Вітка прачытаў яе з захапленнем і пазней выклаў свае ўражанні ў артыкуле «Паэзія педагогікі», надрукаваным у часопісе «Полымя» ў жніўні 1986 года. Потым была перапіска з Шаталавым і новыя яго кнігі, якія толькі ўзмацнілі ранейшыя ўражанні: «Галоўная і ўнікальная сутнасць метадычнага інструментарыю Шаталава ў тым, што па яго сістэме, заснаванай на ўласцівасцях вобразнага мыслення, з такім жа поспехам, як ён выкладае матэматыку і фізіку, можна і неабходна выкладаць астраномію, гісторыю, геаграфію і ў першую чаргу — літаратуру і мову».

Далей Цімафей Васільевіч сачыў за ўсімі публікацыямі пра Віктара Шаталава і яго паслядоўнікаў. Заўважыў і мае артыкулы. У нас была кароткая перапіска, у выніку якой ён даслаў мне сваю кнігу «Урокі» з уражлівым для мяне дарчым надпісам: «Дарагому Міхаілу Пятровічу Булавацкаму — "возмутителю спокойствия" [так называўся артыкул



**Васіль Вітка (другі злева), Віктар Шаталаў (трэці злева), справа — выкладчыца фізікі Магілёўскага культасветвучылішча Тамара Раманькова**, якая арганізавала лекцыі Шаталава ў сувораўскім вучылішчы і іншых адукацыйных установах Беларусі, выкладчыкі Мінскага сувораўскага вучылішча. Сустрэча ў пакоі мінскай гасцініцы «Кастрычніцкая» (зараз «Прэзідэнт-гатэль»). Лістапад 1984 года.

пра мяне ў газеце “Известия”],
за нястомнымі пошукамі якога даўно сачу з вялікай цікавасцю, педагогу, які вабіць высокай прафесійнай культурай,
ад усяе душы жадаю перамогі, вартай яго няўрымслівага творчага таленту.
24.5.1985. Васіль Вітка».

Восенню 1984 года Шаталаў прыязджаў у Беларусь, дзе ў розных адукацыйных установах Мінска і Магілёва прачытаў шэраг лекцый пра сваю метадычную сістэму. Адбылася сустрэча і цікавая размова з Васілём Віткай. З той сустрэчы засталося фота.

**Міхась Булавацкі, Магілёў**

# «Муштук і папка»

Запознена трапіў мне ў рукі ваш нумар пра народнага пісьменніка Беларусі Янку Брыля (№11 за 2020 год). Зачапіла мяне біяграфія, стаў чытаць яго творы. Такое ўражанне — аповесць «Муштук і папка». Як забіралі ў 1937-м ягонага роднага брата, выводзілі, а дачка таго *«крычала цераз бездапаможны плач: “Ты не ідзі за ім! Удар яго! Прагані іх! Татачка, не ідзі!”»*

Бязвіннага чалавека, агранома, арыштавалі.

*«Калі прыйшлі ў сям’ю і па нейкім “праве” забралі бацьку. У тых, для каго ён — усё».*

У 1956 годзе Брылёвага брата рэабілітавалі — за поўнай адсутнасцю віны.

А калі ў 1989-м эксгумавалі магілы ў Быкоўні, кіеўскіх Курапатах, то там знайшлі муштук з выдрапаным надпісам: «В. А. Брыль». Украінскі журналіст, які пісаў пра знаходкі, успомніў, што ёсць жа беларускі пісьменнік з такім рэдкім для Украіны прозвішчам. Так у рукі Брыля трапіла братава рэч, якая 52 гады праляжала сярод трупаў, парэшткаў, у зямлі. Пісьменнік папрасіў азнаёміцца з матэрыяламі і крымінальнай справы, і рэабілітацыйнага следства. Гэта і лягло ў аснову аповесці.



**«Вырвацца з няволі» — так назваў Міхась Булавацкі фота напатканага ў лесе ядлоўцу**, пра які ў № 3/2021 «Нашай гісторыі» быў артыкул Алеся Белага. Фотаздымак зроблены ў жніўні мінулага года.

Страшныя матэрыялы пра расчалавечванне чалавека, страшныя здзекі.

Ветэрынар Л. Клысенка з таго ж саўгаса, дзе працаваў Брылёў брат, а ў 1937-м перасякаўся з ім у турме, у 1956-м засведчыў «як камуніст»:

*«На коридоре я возмущенно спросил, как же это* [самаагаворы] *ты сделал, и он мне сказал: “Если бы тебя так избивали, как меня, ты еще не то сказал бы”. Наблюдая за Брилем, я заметил, что он находился в крайне подавленном состоянии и был ко всему безучастен. Более того, в тот момент Брило производил впечатление полувменяемого человека».*

Бяда нашага народу, што мала хто, адзінкі панеслі пакаранне за тыя злачынствы, якія былі здзейсненыя сваімі супраць сваіх у 1920–1980-я. Што бязвінных рэабілітавалі, але катаў не судзілі. Так, большая частка катаў былі зачышчаныя сваімі ж — як Берыя, Цанава, Яжоў, Ягода, Берман і так далей. Але публічнага трыбунала — аналагу Нюрнбергскага трыбунала — тады не адбылося. Пакуль наша грамадства не засвоіць гэтага ўроку, датуль мучэнні будуць паўтарацца і перыядычна пад фанфары прапаганды мы будзем апускацца ў бездань.

**Аляксандр Заблоцкі,
Мінскі раён**

> **Ад рэдакцыі**
>
> Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню.

# Гісторыя прозвішча Сяргей

Добры дзень, паважаная рэдакцыя часопіса «Наша гісторыя»!

Пішa вам Вольга Баркетава, у дзявоцтве Сяргей. Я хачу расказаць вам гісторыю ўзнікнення майго прозвішча па лініі майго дзеда Сяргея Дзмітрыя Аляксеевіча. Дзед быў родам з-пад Ляхавічаў, з вёскі Шавялі. У іх сям’і было чацвёра братоў. Прадзед Ляксей быў сельскім настаўнікам, памёр рана. Дзед вывучыўся на доктара аж у Алма-Аце. Адтуль жа, з Казахстана, прывёз маю бабулю — Вольнаву Людмілу Аляксееўну. Усё жыццё дзед прапрацаваў хірургам у Баранавіцкай гарадской бальніцы.

У дзяцінстве, калі я зразумела, што маё прозвішча гучыць незвычайна, я запыталася ў дзеда, адкуль яно ўзялося. На што дзед распавёў мне такую гісторыю.

Вёска Шавялі належала ў свой час аднаму пану, памешчыку, якому не падабаліся простыя мянушкі сялян. Ён захацеў даць ім прыгожыя грэцкія ці рымскія імёны: Павел, Аляксандр, Сяргей. Не ўсе новыя імёны ад пана прыжыліся. Некаторыя былі перайначаныя, а некаторыя сталі ўжывацца як прозвішчы. Так мой прадзед стаў звацца Лявон Сяргей, і ад яго пайшло ў свет наша прозвішча.

Дзед вельмі любіў сваю малую радзіму і шанаваў беларускую мову.

Хто ведае, можа, ёсць недзе яшчэ нашчадкі Сяргееў з-пад Ляхавічаў, якім цікава, адкуль узялося іх прозвішча?

Дзякуй вам за ваш часопіс! Будзьце здаровыя і свабодныя.

**З павагай,
Вольга Баркетава (Сяргей),
вёска Копішча, Мінскі раён**

# ТАТАРСТАН

## Нічога не скончылася

ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Татарстан стаў часткай Расіі ў XVI стагоддзі, за Іванам Жахлівым. Сёння татары — востраў у расійскім моры. Аднак прыклад 500-гадовага адстойвання свайго «я» натхняе. Пра сваё захапляльнае падарожжа ў Татарстан піша кандыдат сацыялагічных навук Аляксей Ластоўскі.**

Пакуль увесь дасяжны свет для беларусаў сціснуўся да некалькіх краін, мае сэнс узгадаць, што дзяржава за ўсходняй мяжой не зводзіцца да маскоўскай Краснай плошчы і піцерскіх мастоў — яе гіганцкія тэрыторыі насяляюць дзясяткі народаў.

Татарстан сваю дзяржаўную традыцыю вядзе ад волжскіх булгараў, якія прыйшлі сюды ў X стагоддзі і сталі палітычным цэнтрам нароўні з Кіевам (нават прыязджалі ў Кіеў з прапановай прыняць ад іх іслам). У XIII стагоддзі Волжскую Булгарыю заваявалі мангола-татары і ўключылі яе ў склад Улуса Джучы (Залатой Арды).

З тых часоў тутэйшыя татары ўпарта захоўваюць вернасць ісламу (і нават апякуюцца мусульманамі ў іншых краінах, у тым ліку беларускімі). Захавалі татары і сваю мову: сёння ў свеце колькасць носьбітаў татарскай — каля 7 мільёнаў, у Расіі па-татарску гавораць каля 4,5 мільёна татар.

**Татарстан**
рэспубліка ў еўрапейскай частцы Расіі, на сутоках Волгі і Камы.

Плошча: 68 тыс. км$^2$ (утрая меншая за Беларусь).

Насельніцтва: 3,9 млн чалавек. Татараў каля 53%, іх доля расце, у 1989 годзе іх было 49%.

У Татарстане разведана 127 радовішчаў нафты і 112 пакладаў вугалю.

### Тут пачыналася імперыя

Татарстан быў уключаны ў склад расійскай дзяржавы досыць рана, падчас заваёўніцкай кампаніі Івана Жахлівага, калі ў 1552 годзе маскоўскія войскі

з пятай спробы здолелі ўзяць штурмам сталіцу Казанскага ханства. З узяццем Казані Маскоўская дзяржава ператвараецца са збіральніка рускіх земляў у дзяржаву з імперскімі амбіцыямі.

Таму зразумела, чаму Казань стала такім важным горадам для расійскай ідэалогіі. Гэта ў гонар заваявання ханства быў пабудаваны храм Васіля Блажэннага на Краснай плошчы. Тады ж да рэгалій рускіх цароў дадалася Казанская шапка, выробленая ювелірамі скоранай дзяржавы.



**Знакамітую Казанскую шапку для расійскіх цароў** выраблілі ювеліры захопленай дзяржавы.

Яшчэ адзін важны гістарычны атрыбут Казані — абраз Казанскай Божай Маці, якая пасля пажару ў горадзе ў 1579 годзе аб'явілася дзяўчынцы Матроне. На месцы з'яўлення цудатворнага абраза Іван Жахлівы загадаў пабудаваць Багародзіцкі манастыр. З абраза адразу ж сталі рабіць копіі-спісы.

Адзін з такіх спісаў неслі салдаты, што ўзяліся адваёўваць Маскву ў польска-літоўскіх войскаў у пачатку XVI стагоддзя падчас эпапеі з Ілжэдзмітрыямі, — і з таго часу яна стала агульнарасійскім сімвалам. У XIX стагоддзі, пасля ўключэння беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі, тут таксама пашырылася ўшанаванне Казанскай Божай Маці. У Мінску ў неарускім стылі (яшчэ адзін з інструментаў культурнага імперыялізму) была пабудавана Казанская царква непадалёк ад чыгуначнага вакзала.



**Казанская царква ў Мінску** была пабудавана ў 1903 годзе і знесена ў 1936-м. Яна стаяла там, дзе скрыжоўваюцца вуліцы Савецкая, Бабруйская і Мяснікова.

Лёс самой іконы быў незайздросным: у 1913 годзе яе скралі з манастыра з-за найкаштоўнейшых шатаў, а саму ікону спалілі. Цяпер у Нацыянальным музеі Татарстана можна ўбачыць той аклад, у якім была ікона перад крадзяжом, а спісы абраза можна знайсці практычна ў любым храме Рускай праваслаўнай царквы — а значыць, і практычна ў кожнай праваслаўнай царкве на тэрыторыі Беларусі.

## Багатая Казань

Татарстан — адзін з самых багатых рэгіёнаў Расіі. Аснова багацця — гэта прыродныя рэсурсы, у першую чаргу нафта. Аднак радуе, што добры кавалак гэтых лёгкіх грошай пайшоў і на культурніцкія мэты: гістарычны цэнтр сталіцы, Казані, дагледжаны, таксама хапіла сродкаў, каб іншыя старажытныя гарады, Свіяжск і Булгар, набылі годны выгляд і трапілі ў спіс ЮНЕСКА.

У самой Казані ў спіс ЮНЕСКА ўнесены Казанскі Крэмль. Гэта сэрца горада, адкуль трэба распачынаць свой шлях. Ён літаральна дыхае гісторыяй: менавіта тут знаходзіўся ханскі палац, а некаторыя яго падмуркі яшчэ можна ўбачыць закансерваванымі пасля даследаванняў археолагаў. Напамінам пра часы ханства з'яўляецца нахіленая вежа, якую народная традыцыя атаясамлівае з апошняй казанскай царыцай Сююмбіке, да якой сватаўся цар Іван Васільевіч, але царыца аддала перавагу смерці і скочыла з вежы. Таму, маўляў, яна і нахіленая: у той бок, куды скокнула царыца. Праўда, скептычныя гісторыкі сцвярджаюць, што вежа была пабудаваная значна пазней, ужо ў расійскія часы, але ж мы гэтым рэвізіяністам верыць не будзем! Усё ж руские значна ўмацавалі і перабудавалі Крэмль. І, канечне, паставілі тут праваслаўныя храмы.

Грошай хапае, таму праца па перафарматаванні Казанскага Крамля не спыняецца, прытым не заўсёды яна пазітыўная. Так, у багаты археалагічна-гістарычны комплекс, занесены ў спіс ЮНЕСКА, ужо ў 1995– 2005 гадах усунулі гіганцкую ►



Аўтар артыкула Аляксей Ластоўскі **з цмокам Зілантам — сімвалам Казані.**

сучасную мячэць Кул Шарыф. Мячэць знарок была названа ў гонар апошняга казанскага сеіда (нашчадка прарока Мухамеда), які загінуў падчас маскоўскага штурму: гістарычная справядлівасць быццам бы адноўленая. Праўда, гісторыкі ведаюць толькі тое, што пры ханскім палацы была мячэць, але не ведаюць, як яна выглядала. І ўжо бясспрэчна, што яна не была такіх памераў.

Сучасны Кул Шарыф зроблены з прэтэнзіяй на самую вялікую мячэць у Еўропе: нафтадолары і не такое могуць. Выпадкова мне пашчасціла зазірнуць у мячэць у малітоўны час, калі звычайных наведвальнікаў не пускаюць. Гіганцкая зала для малітваў было пустой. Так што гэтая мячэць — хутчэй сімвал палітычных амбіцый Татарстана. Нездарма побач колішняя рэзідэнцыя казанскіх губернатараў пераўтварылася ў Прэзідэнцкі палац.



DEPOSITPHOTOS.COM_BY YULENOCHEKK



ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Паводле легенды, з гэтай вежы скочыла царыца Сююмбіке**, каб не ісці за Івана Жахлівага.

Яшчэ адзін з важных сімвалічных праектаў на тэрыторыі Казанскага Крамля — Музей татарскай дзяржаўнасці. Гэтая самая дзяржаўнасць выводзіцца ажно ад таямнічага качавога народа хуну, які на пачатку нашай эры так затэрарызаваў кітайцаў, што тыя змушаныя былі пабудаваць Вялікую сцяну. Далей місію па тэроры навакольных народаў перанялі гуны на чале з Атылам, якія ўжо пакаціліся на захад (і, відаць, нясуць адказнасць за некалькі спаленых гарадзішчаў таго часу на беларускай тэрыторыі). Далей паўстала гандлёвая імперыя Волжскай Булгарыі, якую знішчылі ўжо ўсім вядомыя мангола-татарскія орды. І, нарэшце, нашчадкі ўсіх гэтых слаўных цюркскіх продкаў — сучасны Татарстан. Так і хочацца ўскочыць на каня — і па здабычу!

### Іслам у Татарстане

За часы каланізацыі сюды прыбыло шмат рускіх. Цяпер іслам і праваслаўе тут амаль у роўным становішчы: паўсюль ёсць і цэрквы, і мячэці. Але іслам карыстаецца прыярытэтнай падтрымкай мясцовых уладаў.
Знешне падаецца, што мясцовыя мусульмане не надта рэлігійныя: намазы мала хто наведвае, алкаголь тут ужываюць практычна ўсе.
Але разам з тым існуе і пагроза фундаменталізму: мясцовая мусульманская моладзь часцяком адпраўляецца ваяваць да талібаў ці ў якую Сірыю.

У музеі шмат сучасных тэхналогій, а сапраўдных артэфактаў мала. Але можна ўбачыць сярод іх і чэшскую манету, знаходка якой дала магчымасць гаварыць пра 1000-гадовае існаванне Казані.





У 1997 годзе падчас раскопак на Казанскім Крамлі знайшлі чэшскую свінцовую манету з надпісамі: «Вацлаў князь» і «Горад Прага». **1000-гадовая манета ў адпаведным культурным слоі дала магчымасць адсвяткаваць і 1000-годдзе Казані.**

На наведванне Крамля можна адвесці і цэлы дзень, бо тут яшчэ Нацыянальная галерэя з татарскімі мастакамі XX стагоддзя (асабліва раю Мікалая Фешына) і нядаўна адкрыты філіял Эрмітажа — ёсць чым заняцца!



ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

Так выглядае **мячэць Кул Шарыф усярэдзіне.**

Літаральна насупраць у вельмі прыгожым будынку старых гандлёвых радоў месціцца Нацыянальны музей Татарстана. Я ўжо думаў, што і тут адбабахаюць нешта ультрасучаснае ды даражэзнае, ажно не — традыцыйны музей з усімі перавагамі і недахопамі такой мадэлі. Археалогія (асабліва палеаліт і неаліт) прадстаўленыя зусім сумна, але пазітыўна здзівілі знаходкі з Волжскай Булгарыі як развітой гандлёвай дзяржавы, куды гандлёвыя шляхі вялі вікінгаў і праз нашыя землі. Напрыклад, сярод знаходак у Булгарыі — франкскія мячы з кляймом Ульфбрэхта, шчодра раскіданыя па нарманскіх шляхах: такі ж меч знайшлі і ў Полацку. Проста добры класічны музей, дзе адсутнічае шалёная гларыфікацыя слаўнага цюркскага мінулага.

## Муса Джаліль

На плошчы насупраць Крамля варта звярнуць увагу і на помнік чалавеку, які вырываецца з калючага дроту, — гэта паэт Муса Джаліль. Каб даведацца пра яго лёс, лепш наведаць адмысловы музейчык, створаны ў невялічкай кватэры, дзе паэт паспеў пажыць зусім кароткі час. Трагічны лёс гэтага творцы, які спачатку зрабіў хуткую і правільную кар'еру паэта-камуніста. Але распачалася вайна, Джаліль пайшоў ▸



ФОТА МАКСІМА БАГАДВІДА / РИА НОВОСТИ

**Першы прэзідэнт Татарстана Мінцімер Шаймieў і дзяржсакратарка ЗША Хілары Клітан.** 2009 год.

палітруком на фронт, патрапіў у палон — і адтуль у волжска-татарскі добраахвотніцкі легіён вермахта. Афіцыйна ён там пісаў оды Гітлеру (параўноўваў яго з Атылам, гунскіх продкаў не забывайма) і займаўся вярбоўкай новых чальцоў, але папраўдзе — вёў падпольную дзейнасць, за што быў арыштаваны і ўрэшце расстраляны. З вязніцы Джаліль здолеў перадаць два сшытачкі вершаў, якія пасля вайны былі апублікаваныя пры падтрымцы пісьменніка Канстанціна Сіманава.

Рэабілітацыя Джаліля цягнулася доўга, але ў 1956 годзе яму далі залатую зорку Героя Савецкага Саюза, пасмяротную Ленінскую прэмію і нават стварылі оперу «Муса Джаліль», якая і цяпер ідзе на сцэне мясцовага опернага тэатра. Музей жа зроблены ў кватэры-камуналцы, дзе паэт паспеў атрымаць для сям'і два пакоі ў 1940 годзе. Жонка зберагла многія ягоныя прыватныя рэчы, якія сталі тут асновай экспазіцыі.



**Помнік Мусе Джалілю.**


**Старататарская слабада** ў Казані.



Мікалай Фешын. **Партрэт Веры Адарацкай.** 1914 год.

Сярод старых сядзібаў Казані можна знайсці дом Яўгена Баратынскага. Гэты паўзабыты паэт пушкінскага часу, тыповы рамантык, нават памёр стылёва: у Неапалі, адрынуты сацыяльна арыентаванай расійскай крытыкай. Вядома, што Аляксандр Пушкін наведваў Казань, калі вывучаў пугачоўскі бунт, і ў тым ліку дом Баратынскага (тут вам пакажуць бюро, за якім быццам бы расійскі класік працаваў у Казані). Але гэта іншая сядзіба, яе род Баратынскіх набыў толькі ў 1860-я гады, і нашчадкі верна перахоўвалі памяткі па сваім славутым продку. Праўнука паэта расстралялі бальшавікі, а дом тым часам канфіскавалі на грамадскія патрэбы. Добра, што цяпер у ім створаны музей.

Са старой забудовы экскурсаводы любяць паказваць дом, дзе жыла сям’я Ульянавых, якая пераехала ў Казань у 1887 годзе, бо сярэдні сын Валодзя паступіў на першы курс юрыдычнага факультэта мясцовага ўніверсітэта — і яму безумоўна была неабходная сямейная падтрымка. Менавіта тут распачалася рэвалюцыйная дзейнасць будучага правадыра


ФОТА АЛЯКСЕЯ ПАСТОЎСКАГА

сусветнага пралетарыяту. Падчас бурнай студэнцкай сходкі, калі студэнты ўніверсітэта захапілі галоўную аўдыторыю ды прымусілі рэктара прыняць петыцыю, Валодзя Ульянаў адзначыўся сваёй актыўнасцю — і адразу ж вылецеў з універсітэта: гэта ж рэакцыйныя часы, не дэмакратычныя. Дом, які наймалі для жылля, у савецкія часы збераглі — і цяпер ён складае частку цэлай плеяды мемарыяльных ленінскіх музеяў Паволжа, з якімі невядома што рабіць: і не зачыніш, і нічога цікавага не зробіш.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY ANTONOFFOTO.MAIL.RU

**Будынак загса ў Казані** стылізаваны пад кацёл для плову — казан.

**Казанскі ўніверсітэт** быў заснаваны ў 1804 годзе. Сярод яго выкладчыкаў у XIX стагоддзі было шмат выхадцаў з Заходняга краю, якія ўцякалі ад палітычнага пераследу. Напэўна, самым вядомым з гэтай кагорты стаў **Восіп Кавалеўскі (на фота)**: яго адправілі ў выгнанне ў Казань за ўдзел у Таварыстве філаматаў. Але гэта стала пачаткам бліскучай кар’еры для заснавальніка манголазнаўства ў Расійскай імперыі (ды, можа, і ва ўсім свеце). Былы філамат некаторы час нават быў рэктарам Казанскага ўніверсітэта. Манголы і цяпер шануюць Кавалеўскага, а музей у Вялікай Бераставіцы, адкуль родам Кавалеўскі, закідалі падарункамі.


WIKIMEDIA COMMONS

У Старататарскай слабадзе стаяць мячэці, узведзеныя ў часы Кацярыны II. Пабудаваныя яны ў моднай на той час стылістыцы класіцызму. Захаваліся і многія традыцыйныя дамы багатых татараў, прыгожа аздобленыя драўлянай разьбой. Зараз гэты раёнчык вельмі акуратна прылізалі (нафтадолары!) і пераўтварылі ў турыстычны атракцыён. Сюды можна прыходзіць па чаканую экзотыку, але аўтэнтыка татарскіх пасёлкаў тут практычна знікла. Міла, прыгожа, сувенірна.

## Свіяжск: горад-востраў

Ёсць цікавае і па-за сталіцай. За 30 кіламетраў ад Казані, на іншым беразе Волгі, войскі Івана ▶


PINTEREST.RU

З-пад Казані паходзіў мастак Канстанцін Васільеў — зусім нефарматны для савецкіх 1970-х. Ён загадкава загінуў у 1976 годзе, а ў 1990-х стаў папулярным сярод нацыянал-камуністаў, неапаганцаў, скінхэдаў. У Казані ёсць яго музей. **На фота — работа «Валькірыя над загінулым воінам».**




**Горад Свіяжск** стаў востравам у выніку будаўніцтва ГЭС.

Жахлівага за 4 тыдні паставілі крэпасць, каб быў нейкі аплот для штурму: Казань для экспансіўнага Маскоўскага царства доўгі час стаяла косткай у горле. Расійская крэпасць заканамерна стала і цэнтрам хрысціянізацыі заваяванага мусульманскага краю: пскоўскія дойліды пабудавалі тут Успенскі манастыр — вельмі багаты і ўплывовы духоўны цэнтр, у XVIII стагоддзі перабудаваны ўжо ў моднай стылістыцы ўкраінскага барока.

Сёння гэта адзін з самых папулярных кірункаў для аднадзённага падарожжа з Казані, асабліва ўлетку, калі туды ходзіць турыстычны параходзік, праўда, вельмі марудны. У спіс ЮНЕСКА ён трапіў за фрэскавыя роспісы з часоў Барыса Гадунова, што па расійскіх мерках — рэдкасць. Захаваліся два поўныя цыклы: «Выгнанне з раю» і «Жыццё Багародзіцы», аўтары невядомыя, але якасць выканання — досыць прымітыўная. Такога ўзроўню фрэсак па Расіі адшукаць можна шмат дзе, хай сабе і не часоў Барыса Гадунова. Але мы памятаем, што вырашае ўсе праблемы, а з рэсурсамі ў Татарстана пакуль усё добра.




Свіяжск трапіў у спіс ЮНЕСКА за **фрэскавыя роспісы з часоў Барыса Гадунова.**

Мясцовы музей абавязкова варта наведаць, каб зразумець усю складанасць гісторыі Свіяжска. Бо гавораць пра рамантычнае: імгненнае будаўніцтва крэпасці перад рашучым штурмам Казані, духоўна-місіянерскі цэнтр, унікальныя фрэскі... Але звычайна маўчаць пра тое, як за саветамі тут тэрорам вычышчалі рэлігійнасць. У манастырскіх сценах зрабілі турму НКВД і псіхіятрычны шпіталь, а будаўніцтва Куйбышаўскай ГЭС стала катастрофай для горада: сухапутны шлях да цывілізацыі быў надоўга страчаны, а 70% забудовы знішчана.

І толькі нядаўна велізарнымі намаганнямі Свіяжск (ужо не горад, а паселішча з парай сотняў жыхароў) быў адноўлены. Цяпер гэта — мілы астравок, пад завязку напоўнены турыстамі. Але паспрабуйце ўявіць, якім тут было жыццё ў канцы 1980-х, калі працавалі толькі турма і псіхіятрычная бальніца.

## Татары і татарская мова

Татары — найбуйнейшы народ Расійскай Федэрацыі пасля рускіх. Агульная іх колькасць па выніках апошняга агульнадзяржаўнага перапісу 2010 года складала больш за 5 300 000 чалавек. Але гэты народ — неаднародны, ён падзяляецца на тры асноўныя этнатэрытарыяльныя групы: волга-ўральскія, астраханскія і сібірскія татары. Часам гэтыя групы могуць разглядацца і як асобныя народы.

Волга-ўральская група, татары з якой жывуць у Татарстане, — найбуйнейшая, усіх іх каля 4 млн чалавек. Але ў Татарстане з іх жыве толькі палова. Яшчэ каля мільёна — у суседнім Башкартастане, астатнія ж рассеяныя па розных паволжскіх і ўральскіх абласцях і рэспубліках (Чалябінская, Арэнбургская, Свярдлоўская, Ульянаўская, Самарская, Пензенская, Саратаўская, Ніжагародская, Кіраўская вобласці, Пермскі край, рэспублікі Удмурцыя, Мардовія, Марый Эл, Чувашыя). Вялікая татарская дыяспара здаўна існуе ў Маскве.

Паводле веравызнання большасць татараў — мусульмане-суніты, але ёсць і невялікая група (каля 35 тысяч чалавек) праваслаўных хрысціян, якія завуцца *кра́шчэнамі*

(хрышчанымі). Частка крашчэнаў схільная да таго, каб лічыць сябе народам, асобным ад татараў.

Татарская літаратурная мова — адзіная для ўсіх татараў (апрача крымскіх, якія ўвогуле іншы народ), хоць размоўная падзяляецца на шматлікія дыялекты і гаворкі. Асноўных дыялектаў тры: мішарскі (заходні), казанскі (цэнтральны) і сібірскі (усходні). У аснову літаратурнай мовы пакладзены казанскі дыялект.

Татарская мова добра развітая і мае найбагацейшую літаратурную традыцыю сярод моў усіх іншых народаў Расіі. Самы ранні выяўлены пісьмовы помнік на ёй датуецца XIII стагоддзем. Першапачаткова татарская пісьменнасць існавала на аснове арабскага алфавіта, у 1927–1939 гадах была спроба пераводу татарскай мовы на лацінку, з 1939-га выкарыстоўваецца кірыліца. У 1999 годзе ў Татарстане быў прыняты смелы закон аб пераводзе татарскай мовы на лацінскую графіку, але ў 2004 годзе ён быў адменены Масквой.

Цяпер, ва ўмовах нарастання ва ўсёй Расійскай Федэрацыі ўніфікацыйных і русіфікацыйных тэндэнцый, амаль усе нацыянальныя мовы перажываюць няпростыя часы, абмяжоўваецца іх вывучэнне ў школах. Татарская —




**Надпіс у метро** ў Казані.

не выключэнне. Асабліва складанае яе становішча ў тых расійскіх рэгіёнах, дзе татары з'яўляюцца нацыянальнай меншасцю. У Татарстане становішча лепшае, бо і само кіраўніцтва рэспублікі не адмаўляе важнасці ведання нацыянальнай мовы. Сам прэзідэнт Татарстана Рустам Мініханаў у 2017 годзе, выступаючы па-татарску не перад гуманітарнай інтэлігенцыяй, а на форуме татарскіх прадпрымальнікаў, казаў так:



«Ёсць праблемы глабалізацыі, колькі цяпер моў знікае! Нават тут, калі мы не будзем выкарыстоўваць татарскую мову, калі мы не будзем дома размаўляць па-татарску, то каму яна будзе патрэбная?

Толькі 30 працэнтаў татараў жывуць у Татарстане, астатнія — за межамі рэспублікі. Калі такія людзі, як вы, не скажуць, што трэба захаваць нацыю, мову, то яны знікнуць. Чаму татары, якія жывуць у Кітаі, захавалі сваю мову, а мы ў Татарстане не можам?

У мяне ёсць прапанова на будучыню: паціхеньку, правільна ці з памылкамі, але выступаць трэба па-татарску. Тут няма нічога ганебнага — ну сказаў няправільна, 10 разоў няправільна, на 11-ы раз будзе правільна.

Шмат ходзіць размоў: трэба мова, не трэба. Ну як не трэба? Калі ты ўмееш па-татарску, зможаш з узбекам, казахам, кыргызам, туркам, уйгурам мець зносіны. Была такая сітуацыя, калі мы сустракаліся з некалькімі кітайскімі губернатарамі, а перакладчыка не было. А там быў уйгур-губернатар, і мы спакойна размаўлялі: ён на ўйгурскай, а я на татарскай. Усе на нас глядзелі.

Калі ты татарскую ведаеш, то ты за тры месяцы турэцкую мову можаш вывучыць! Хіба гэта кепска? Ніколі не варта казаць, што мне гэта не трэба. Можа, гэта некалі табе ці жыццё выратуе, ці бізнэс».

## Вялікі Булгар

Яшчэ адна мясціна са спісу ЮНЕСКА ў Татарстане — Вялікі Булгар (сучасная назва — Бо́лгар). Калісьці гэта была сталіца багатай дзяржавы волжскіх балгараў, а пазней — першая сталіца Залатой Арды. Ад качэўнікаў, як вядома, апроч скарбаў з нарабаваных багаццяў звычайна мала што застаецца: шукай пылу на раздарожжы. Але тут унікальны выпадак, бо з XIII–XIV стагоддзяў захаваліся руіны саборнай мячэці з мінарэтам, які дастаяў да 1841 года (!), фундаменты ханскага палаца, некалькі маўзалеяў (адзін з іх рамантычна названы ханскай пахавальняй) ды загадкавая «Чорная палата», сцены якой пачарнелі, бо мясцовыя жыхары прыстасавалі будынак пад вяндлярню*.

* **Вяндлярня** — месца, дзе ў дыме гатуецца мяса, сала, рыба. Вэнджаныя прадукты называюць вяндлінай. Слова «вэндзіць» — праславянскае.




**Сцены «Чорнай палаты»** сталі такія, бо пасля падзення Казанскага ханства мясцовыя жыхары прыстасавалі будынак пад вяндлярню.

Гэтыя руіны ўжо ў XVIII стагоддзі пачалі цікавіць падарожнікаў, іх сталі даглядаць і захоўваць. З 1938 года Булгар даследуюць археолагі, большая частка знаходак тут жа экспануецца ў вельмі якасна зробленым Музеі булгарскай цывілізацыі. Не абышлося і без тыповай для Татарстана гігантаманіі: у спецыяльна пабудаваным мемарыяле можна ўбачыць самы вялікі ў свеце друкаваны Каран, аздоблены максімальна па-багатаму.

Фантастычнае месца, вартае пераадольвання складанасцяў, каб да яго дабрацца. Бо аўтобус сюды ходзіць раз на тыдзень, ды і хуткасныя параходы плаваюць са шматлікімі абмежаваннямі і толькі ў летнія месяцы — усе добра памятаюць катастрофу парахода «Булгарыя» ў 2011-м, калі ў Волзе патанула больш за сотню чалавек.


URAL TATAR

**Самы вялікі друкаваны Каран у свеце** захоўваецца ў Булгары.

### Шышкінская Елабуга

Яшчэ адзін з папулярных турыстычных гарадоў Татарстана. Распачынаць візіт туды варта з наведвання Чортавага гарадзішча, дзе знойдзена знакамітае паселішча фіна-вугорскай (так званай ананьеўскай) культуры. Пазней гарадзішча перанялі волжскія булгары, якім прыпісваюць будаўніцтва круглай вежы — так і незразумела, ці то проста абарончая вежа, ці то гэта мячэць была такая. Адсюль прыгожыя віды на зліццё рэчак Тоймы і Камы, якія ў маладосці цешылі мастака Івана Шышкіна.

Шышкін для Елабугі — гэта не проста «мішкі ў лесе» (якія не такія ўжо і шышкінскія), але і магутная мясцовая купецка-прамысловая дынастыя, якая трымала завод па вырабе званоў. Бацька мастака быў гарадскім галавой, апекаваўся мясцовымі гістарычнымі памяткамі, адрамантаваў булгарскую вежу на гарадзішчы і напісаў кнігу па гісторыі Елабугі. Дом быў аддадзены пад музей у 1930-я гады, захаваліся многія аўтэнтычныя рэчы з побыту заможнай мясцовай сям'і. Некалькі арыгінальных твораў мастака таксама можна тут убачыць, у тым ліку і першую яго карціну «Жніво», выпадкова знойдзеную пры рамонце.

Яшчэ ў Елабузе захаваўся сядзібны дом знакамітай кавалерысткі Надзеі Дуравай, якая не толькі перааапранутай у мужчыну служыла ў гусарскіх палках і брала ўдзел у вайне з Напалеонам, але пакінула пасля сябе займальныя мемуары (у тым ліку пра свой гусарскі побыт у Гродне). Ад саміх інтэр'ераў нічога не захавалася, экспазіцыя разбіваецца на чатыры часткі: дзяцінства, праведзенае ў паходах з гусарамі, вайсковыя здзяйсненні, літаратурная актыўнасць, што выклікала шчырае захапленне Пушкіна, ды жыццё ў Елабузе сярод падабраных катоў і сабак.

Агулам у Елабузе мноства музеяў, ёсць чым бавіцца, сярод незвычайных — Музей павятовай медыцыны імя Бехцерава, які месціцца ў будынку аднаго з карпусоў былога павятовага шпіталя. Тут татарскія бабкі-знахаркі са сваімі зёлкамі, побыт павятовага доктара, кабінет сусветна вядомага неўролага Уладзіміра Бехцерава (нарадзіўся непадалёк), койка ў дурдоме, аперацыйны стол сучаснай паліклінікі. Складаная тэма, але тут пададзена досыць жвава.


ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Чортава гарадзішча было крэпасцю Волжскай Булгарыі.**


Інаполіс.
ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

Але не ўсім жыццё ў ціхім купецкім гарадку было даспадобы. У 1941 годзе сюды ў эвакуацыю накіравалі вялікую рускую паэтку Марыну Цвятаеву з сынам. Але яна не вытрымала цяжкасцяў жыцця ў таталітарнай дзяржаве (прыехала ў СССР з еўрапейскай эміграцыі толькі ў 1939-м) — і скончыла жыццё самагубствам. Памяць яе тут ушаноўваюць, створана некалькі музеяў, стаіць і помнік.

### *Innopolis* — горад будучыні

Горад будучыні? Правальны праект? Вырашаць вам. Інаполіс (*Innopolis*) — афіцыйна самы маленькі горад Расіі па колькасці насельніцтва (менш за тысячу чалавек). Універсітэт для айцішнікаў плюс хаб для айці-кампаній з мноствам ільгот — можна паглядзець на няспраўджаную Беларусь. Велізарны комплекс, дзе з цяжкасцю можна знайсці хоць адну жывую душу. Ультрасучасная архітэктура і адчуванне зомбі-апакаліпсіса.

І мне падабаецца інавацыйны падыход: на прыпынку аўтобуса да Казані няма раскладу, толькі QR-коды, якія выводзяць на сайт горада Інаполіс. Пра расклад трэба дапытвацца ў мінакоў старасвецкім спосабам.

### Набярэжныя Чаўны

Таксама цікавы менавіта як утапічны ўрбаністычны праект «горад будучыні», але ўжо з іншай эпохі — савецкай. Хоць гісторыя горада сягае да казацкага паселішча, але фактычна ён быў узведзены з нуля ў 1960–1970-я гады, і магутным штуршком стала будаўніцтва гіганцкага завода КамАЗ. Новае жытло будавалася для работнікаў завода, і вялізныя рэсурсы дазволілі тут рэалізаваць самыя смелыя горадабудаўнічыя планы.

Па сутнасці, тэрыторыя горада была разбітая на гіганцкія блокі-кварталы квадратнай формы, з вялізнымі дварамі, кожны такі блок мусіў быць цалкам самадастатковым, з уласнай інфраструктурай. І разам з тым — шырачэзныя праспекты, якія ізалююць кожны такі жылы блок у асобны ▸

### Прэзідэнт Шаймііеў і яго сыны

Татарстан цяпер — адзіная з расійскіх нацыянальных рэспублік, дзе пасада яе кіраўніка называецца менавіта так. 10 гадоў таму такіх рэспублік была большасць, але ў канцы 2010 года быў прыняты федэральны закон, які забараняў кіраўнікам рэгіёнаў быць прэзідэнтамі. Да 1 студзеня 2015 года яны мусілі абраць для гэтай пасады іншую назву.

Усе рэспублікі загаду з Масквы падпарадкаваліся, а Татарстан — не, спасылаючыся на тое, што такая пастаноўка пытання супярэчыць ранейшым дамоўленасцям рэспублікі з федэральным цэнтрам. Урэшце Крэмль махнуў рукой і пакуль што не стаў дабівацца ад казанскіх уладаў абавязковага выканання гэтага закона. Але ўвогуле не змірыўся: акурат у канцы верасня гэтага года стала вядома, што ў Дзяржаўную думу Расіі ўнесены законапраект, згодна з якім усе кіраўнікі суб'ектаў федэрацыі павінны абавязкова звацца толькі «главамі». Татары зноў рыхтуюцца адбівацца.

Падобная сітуацыя — тыповая для ўзаемаадносін Масквы і Казані ў апошнія 30 гадоў. Моцныя татарскія рэгіянальныя эліты на чале з былым кіраўніком яшчэ Татарскай АССР Мінцімерам Шаймііевым, які стаў першым прэзідэнтам Рэспублікі Татарстан, адразу пасля распаду СССР здолелі здабыць для сябе ў складзе Расіі асаблівы статус і фактычна захавалі яго ў наступныя дзесяцігоддзі. Масква, вядома, не надта задаволеная празмернай самастойнасцю татараў, але і надта абвастраць адносіны, рызыкуючы выклікаць дэстабілізацыю ў вельмі важнай і з сацыяльна-эканамічнага, і з пункту гледжання міжнацыянальных адносін рэспубліцы пакуль не наважваецца.

Дарэчы, сыны камуніста Шаймііева Радзік і Айрат сталі прадпрымальнікамі. Цяпер яны мільярдэры.

анклаў. Праверана: мясцовыя жыхары могуць не ведаць, на якой вуліцы фармальна яны жывуць, паколькі ўся арыентацыя адбываецца толькі па нумарах мікраранаў. Зусім не дзівіць, што ў 1990-я кожны такі жылы блок сфармаваў сваю крымінальную банду, якія ладзілі паміж сабою войны, а потым адправіліся заваёўваць Маскву. Нешта не складвалася ў савецкіх горадабудаўнікоў з «будучыняй».


DEPOSITPHOTOS.COM, BY EAGLE2308

**Канцэпт электробуса КамАЗ-шатл.** Асноўная вытворчасць завода КамАЗ — у Набярэжных Чаўнах.

## Як дабрацца

З усёй Расіі гэта адзін з самых багатых і дагледжаных рэгіёнаў, куды лёгка дабрацца.

Самы лёгкі спосаб паляцець у Казань — рэйсы «Белавія» два разы на тыдзень, цэны стартуюць ад 163 еўра. Больш танны, але крыху менш зручны варыянт — дабрацца цягніком да Масквы (той жа «Ластаўкай» за 40 рублёў), адтуль жа можна таннымі расійскімі авіялініямі даляцець да Казані ці Ніжнякамска за 30 еўра.

# Як згатаваць чак-чак?

Традыцыйнае татарскае застолле — без алкаголю. П'юць чай (могуць дадаваць розныя травы). Гарачы абед пачынаецца з супу, звычайна гэта *токмач*, вельмі тонкая локшына ў курыным булёне. Галоўнай стравай звычайна выступае слаёны пірог *губадзія* з некалькімі відамі начынак. Усім нам вядомы *бяляш* таксама мае татарскае паходжанне.

З незвычайнага ўзгадаем, што татары ўжываюць у ежу каніну (што не забаронена ісламам), для гэтага вырошчваюць спецыяльных коней, звычайна выкарыстоўваюць маладых кабыл.

І адзін з сімвалаў татарскай кухні — гэта *чак-чак*, кавалкі здобнага цеста, абсмажаныя на масле і зnative злепленыя разам мёдам. Лічыцца, што гэты ласунак мае паходжанне ажно ад волжскіх булгараў.

### Як згатаваць чак-чак?

**Інгрэдыенты:**

- 500–600 г мукі
- 150 г масла
- 150 г цукру
- 5 яек
- 300 г мёду
- 300–400 мл алею

Растапіць на вадзяной ванне масла і астудзіць да пакаёвай тэмпературы. Да яек дадаць 30 г цукру, крыху ўзбіць, змяшаць з астуджаным маслам. Дадаць, прасеяўшы, 500 г мукі. Вымесіць цеста і па неабходнасці дадаць рэшту мукі порцыямі, пакуль цеста не стане мяккім і пругкім. Накрыць яго і пакінуць на 15 хвілін.

Размінаць у пласт цеста належыць рукамі, але можна і качалкай, да таўшчыні 1 см. Гатовы пласт нарэзаць палоскамі шырынёй 1–1,5 см, а пасля кожную палоску рукамі скачаць у жгут. Урэшце кожны жгут трэба нарэзаць на кавалачкі даўжынёй 3–4 см.

У глыбокай патэльні або казане разагрэйце алей і смажце палачкі да залацістага колеру, памешваючы (прыблізна 2–3 хвіліны). У той жа час у каструлі нагрэйце мёд з рэштай цукру, на малым агні давядзіце да кіпення. Цукар мусіць распусціцца, а сама карамель стаць гусцейшай.

Гатовыя палачкі пакладзіце ў шырокую місу і заліце гарачым мёдам. Асцярожна перамяшайце і выкладзіце курганчыкам.

Чак-чак ядуць рукамі.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY PINTAAL@MAIL.RU

**Чак-чак** — палачкі са здобнага цеста, злепленыя мёдам.

# Ніхто не ведаў яе сапраўднага імя

## *Таямніца Галіны Макаравай*


З АРХІВА КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА

**Вялікая беларуская артыстка мела ўсе падставы трымаць гэты сакрэт: каркаломныя часіны маюць уласцівасць вяртацца, піша Вольга Бабкова.**

У 1919 годзе (але гэта не дакладна) у немалым палескім мястэчку Старобін на Случчыне нарадзілася Агата Чаховіч. Яе дзед быў святаром, узначальваў прыход.

Бацька Агаты нарадзіўся ў 1861 годзе, таксама вучыўся ў семінарыі, але ўрэшце абраў вайсковую кар'еру, стаў афіцэрам царскай арміі. Са старэйшым пакаленнем у яго выйшаў разлад: вядома, што ў яго была жонка, ад якой ён сышоў да сялянкі, маладзейшай за сябе на 24 гады. У гэтай другой сям'і і нарадзіліся Агата ды тры яе сястры: Тэкля, Яніна і Аляксандра.

У сям'і захоўваліся срэбны паднос і чайны сервіз, падораныя самім імператарам Мікалаем II: Кліменцій Чаховіч падчас Першай сусветнай служыў у стаўцы цара. Савецкую ўладу афіцэр Чаховіч не прыняў, ваяваў супраць бальшавікоў у арміі Дзянікіна, мог эміграваць у Турцыю, аднак вярнуўся на Беларусь. Яго чакалі жонка і дзеці.

У 1921 годзе бацьку арыштавалі і асудзілі: за сувязь з польскай разведкай. Кліменцій Чаховіч атрымаў пяць гадоў лагераў. Дзіўным чынам патрапіў пад ▸

амністыю, вярнуўся на радзіму значна раней ды пасадзіў велізарны сад, пакінуўшы памяць пра сябе ў тутэйшага люду як выдатны садоўнік. Памёр у 1936 годзе, а рэабілітаваны — толькі ў 1992-м.

Нават вярнуўшыся, Чаховіч заставаўся «ворагам народа», і на яго сям'і было кляймо. У тыя часы з гэтым не жартавалі, дзіва што жонка знішчыла ўсе дакументальныя доказы прыналежнасці да сям'і арыштанта. З-за небяспекі пераследу маці змяніла дзецям прозвішча Чаховіч на сваё дзявочае — Апанашчык. І спаліла ўсе старыя фотаздымкі з сямейных альбомаў — усё дарэшты.

Адсюль і пазнейшая блытаніна з метрычнымі запісамі аб нараджэнні будучай артысткі. Паводле ўспамінаў дачкі Галіны Макаравай Таццяны Касцюнінай, маці заўсёды лічыла сябе старэйшай гады на тры, бо памятала, як у доме з'явілася нованароджаная сястрычка Шура. «Як толькі дзяўчынку паклалі на стол, мама падбегла і стала разглядаць немаўля. Прычым ніхто з дарослых для таго, каб яна магла ўбачыць сястрычку, яе не падсаджваў, бо нос будучай народнай артысткі ўжо ўзвышаўся над сталом. Цёця Шура нарадзілася ў 1921 годзе, і маме, калі прытрымлівацца яе афіцыйнай біяграфіі, тады было два гады. Але ў такім узросце дзіця не можа помніць рэчаіснасць. Выходзячы з гэтага, мама вылічыла, што на дзень нараджэння сястры Шуры ёй было прыкладна каля пяці гадоў, а гэта значыць, што на свет яна з'явілася, хутчэй за ўсё, у 1916 годзе».

Такім чынам, і год, і нават дзень нараджэння Агаты-Галіны, які святкавалі ў сям'і 27 снежня, былі ўзятыя «са столі» местачковым старобінскім пісарам.

**Польскімі шпіёнамі** былі «прызначаныя» тысячы непажаданых уладзе асобаў, сярод якіх і адзін з заснавальнікаў Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра **Фларыян Ждановіч (на фота)**, высланы на будаўніцтва Беламорканала. Агаце Чаховіч не давялося пазнаёміцца з ім у Мінску.


NLB.BY


SLUCK-EPARCHIYA.BY

**Старобін, царква Святога Іаана Багаслова.** Тут стаяла драўляная праваслаўная царква, ля якой былі пахаваныя дзед і баба Галіны Макаравай. За савецкім часам на месцы кладоў зрабілі рынкавую плошчу, а ў будынку царквы быў клуб, у 1982 годзе ён згарэў.

## Мотакрос

Агата Апанашчык расла ў галодныя часы, доўга ўвогуле не ведала пра тэатр, але памятае пра сваю заўсёдную ўтоеную прагу да прыгажосці, прагу да жыцця, поўнага святла і музыкі. Яшчэ падлеткам аднойчы без дазволу бацькоў выправілася пехатой у Слуцк — амаль за 40 км! — каб пабачыць выступленне сапраўдных артыстаў.

Яна была няўрымслівай, галасістай свавольніцай. Да дзяўчынкі нават прыляпілася мянушка Бубен. А першы настаўнік Хаім Іцкавіч навучыў яе граць на акардэоне і гаварыць на ідышы «Няхай жыве Кастрычніцкая рэвалюцыя!».

У шаснаццаць гадоў старобінская дзяўчынка ўцякла ад беднасці ў Мінск. Не грэбавала ніякай працай: хатняй прыслугі, санітаркі ў Першай клінічнай бальніцы. Аднаго разу за кампанію з сяброўкай прыйшла на пробы ў студыю Першага Беларускага драматычнага тэатра (БДТ-1). Мабыць, талент «выплюхваўся» з санітаркі: пра паступленне ў студыю яе намаўляў вядомы тады хірург Майсей Шапіра.

Ды пры ўсім таленце можна было і не паступіць: дачка «ворага народа». Але дапамог уплывовы бацька сяброўкі. Ён сказаў у тэатры: «Не возьмеце яе —

зробіце памылку!» На іспыце Агата грала на акардэоне і чытала фрагменты Купалавай паэмы «Курган», якую вельмі любіла. І паступіла.

## Галіна Макарава была чэмпіёнкай Беларусі 1937 года па мотакросе

Працы і вучобы для цягавітай паляшучкі было замала, яе вабілі спартыўныя практыкаванні. Адначасова яна займалася конным спортам, кіданнем дзіды і ганяла на матацыкле. Прытым ганяла не проста так — у 1937 годзе Агата стала чэмпіёнкай Беларусі па мотакросе. І гэта неспасціжны парадокс: як у адзін час і на адной прасторы маглі існаваць узаемавыключныя формы жыцця — «нармальнае» ў сваёй паўнаце і трагічнае, з таўром «1937».

### Быць Галінай — па-гарадскому

У 1938 годзе яна ўпершыню выходзіць на сцэну — у ролі Смеральдзіны ў спектаклі «Слуга двух паноў» Карла Гальдоні. Цяпер яна была актрыса, а актрыса мусіць мець гучнае, прыгожае імя. Вясковае «Агата» не пасавала тагачаснаму тэатральнаму крэда, а вось «Галіна» гучала вельмі па-гарадскому.

І першае каханне здарылася па-гарадскому, імкліва. Адзін са спектакляў тэатр паказваў для вайскоўцаў ва Уруччы. Малады афіцэр, камандзіраваны з Масквы, пасля спектакля прабраўся за кулісы, каб пазнаёміцца з артысткамі. Ён быў вельмі прыгожым, той Іван Макараў. І пад канец мінскай камандзіроўкі Галіна выйшла замуж, пакінула Мінск, тэатр, стала Макаравай і пераехала ў Маскву. А адтуль — на Кольскі паўвостраў, у Кандалакшу.

Пасля ж пачалася вайна. Макараў быў на фронце, а Галіна з малым сынам, Эдзікам, жыла ў Маскве, была ў эвакуацыі і працягвала марыць пра тэатр. Пры падтрымцы спагадлівых бацькоў Івана ўлетку 1944 года Галіна Макарава прайшла праслухоўванне і была запрошана ў знакаміты Вахтангаўскі тэатр. Вялікая радасць!

Неўзабаве з фронту вярнуўся і каханы муж. Жывы, здаровы! Але вось толькі не адзін, а з паходнай жонкай.

Галіна з малым Эдзікам маглі застацца разам са старымі бацькамі Макарава, але... Неспадзявана на маскоўскай вуліцы яна сустрэла скульптара Заіра Азгура, які паведаміў, што трупа БДТ вяртаецца з Томска ў Мінск. І актрыса паехала на радзіму, у тэатр, які неўзабаве атрымае імя Янкі Купалы.

Маскоўская старонка біяграфіі так і засталася для яе не перагорнутай да канца. Але ў Мінск Галіна-Агата вярнулася колішняй: адкрытай, бурлівай, шчодрай. Гэта пазней, у 1950-х, да яе прыйдзе слава і замацуецца тыпаж «мамкі», пазней «бабулі». А ў той час яна была ў ролі Кікімары: хапалася за кулісамі за ліяну і ляцела над усёй сцэнай спачатку ў адзін бок, пасля ў другі. І смяялася па-вядзьмарску. ▶



**Галіна Макарава** займалася не толькі мотакросам, але і конным спортам.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ТАЦЦЯНЫ КАСЦЮНІНАЙ

### Чужыя і родныя

Сувязь паміж былымі сужэнцамі не перарывалася — з-за сына. Той часта бываў і жыў у Маскве.

У 1972 годзе Купалаўскі тэатр павёз на маскоўскія гастролі славуты спектакль «Трыбунал» па п'есе Андрэя Макаёнка. Галіна запрасіла сям'ю свайго даўняга мужа ў тэатр на Малой Броннай. Старэйшая дачка Эдзіка згадвала, што падчас апладысментаў заўважыла на твары дзядулі пэўную разгубленасць і нават рэўнасць да поспеху былой жонкі.

А Галіна — яна ўсё жыццё любіла дажджлівыя дні: у дождж Іван, ці Івушка, як яна яго звала, звычайна заставаўся з ёй, дома. Калі ж актрыса дазналася пра смерць першага мужа, у яе здарыўся гіпертанічны крыз.

### Стары халасцяк у жаночых панчохах

Другі муж, Павел Пекур, таксама быў купалаўцам, прыйшоў у тэатр яшчэ ў 1932 годзе. Інтэлігентны, мяккі чалавек, мастак. Не заўважыць адчайную студыйку, калі тая толькі з'явілася ў тэатры, ён не мог.

Але зоркі сышліся толькі пасля вайны. На вечарыне, прысвечанай 100-годдзю актрысы, народная артыстка Беларусі Зінаіда Зубкова прыгадала сваю колішнюю размову з Галінай Макаравай. «Аднойчы яна мне расказала, як пазнаёмілася з Пекурам. Ён быў такі інтэлігент, а тут пабачыла, як купляе жаночыя панчохі. А гэта ж пасляваенны час — і грошай не было, і шкарпэтак таксама. Кажа: "Ён іх насіў-насіў, пасля нажніцамі абразаў, падцягваў і зноў насіў. І так мне яго стала шкада!"».

Акенцы іх грымёрных месціліся каля службовага выхаду. Злева — Галіны Макаравай, справа — Паўла Пекара. А ў 1951 годзе ў іх нарадзілася дачка Таццяна.

Яны жылі разам з дзецьмі, Таццянай і Эдзікам, у доме на плошчы Перамогі, якая да 1958 года звалася Круглай. Вельмі адрозніваліся тэмпераментамі:


З АРХІВА КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА


KSTOLICA.RU

Злева направа: **сястра Аляксандра, дачка Таццяна, пляменніца Таццяна (дачка Аляксандры), Павел Пекур, Галіна Макарава.**

яна — імпульсіўная, эмацыйная, ён — спакойны, ураўнаважаны. Але тое, што іх аб'ядноўвала, было найважнейшым. Абое былі надзейнымі, сціплымі, ніколі не наракалі на лёс, не зласловілі, не абгаворвалі іншых. Шмат чыталі ў вольны час. Галіна вышывала карціны паводле малюнкаў свайго мужа.

Маладзейшая за іх на пакаленне Марыя Захарэвіч, народная артыстка Беларусі, запомніла гэту пару заступнікамі: «Неяк я была ў вельмі складанай жыццёвай сітуацыі і мне не было дзе жыць. У адзін з дзён у тэатры да мяне падышлі Галіна Кліменцьеўна і Павел Аляксеевіч Пекур — цудоўны чалавек і акцёр — і прапанавалі мне пажыць у іх двухпакаёвай кватэры на плошчы Перамогі, з імі разам. Я была бясконца ўдзячная, сапраўды пажыла ў іх некаторы час і яшчэ больш спазнала іх дабрыню, цеплыню і шчодрасць — гэта тое самае, што ніколі ў жыцці не забудзецца. Пры гэтым Галіна Кліменцьеўна ніколі не гаварыла пра свае праблемы — ніколі! Але ведала чамусьці аб праблемах іншых».

### Абавязаная Макаёнку

Першы сур'ёзны поспех Макаравай быў звязаны з імем драматурга Андрэя Макаёнка.

**Андрэй Макаёнак шмат якія ролі пісаў менавіта пад Макараву**

У першыя пасляваенныя гады ў тэатры панавала задушлівая атмасфера дзяржаўных заказаў, татальнага сацрэалізму і бесканфліктнасці — усё згодна з пастановамі партыі. Аднак у 1953-м падзьмула свежым паветрам: рэжысёр Канстанцін

Саннікаў ставіць спектакль па п'есе Макаёнка «Выбачайце, калі ласка», дзе Макарава сыграла ролю Марыі Кірылаўны — жонкі старшыні калгаса.

Андрэй Макаёнак актрысу і разгледзеў. Пазней шмат якія ролі драматург пісаў менавіта для яе. Так сталася і з адной са знакавых тэатральных роляў Макаравай — Лушкі ў спектаклі «Лявоніха на арбіце». Макаёнак прызнаваўся, што, калі пісаў новую п'есу для тэатра, уяўляў сваю гераіню выключна ў выкананні Макаравай. Калі ж даведаўся, што рэжысёр Барыс Эрын планаваў іншую артыстку, прыгразіў проста забраць п'есу з тэатра.

І гэтая роля стала сапраўднай сенсацыяй для публікі. З цягам часу выканаўцы ў спектаклі змяняліся, але Макарава ў вобразе Лушкі-Лявоніхі выходзіла на сцэну 600 разоў! Спектакль не сыходзіў з рэпертуарных афіш некалькі дзесяцігоддзяў.

### Шторанку а шостай

У 1976 годзе Макарава знялася ў фільме Сяргея Мікаэляна «Удовы» — і слава да яе прыйшла з усіх абшараў былога СССР.

Сёння яе фільмаграфія ўражвае: пад сотню роляў у розных



З АРХІВА КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА

карцінах, часта эпізадычных, але яркіх. Але да сваёй вядомасці і славы актрыса ставілася абсалютна спакойна. Больш за тое, публічнасць і празмерная ўвага дакучалі ёй. Зусім не ўмела песціць сябе, ствараць адмысловы вонкавы вобраз. Дарослая дачка колькі разоў прасіла маці, каб тая выбірала сабе прыгожыя статусныя строі і рэчы. Часам яна паддавалася і нават «выгульвала» іх на вуліцах. Але гэта была відавочная саступка. Радасці гэта ёй не прыносіла.

Яна ездзіла, як і ўсе, на тралейбусе і зусім не вылучалася сярод астатніх пасажыраў. Была арганічнай часткай грамады, зусім не як Стэфанія Станюта. Валянцін Белахвосцік, які быў парторгам у тэатры, казаў пра Станюту: «Яна не абшчэсцвенны чалавек». А вось Макарава была для яго акурат «абшчэсцвенным».

За кожнай зорнай роляй Макаравай стаяла цяжкая праца. Улетку 1972 года ў рэпертуары тэатра з'явіўся цікавы спектакль «У ноч зацьмення месяца» паводле вершаванай п'есы башкірскага пісьменніка Мустая Карыма ў цудоўным перакладзе Уладзіміра Караткевіча. У Макаравай была роля маці. Рэжысёр Валерый Анісенка згадваў: «Галіна Кліменцьеўна рыхтавалася да ролі і звярнулася да мяне, каб я папрактыкаваў яе ў рабоце з вершамі. А я, малады, па розных прычынах жыў тады ў тэатры ў бібліятэцы. Лета, шэсць гадзін раніцы — і раптам чую пад вокнамі гучнае: "Валерык!" І вось так кожную раніцу мы па дзве гадзіны хадзілі па скверы і рэпеціравалі. І з таго часу я ведаю, бо бачыў сваімі вачыма, як усё даецца. Калі мне гавораць: у яе інтуіцыя, талент! — не! Я быў сведкам, якая гэта вялікая ўнутраная работа».

> **«З ёй немагчыма было схлусіць, яна ўсё рабіла па праўдзе» — Генадзь Аўсянікаў**

### «Мая Лушка на арбіту выйшла... як Гагарын»

Спектакль «Лявоніха на арбіце» ішоў у Купалаўскім і 12 красавіка 1961 года — у дзень, калі ў космас паляцеў першы чалавек. У антракце актрыса Зінаіда Браварская абвясціла гэту радасную навіну з авансцэны. У наступнай дзеі Барыс Платонаў, які граў галоўную ролю Лявона Чмыха, да сваёй рэплікі «Мая Лушка на арбіту выйшла» па-майстэрску дадаў: «...як Гагарын». Зала выбухнула авацыямі. Атмасфера была непаўторная!

### І штаны, і боцікі, і ўсім — марозіва

Паводле ўспамінаў дачкі і ўнукаў, Галіна Макарава вельмі любіла дзяцей: і сваіх, і чужых. Неяк у маладосці быў выпадак, ►




WIKIMEDIA COMMONS

23 кастрычніка 2009 года была выпушчана **паштовая марка ў гонар 90-годдзя Галіны Макаравай.**

## Найбольш вядомыя фільмы, у якіх знялася Галіна Макарава

1965 — «Альпійская балада» (Пелагея)
1976 — «Удовы» (Аляксандра Мацвееўна Громава)
1983 — «Белыя росы» (Матрона)
1984 — «Невядомы салдат» (Клаўдзія Рыгораўна Іванцова)
1985 — «Берагі ў тумане» (Аўдоцця Яфімаўна)
1985 — «Не хадзіце, дзеўкі, замуж» (бабуся-«чумічка»)
1985 — «Супрацьстаянне» (Клаўдзія Ягораўна Яфрэмава)
1991 — «Восеньскія сны» (Ганна)
1992 — «Белыя адзёжы» (Праскоўя)
1992 — «На цябе спадзяюся» (Мацвееўна)

У знятым рэжысёрам Ігарам

Дабралюбавым на студыі «Беларусьфільм» фільме «Восеньскія сны» па п'есе Аляксея Дударава «Вечар» Галіна Макарава сыграла адну з галоўных роляў. Гэты балюча-кранальны фільм — пра трох старых, якія самотна дажываюць свой век у амаль вымерлай беларускай вёсцы Вешкі.


З унукам Ягорам.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ТАЦЦЯНЫ КАСЦЮНІНАЙ


LOOKATYOUR.COM

Ягор — акцёр, рэжысёр, сцэнарыст і прадзюсар, цяпер працуе ў ЗША.

што яна купіла марозіва цэламу класу, які сустрэла на вуліцы, проста таму, што хацела парадаваць малых. І нават у 61 год бегала, танчыла і скакала з дзецьмі ў ролі Дзеда Мароза на ранішніку сваёй унучкі Насты.

«Калі хтосьці біўся, яна кідалася ўсіх разнімаць, прыводзіла пацярпелых дадому, прамывала раны, бінтавала. Мама лёгка пазычала грошы, давала прытулак», — успамінае яе дачка Таццяна.

Кранальную гісторыю згадаў калега-купалавец Генадзь Аўсянікаў: «Прыехалі мы неяк позняй восенню на выязны спектакль. Як гэта звычайна ў калгасе: на адным пляцы клуб, магазін, сельсавет і помнік партызанам. І дзеці бегаюць вакол гэтага помніка. Проста на цэменце сядзіць хлопец гадоў пяці без штаноў, у адной сарочцы. Астатнія на яго не звяртаюць увагі. Галіна як пабачыла гэтага хлопчыка: "А дзетачка ж ты мая, а чый ты такі?!" Дзеці кажуць, што нейкіх там п'яніц мясцовых. Яна за гэтага хлопчыка — і ў магазін, купіла яму і штаны, і боцікі, і куртачку з шапкай, і ўсё аднесла ў яго хату».

Зінаіда Зубкова дапаўняе партрэт: «Людзей такой дабрыні рэдка знойдзеш. Неяк — пакуль тэатр ездзіў па гастролях — яна здала кватэру цыркачам, і там жылі ліліпуты. Адзін з іх захварэў. Дык вось, мы з гастроляў даўно вярнуліся, і сезон тэатральны ўжо пачалі, а ён там так і жыў, ляжаў хворанькі. І Галіна яго, маленькага, на ручках насіла ў ванну, карміла, лячыла, а як той паздаравеў, дык за свае грошы і адправіла туды, куды яму трэба было, з наказам: "Каб толькі тэлеграму даслаў, што ўсё ў парадку!"».

### Дрэвы ў дварах Круглай плошчы

Відаць, ад бацькі Клімянція Чаховіча, які калісьці ўпрыгожыў Старобін сваім садам, ягонай дачцэ Агаце/Галіне перадалася любоў да садоўніцтва. Яна любіла

дрэвы і садзіла іх у сваім двары на Круглай плошчы: чарэшню, алычу, бярозы, ялінкі... І плакала, калі спілавалі пасаджаны ёю даросла клён.

Акцёр-купалавец Фама Варанецкі згадваў пра агульную з Галінай любоў да кветак і сяброўства на гэтай глебе. Дзеля якога ў дэфіцытныя савецкія часы ішлі і на рызыку. Так, аднаго разу па адным умольным позірку Макаравай Варанецкі пералез цераз плот-рабіцу ў нейкі сад, каб таемна выкапаць там сцяблiну чорнага цюльпана.

Пасля спектакляў, авацый і паклонаў Макарава імкнулася хутчэй паехаць да сваіх півоняў і цюльпанаў, у свой адгадаваны рай на лецішчы, каб пабыць у цішыні і адзіноце. Апроч іншых кветак, тут раслі і дзівосныя эдэльвейсы.

Менавіта там, сярод восеньскіх, з даўкім гаркавым водарам кветак, у дажджысты дзень 28 верасня 1993 года Галіна Макарава і адышла ў іншасвет. Яе пабачыў вартаўнік, які зайшоў праверыць, ці добра напалілася печка ў дамку. Галіна Кліменцьеўна сядзела на канапе з патухлай папяросай у руках.



ФОТА ВОЛЬГІ БАБКОВАЙ

**Алыча-мірабэля, пасаджаная Макаравай** перад сваім домам на плошчы Перамогі.

### Нашчадкі

Цудоўныя дзеці, унукі і праўнукі Галіны Макаравай уражвалі на яе юбілейнай вечарыне, што адбылася ў студзені 2020 года ў Камернай зале Купалаўскага тэатра, сваёй артыстычнасцю, адкрытасцю і жывым талентам. Яны чыталі публіцы ўрыўкі з перапіскі Галіны Макаравай і Паўла Пекура, ігралі на музычных інструментах, чыталі вершы і канчаткова стварылі любоўную атмасферу сапраўднага сямейнага свята.

Дарэчы, адна з унучак Галіны Макаравай, якая нарадзілася за месяц да смерці бабулі, атрымала імя ў яе гонар — Агата. Бабуля нават яшчэ паспела выгуляць немаўля ў вазочку па мінскіх вуліцах. Цяпер Агата Клімовіч навучаецца ў адным з універсітэтаў ЗША майстэрству рэжысуры мастацкага кіно.

Сын Эдуард ад першага шлюбу, які па намове бацькі пасля заканчэння школы жыў і вучыўся ў Маскве, нейкі час працаваў рэферэнтам у прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова. Яго запрашалі пасля і ў апарат Барыса Ельцына, але ён катэгарычна адмовіўся. Усе канікулы праводзіў разам з маці на лецішчы, дзе навучыўся сталярнай справе ад купалаўскага майстра са сталярнага цэху ды пазней вырабляў для маці розныя вытанчаныя рэчы з дрэва.



INSTAGRAM.COM

З кіно звязала сваё жыццё і **малодшанькая з унучак Галіны Макаравай, Агата Клімовіч**. Яна таксама працуе ў ЗША.

Дачка Таццяна ад другога шлюбу, руплівіца ў справе памяці сваіх бацькоў, як у свой час і маці, займалася музыкай, спортам (нават была чэмпіёнкай рэспублікі па лёгкай атлетыцы), скончыла Інстытут замежных моў і рэжысёрскія курсы. Трыццаць гадоў працавала на беларускім тэлебачанні.

Позняй восенню 2020 года я гаварыла з Таццянай Паўлаўнай Касцюнінай пра падзеі, з якімі сутыкнуліся краіна і нацыянальны тэатр. Таццяна з гонарам сказала, што яна анітрохі не сумняецца, што яе маці заняла б годную пазіцыю. ◆

# Герцагства Букавіна,

## *або Падарожжа ў імперыю Габсбургаў*

**Вуліца Вольгі Кабылянскай у Чарнаўцах**, якая ў XIX стагоддзі называлася Герэнггасэ, або Панская.

WIKIMEDIA COMMONS

**Калі б старыя чыгуначныя вакзалы з усёю іх аздобаю, высокімі столямі, заламі чакання і пачарнелымі ад сажы дэбаркадарамі над платформамі маглі працаваць як машыны часу, то чарнавецкі падышоў бы для гэтага як найлепш, піша Сяргей Грунтоў.**

Вялікі будынак з высокім купалам і скульптурамі на фасадзе пабудаваў у пачатку XX стагоддзя адзін з самых вядомых венскіх архітэктараў свайго часу Ота Вагнэр. Цягнік «Укрзалізныці» прывозіў бы нас у сталіцу кароннага герцагства Букавіна, навокал была б чуваць пераважна нямецкая мова, хоць дасведчанае вуха пазнавала б сярод яе і ідыш, а з конюхам на дрожках можна было б паразмаўляць на мове, якую тады называлі русінскай. На прывакзальнай плошчы было б тлумна: коні, людзі, падводы. Пасажыры з вагонаў першага класа ў касцюмах і белых кашулях, купка цыганоў на бруку, студэнты ўніверсітэта, хасіды ў футравых штраймлах*, якія прыехалі да свайго цадзіка** ў суседнюю Садагору.

Герцагства Букавіна, краю з амаль казачнай назвай, болей не існуе. У XX стагоддзі ён не раз пераходзіў з рук у рукі і ўрэшце аказаўся падзеленым паміж Украінай і Румыніяй на паўночную і паўднёвую частку. Многім яго вядомым сынам давялося паміраць не дома, а ў Вене, Святой Зямлі, Нью-Ёрку, ад старасці ў сваім маёнтку пад Фларэнцыяй ці ад адчаю скачучы ў Сену. З казачнай Букавіны дзяцінства яны збеглі ў прыгоду XX стагоддзя, каб пасля вяртацца сюды толькі ў мроях і снах.

* **Штраймл** — галаўны ўбор хасідаў, паслядоўнікаў адной з артадаксальных плыняў іўдаізму. Звычайна гэта чорная аксамітная ярмолка, абабітая цёмным футрам собаля ці куніцы.

** **Цадзік** — духоўны правадыр хасідскай абшчыны.

## Букавіна

Назву гэтаму рэгіёну далі букавыя лясы, якія ўкрываюць гэтую частку Карпат. Параўнайце беларускія і ўкраінскія дыялектныя словы: бярэзіна = бярозавы гай, пералесак; альшына = алешнік; дубіна = дуброва; грабіна = грабавы лес.

Назва рэгіёна — славянская, хоць заселены ён аддаўна як украінцамі, так і румынамі. Малдаўскія «гаспадары» — такі быў тытул кіраўнікоў гэтай краіны — у справаводстве доўгі час карысталіся славянскай мовай.

## Сталіца

Ад вакзала, які знаходзіцца ў даліне, дарога да цэнтра амаль бесперапынна падымаецца ўверх, разыходзіцца і злучаецца вулкамі, пакідаючы ў лукавінах вострыя рагі старых камяніц. Так яна дабіраецца да цэнтральнай плошчы з блакітнай ратушай, якую ўпрыгожвае вежа з гадзіннікам і надпіс «Чернівецька міська рада». Гарадскія ўлады месцяцца тут ад самага моманту яе пабудовы ў 1843–1847 гадах.

Чарнаўцы, хоць і вядомыя з 1408 года, да канца XVIII стагоддзя прыйшлі правінцыйным гарадком з менш як дзвюма тысячамі жыхароў, які мог цьмяна прыгадваць кароткі перыяд свайго росквіту ў канцы XV – пачатку XVI стагоддзяў. Пасля гэтыя землі адышлі туркам, якія ваявалі то з палякамі, то з казакамі, то з расіянамі, а ў выніку ў 1775 годзе саступілі іх аўстрыйцам. Апошнія, не маючы лепшых варыянтаў, абралі горад адміністрацыйным цэнтрам краю, фактычна збудаваўшы яго наноў. Была распланавана новая сетка вуліц, створаныя плошчы, пачалі будавацца храмы, адміністрацыйныя будынкі, крамы, заезныя дамы, а на пагорках над горадам прадстаўнікі кожнай канфесіі атрымалі новыя могілкі.

Пачалася імклівая германізацыя — з Аўстрыі, Багеміі ды іншых частак імперыі прыязджалі чыноўнікі з сем'ямі, вайскоўцы, настаўнікі. Яны надоўга вызначылі моўны профіль горада. У адрозненне ад Львова, дзе ад XVI да XX стагоддзя дамінавала пальшчызна, тут у XIX стагоддзі асноўнай мовай зносін стала нямецкая. Але гэта мала закранула букавінскую правінцыю, якая працягвала пераважна размаўляць па-ўкраінску і па-румынску.

Шматкультурны профіль рэгіёна пакінуў свой адбітак у архітэктуры сталіцы. На Тэатральнай плошчы стаіць прыгожая пяціпавярховая камяніца з чатырма атлантамі і надпісам на фасадзе *«JÜDISCHES HAUS* — לארשי תיב». Гэта быў яўрэйскі народны дом, у якім цяпер дзейнічае невялікі музей гісторыі яўрэяў. Тады ж, у пачатку XX стагоддзя, на цяперашняй пешаходнай вуліцы пабудавалі Нямецкі народны дом. Побач з ім дзейнічае Румынскі культурны цэнтр, які цяпер пераязджае ў камяніцу ля самай ратушы.

Не менш цікавы прыклад румынскай прысутнасці ў горадзе, які амаль чвэрць XX стагоддзя прабыў у складзе Румыніі, — Мікалаеўскі сабор, асвечаны ў 1940 годзе. Яго бочныя купалы нібы выкручаныя па спіралі — гэта адметная рыса так званага «неарумынскага стылю». Яшчэ ў Чарнаўцах была ўплывовая армянская дыяспара, пра якую ▶




**Выкручаныя па спіралі купалы праваслаўнага сабора ў Чарнаўцах** — адметныя рысы так званага «неарумынскага стылю».

▸ нагадвае вялікая Петрапаўлаўская царква.

## Вольга, Паўль, Грэгар ды іншыя

Згаданая вышэй пешаходная вуліца носіць імя Вольгі Кабылянскай, класіка ўкраінскай літаратуры, якая нарадзілася і раннія гады пражыла ў Паўднёвай Букавіне, а большую частку жыцця аж да смерці ў 1942 годзе — у Чарнаўцах. Яна была мадэрністкай, феміністкай, адной з лідарак украінскага руху ў рэгіёне. Яе ўкраінскасць была свядомым выбарам: яна хадзіла ў школу з нямецкай і румынскай мовамі навучання, раннія творы пісала па-нямецку, але, уключыўшыся ў справу нацыянальнага адраджэння, ніколі яе не пакідала, хоць большую частку жыцця ёй давялося пражыць ва ўмовах, дзе ўкраінская культура зазнавала ціск і знаходзілася на паўлегальным становішчы.

**Чарнавіцкая вобласць** самая маленькая вобласць Украіны па плошчы. Яна складае ўсяго 8 096 км², гэта менш, чым тэрыторыя трох раёнаў на ўсходзе нашай Брэсцкай вобласці: Столінскага, Пінскага і Лунінецкага.

Але, нягледзячы на такі малы памер, гэтая вобласць разнародная, у тым ліку і з гледзішча гістарычнага лёсу. Да Першай сусветнай вайны яе сучасная тэрыторыя была падзеленая паміж трыма дзяржавамі: Аўстра-Венгерскай і Расійскай імперыямі і Каралеўствам Румынія. Большая частка была аўстрыйскай, але недзе траціна тэрыторыі на ўсходзе (прыблізна тэрыторыя цяперашняга Днястроўскага і ўсходняй часткі Чарнавіцкага раёнаў) з 1812 года ўваходзіла ў Бесарабскую губерню Расіі (поўнач Хоцінскага павета).

У 1918 годзе Бесарабія ўвайшла ў склад Румыніі і была ў ёй да 1940 года, пакуль гэтыя землі, рэалізуючы дамоўленасці з нацысцкай Германіяй, замацаваныя ў сакрэтных пратаколах да пакта Молатава — Рыбентропа ад 23 жніўня 1939 года, не забраў сабе сталінскі СССР. Яны засталіся ў яго складзе і пасля Другой сусветнай вайны.

Большая частка былой Бесарабіі тады ўвайшла ў склад адмыслова створанай Малдаўскай ССР, але паўночную частку, дзе большасць насельніцтва складалі ўкраінцы, далучылі да Украіны, аб'яднаўшы з колішняй падаўстрыйскай Паўночнай Букавінай у Чарнавіцкую вобласць. А каб спраміць мяжу, прыхапілі яшчэ і невялікі кавалак тэрыторыі з горадам Герца, што ўваходзіла ў Румынію ажно з 1861 года і збольшага румынамі была і населеная (іх там і сёння больш за 90%).

Акурат з гэтымі колішнімі падзеламі непасрэдна звязаны той на першы погляд цяжкавытлумачальны факт, што адзін і той жа народ, які кампактна жыве ў некаторых паўднёвых раёнах Чарнавіцкай вобласці і размаўляе на адной і той жа мове, яшчэ з савецкіх часоў мае розную ідэнтыфікацыю. На тэрыторыі былой Бесарабіі гэта малдаване, а на Букавіне




**Што цікава, частка румынскамоўнага насельніцтва вобласці лічыць сябе румынамі** (зона іх рассялення пазначаная сінім), а частка — малдаванамі (зялёным). Розная нацыянальная свядомасць сфарміравалася нягледзячы на тое, што яны гавораць на адной мове. Малдаўская — у раёнах, якія ў XIX стагоддзі ўваходзілі ў Расійскую імперыю. А румынская — у раёнах, якія належалі да Румынскага каралеўства (Герца) і Аўстра-Венгерскай імперыі. Сафія Ратару вырасла ў «малдаўскай» зоне.

і ў ваколіцах Герцы — румыны. Гэты падзел добра заўважны на любой этнічнай карце гэтага рэгіёна. Людзей з румынскай ідэнтыфікацыяй больш: па выніках апошняга ўсеўкраінскага перапісу (праўда, яшчэ 2001 года) — 114,6 тыс. чалавек (12,5% насельніцтва вобласці), малдаван — 67,2 тыс. чалавек (7,3 %).

Чарнавіцкая вобласць — радзіма двух вядомых украінскіх эстрадных выканаўцаў румынскага/малдаўскага паходжання: Сафіі Ратару і Іва Бобула. Малдаванка Ратару нарадзілася ў сяле Маршынцы Наваселіцкага (пасля праведзенай у 2020 годзе адміністрацыйнай рэформы Чарнавіцкага) раёна — гэта тэрыторыя колішняй Бесарабіі. Радзіма румына Бобула — сяло Тэрэблэчэ колішняга Глыбоцкага (цяпер таксама Чарнавіцкага) раёна, гэта ўжо Букавіна. Хоць адлегласць паміж гэтымі сёламі ўсяго каля 40 кіламетраў. У рэпертуары абаіх спевакоў хапае песень на роднай мове, а ў выкананні Ратару малдаўскія песні некалі грымелі на ўвесь Савецкі Саюз.

Цяпер Кабылянская — гэта культавая постаць для ўкраінскіх барацьбітоў за правы жанчын.

Ад вуліцы Кабылянскай толькі пяць хвілін хады да дома, дзе нарадзіўся Паўль Цэлян. Самы вядомы нямецкі паэт другой паловы XX стагоддзя, акрамя роднай для яго нямецкай (ён вырас у сям'і германізаваных яўрэяў), добра ведаў румынскую, украінскую, рускую, французскую мовы, а таксама іўрыт. У Чарнаўцах ён хадзіў у школу, вучыўся ва ўніверсітэце, сюды ж вярнуўся пасля пачатку Другой сусветнай вайны, дзе прыняў савецкае грамадзянства.

Ад вайны атрымалася збегчы ненадоўга. У 1941 годзе горад занялі румынскія і нямецкія

**Песня «Меланхолія»** (*Melancolie*) у выкананні Сафіі Ратару — усесаюзны шлягер 1980-х.



войскі. Мэр Траян Паповіч зрабіў усё, каб выратаваць мясцовае яўрэйскае насельніцтва. Ён дабіўся ад Іона Антанэску, дыктатара Румыніі, дазволу стварыць спіс з 20 тысяч яўрэяў, якія пры ніякіх умовах не будуць дэпартаваныя, бо маюць вялікае значэнне для гарадскога жыцця. Але сям'я Цэляна ў гэты спіс не патрапіла. Былі дэпартаваныя яго сястра, бацькі, а пасля і ён сам. Выжыў толькі Паўль. Пасля вызвалення ён вяртаецца ў родны горад, дзе складае свае першыя зборнікі і піша ранні варыянт свайго самага вядомага верша «Фуга смерці». У 1945 годзе ён з'язджае ў Бухарэст, а ў 1947 годзе ўцякае з краіны, каб асесці ў Парыжы, дзе ў 1970 годзе абарвецца ягонае жыццё.

Згаданы раён — цяпер самае сэрца турыстычных Чарнаўцоў, хоць турыстаў тут, у параўнанні са Львовам, мала. Для падарожніка гэта сапраўдная знаходка: прыехаўшы сюды, усё яшчэ можна пабачыць

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА



Чарнаўцы, **дом Цэляна.**

жыццё цэнтральнаеўрапейскага горада, арыентаванае на ўнутраныя зместы і патрэбы, а не ператоранае ў канвеер па абслугоўванні турыстаў. Калі не спакусіцца адной з незлічоных кавярняў і дайсці да канца пешаходнай вуліцы і яшчэ хвілін на дзесяць працягнуць прагулку ў тым жа кірунку, то можна апынуцца ў квартале вілаў, пабудаваных у пачатку XX стагоддзя найзаможнейшымі сем'ямі горада.

**У Чарнаўцах можна пабачыць жыццё цэнтральна-еўрапейскага горада, арыентаванае на ўнутраныя зместы і патрэбы, а не ператоранае ў канвеер па абслугоўванні турыстаў**

Адна з іх належала сям'і фон Рэцоры. Гуга фон Рэцоры быў архітэктарам і мастаком, які шмат маляваў букавінскія ваколіцы, ягоныя працы і цяпер можна ўбачыць у мясцовым краязнаўчым музеі. Гуга ніколі не атрымаў вядомасці, шырэйшай за рэгіянальную, у адрозненне ад яго сына Грэгара, які стаў вядомым пісьменнікам і сцэнарыстам галівудскіх фільмаў. Дзеянне многіх яго раманаў адбываецца ў Чарнаўцах, дзе аўтар правёў маладосць. Апублікаваныя па-нямецку, ▸



WIKIMEDIA COMMONS

**Чарнавецкі ўніверсітэт,** пабудаваны ў 1864–1882 гадах чэшскім архітэктарам Ёзэфам Глаўкам, называюць «букавінскім Хогвартсам», па аналогіі са школай з цыкла пра Гары Потэра.

сёння яны выдаюцца ў англійскім перакладзе ў адной з самых вядомых амерыканскіх кніжных серый *NYRB Classics*.

Можа быць, такая канцэнтрацыя вядомых літаратурных імёнаў прадвызначыла культурны лёс Чарнаўцоў, якія сёння сталі адным з найважнейшых выдавецкіх цэнтраў Украіны. Спачатку тут узнікла «Видавництво 21», якое спецыялізавалася пераважна на перакладной літаратуры аўтараў з Чарнаўцоў: Цэляна, фон Рэцоры ды іншых, але зараз вырасла і проста выдае шмат добрых перакладных кніг нямецкіх і балканскіх аўтараў. Аднак сапраўдным штуршком для развіцця кніжнай справы стала арганізацыя міжнароднага паэтычнага фестывалю *Meredian Czernowitz*. Пад той жа назвай з'явілася выдавецтва і літаб'яднанне (ці, дакладней, «міжнародная літаратурная карпарацыя»). Яно злучае і выдае новыя кнігі самых вядомых сучасных украінскіх пісьменнікаў: Юрыя Андруховіча, Сяргея Жадана, Аксаны Забужка ды іншых.

### Букавінскі Хогвартс

Асноўная пляцоўка для *Meredian Czernowitz*, як і іншых прадстаўнічых мерапрыемстваў, — гэта галоўны прадмет гонару горада, адно з «сямі цудаў Украіны» і №1330 у спісе Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, Рэзідэнцыя мітрапалітаў Букавіны і Далмацыі. Гэты велізарны комплекс сёння займаюць рэктарат і некалькі факультэтаў Чарнавецкага ўніверсітэта, ад чаго яго жартам любяць называць Хогвартсам. Рэзідэнцыя была пабудавана ў 1864–1882 гадах чэшскім архітэктарам Ёзэфам Глаўкам, які паралельна займаўся ўзвядзеннем Венскай оперы, а для Чарнаўцоў пабудаваў таксама Армянскую царкву.

У Рэзідэнцыі мітрапалітаў найперш адчуваецца эканамічная магутнасць і маштаб імперыі Габсбургаў, дзе такія праекты былі магчымыя нават на ўскраінах, якой была Букавіна. Тут можна некалькі гадзін хадзіць па калідорах, аркадах, лесвіцах — прынамсі, калі атрымаецца збегчы ад экскурсавода, без якога ў асноўны корпус не трапіць. Машына часу, якая працавала з перабоямі, як толькі мы падняліся ад вакзала ў горад, цяпер зноў працуе надзейна —



Чарнаўцы.
**Яўрэйскія могілкі**

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА


З АРХІВА АЎТАРА

Аўтар **у Карпатах.**

мы ў дасканалым XIX стагоддзі з яго гістарызмам, верай у прагрэс, бародамі і бакенбардамі.

## Genius Loci

Акрамя архітэктурных пярлін і ўзгадак знакамітасцяў, ёсць тое, пра што звычайна не пішуць «пуціўнікі» — гэта дух, атмасфера горада, якую магчыма адчуць, толькі прыехаўшы ў яго. Схапіць яе ў словах няпроста, але можна паспрабаваць. Напрыклад, так: Чарнаўцы — гэта горад на паўдарозе паміж Львовам і Адэсай. Ад першага тут — прыгожыя камяніцы часоў імператара Франца Іосіфа, сэцэсія, культура кавярняў, Сярэдняя Еўропа з яе гісторыямі і міфамі, літаратарамі і мастакамі. Ад другога — атмасфера гандлёвага памежнага горада, шумныя вуліцы, ужо вельмі паўднёвае сонца і пазнавальны пыл на жнівеньскім лісці дрэваў.

Дасканалы від на Чарнаўцы адкрываецца на вялікіх яўрэйскіх могілках, якія занялі адзін з суседніх пагоркаў. Тысячы мацэваў з ільвамі, каронамі і птушкамі расступаюцца перад вузкай сцяжынкай, якая вядзе ўверх на невялікі пляцык, з якога як на далоні відаць Рэзідэнцыю мітрапалітаў, ратушу, купалы цэркваў, гатычны шпіль касцёла Сэрца Ісуса, далёкія і дальнія прадмесці. Горад адсюль становіцца нераздзельным ад самога жыцця, на якое можна паглядзець на адлегласці, нібы з фінальнага пункта.

## Памежны край

Суседства з Румыніяй і Малдовай — гэта крыніца прыбытку, але таксама і праблем. З пачаткам цяперашняй пандэміі Чарнавецкая вобласць аказалася ў лідарах сярод іншых украінскіх рэгіёнаў па колькасці захварэлых на душу насельніцтва. Такая сітуацыя паўтарылася і ў другую хвалю. Памежны статус правакуе захаванне і такой паўсюднай для краіны праблемы, як карупцыя. Памежныя пераходы з суседзямі з'яўляюцца крыніцай незлічонай кантрабанды ў гэтай частцы Еўропы з традыцыйна вельмі моцна развітай ценявой эканомікай.

Памежным рэгіёнам Букавіна была стагоддзямі, вось толькі мяжа раней праходзіла на поўнач, а не на поўдзень ад Чарнаўцоў і мела рухомы характар. Самы вядомы архітэктурны помнік і напамін пра яе ў рэгіёне — Хоцінская фартэцыя. Пабудавана ▶


WIKIMEDIA COMMONS

1940 год. **Чырвоная армія ўваходзіць у Чарнаўцы.**




На белым кані — гетман Ян Караль Хадкевіч. **Карціна Юлія Бранта «Бітва пад Хоцінам».**

яна была яшчэ ў XIII–XIV стагоддзях і ад таго часу часта мяняла гаспадароў. Пік гэтых перамен прыйшоўся на XVII–XVIII стагоддзі, калі ёю валодалі то палякі, то туркі, то аўстрыйцы, а па выніку ў 1812 годзе яна апынулася ў руках Расіі. Фартэцыя страціла сваё значэнне ўжо ў XIX стагоддзі, і сёння, гледзячы на яе дзіўнае размяшчэнне ў нізіне, на спакойны краявід і шырокую плынь Днястра пад скалістымі абрывістымі берагамі, цяжка паверыць, што ўсё гэта адбылося з ёю насамрэч, што перад намі не проста прыгожая дэкарацыя на тэму Сярэднявечча.

Апошняе ўражанне часткова праўдзівае: Хоцін любілі выкарыстоўваць як здымачную пляцоўку савецкія кінематаграфісты. Звычайна ў першую чаргу са знятых тут фільмаў прыгадваюць сцэны з «Трох мушкецёраў», але тут жа, напрыклад, у 1971 годзе Валерый Рубінчык здымаў «Магілу льва» паводле паэмы Янкі Купалы. Сярод іншых акцёраў у фільме можна пабачыць Марыса Ліепу і Стэфанію Станюта.

Уражанні ад Букавіны залежаць ад таго, які фармат падарожжа вы абераце. Большасць падарожнікаў прыбывае ў Хоцін турыстычнымі аўтобусамі і не затрымліваецца тут больш за дзве гадзіны, абмяжоўваючы сваё знаёмства з гарадком выключна наведваннем фартэцыі. Калі ж застацца тут на ноч, то можна ўбачыць зусім іншы горад з сонным ладам жыцця, таннымі прыдарожнымі кавярнямі, лабірынтамі вулак, савецкай архітэктурнай спадчынай у стане паўраспаду, цыганамі і аднымі з самых маляўнічых яўрэйскіх могілак у рэгіёне. Тут багата дэкараваныя мацэвы, абавязковыя козы і растуць яблыні — як на ідылічных карцінках яўрэйскага штэтла.




**Хоцінская фартэцыя** была паўднёвым фарпостам Рэчы Паспалітай.

### Хоцінская крэпасць

была збудаваная малдаўскімі князямі ў XIV стагоддзі. Свой цяперашні выгляд яна збольшага набыла падчас кіравання гаспадара Штэфана Вялікага (па-румынску: Штэфан чэл Мар). Хоцін быў адным з шасці вялікіх замкаў сярэднявечнай Малдовы.

Польскія войскі ўпершыню ўзялі яго ў 1538 годзе, падарваўшы паўднёвую сцяну. У XVI–XVIII стагоддзях крэпасць увесь час была арэнай бітваў і асадаў, пераходзіла ад Рэчы Паспалітай да Асманскай імперыі і назад.

У гэтым найпрыгажэйшым і добра захаваным замку здымалі культавы савецкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры» з Міхаілам Баярскім у галоўнай ролі.



## Бешт, Доўбуш, ці Пра карысць прагулак у гарах

Такія частыя ўзгадкі яўрэйскай спадчыны тут не выпадковыя. Яе не толькі шмат у рэгіёне, яна яшчэ і параўнальна добра захавалася з-за таго, што Букавіна ў час Другой сусветнай вайны знаходзілася ў румынскай зоне акупацыі, дзе сінагогі і кіркуты не знішчалі так сістэматычна, як на тэрыторыі, падкантрольнай немцам.

За некалькі кіламетраў на поўнач ад Хоціна, на самай мяжы з Букавінай, знаходзіцца мястэчка Акопы. Некалі яно мела назву Акопы Святой Тройцы — тут у 1692 годзе была заснаваная фартэцыя Рэчы Паспалітай, ад якой і зараз засталіся дзве брамы і бастыённая сістэма, якая дала назву ўсяму месцу. Праз шэсць год ад заснавання, у 1698-м, тут нарадзіўся Баал-Шэм-Тоў, вядомы як Бешт — адзін з самых вядомых рэфарматараў іўдаізму, чалавек, які заснаваў хасідызм. Тут пачаўся яго зямны шлях, тут ён стаў рабіць першыя цуды: напрыклад, забіў дубінаю ваўкалака, што перашкаджаў яму ды іншым дзецям хадзіць у хедар — яўрэйскую рэлігійную школу. І такое бывала, калі нас не было!

**Баал-Шэм-Тоў, які заснаваў хасідызм, пачаў з таго, што дубінаю забіў ваўкалака, што перашкаджаў дзецям хадзіць у хедар**

Першыя трыццаць год свайго жыцця ён правёў пераязджаючы паміж рознымі галіцыйскімі мястэчкамі, а ў 1727-м, пасля разводу, ажаніўся другі раз. Жаніцьба, аднак, прывяляла да канфлікту з новымі сваякамі, у выніку чаго муж з жонкай вымушаныя былі паехаць у далёкае мястэчка Віжніца ў букавінскіх Карпатах. Тут ён пражыў у беднасці сем гадоў, зарабляючы на жыццё капаннем і продажам вапны. У вольны час сыходзіў у горны лес, дзе займаўся тым, што сёння назвалі б медытацыяй — маліўся і разважаў над тайнамі Торы.

Легенды (і яўрэйскія, і ўкраінскія) сцвярджаюць, што ў гарах ён сустрэўся з Доўбушам і яго бандай — мясцовым Робін Гудам, улюбёнцам карпацкіх паданняў. Гістарычны Доўбуш, вядомы з дакументаў, быў далёкі ад таго, каб раздаваць грошы бедным, а да таго ж не грэбаваў забойствамі яўрэйскіх купцоў. Тым не менш з Бештам яны паразумеліся. Будучы святы дапамог усёй бандзе схавацца ў пячоры ад пераследу, за што Доўбуш падарыў яму люльку, з якою той не развітваўся да канца дзён.

Акрамя гэтай сумнеўнай гісторыі, народная памяць захоўвае тое месца ў Віжніцы, дзе Баал-Шэм-Тоў прымаў рытуальныя абмыванні. Яшчэ пры жыцці ён быў вядомы сваімі здольнасцямі лекаваць і ствараць талісманы. Можа быць, таму вера ў гаючыя здольнасці той затокі ў рацэ перасягнула канфесійныя межы і дажыла да нашых дзён. Лічыцца, што купанне ў гэтай вадзе дапамагае бяздзетным зацяжарыць, і тыя прыязджаюць сюды зблізку і здалёк.

## Смакаваць Карпаты

Варта прыехаць у Віжніцу, а лепей — у адно з горных ▶



WIKIMEDIA COMMONS

Нават у штодзённасці хасіды апранаюцца **вельмі традыцыйна.**

### Хасіды

ад яўрэйскага «дабрачэсныя, добрыя», кірунак у іўдаізме. Яго прыхільнікі надаюць шмат значэння эмацыйнаму спасціжэнню веры. Яны шмат спяваюць і танцуюць, у тым ліку падчас багаслужбы. Яны таксама лічаць, што Бог прысутнічае ўсюды. Сярод хасідскіх плыняў — любавіцкія (пайшлі з Любавіч недалёка ад нашага Лёзна, цяпер на тэрыторыі Расіі), караліна́скія (з Караліна пад Пінскам), віжніцкія (з Віжніцы ў Букавіне) ды іншыя.




Драўляная царква **ў Віжніцы.**

мясцовых кавярняў, у якіх танна можна пачаставацца мясцовай кухняй. Найперш гэта чанахі — тушанае мяса з гароднінай, часам у выглядзе супу, часам — рагу. У вялікім свеце прынята лічыць, што чанахі — гэта страва грузінскай кухні, але тут усе лічаць яе сваёй, карпацкай. Яшчэ больш вядомая страва — банаш. Гэта кукурузная каша, якая падаецца са скваркамі, брынзай і грыбной ці кілбаснай падлівай. Ежа гэта вельмі сытная і звычайна смачная, для прыгатавання тут выкарыстоўваюць мясцовыя прадукты: мяса, брынзу, гародніну. Не з любові да аўтэнтыкі ці жадання пацешыць турыста, а таму што так працей і танней.

▸ карпацкіх сёлаў, каб зразумець, чаму Бешт правёў тут аж цэлых сем год. Пагоркі, якія атачаюць Чарнаўцы, тут ператвараюцца ў складкі горных хрыбтоў з безліччу ручаёў, каскадаў і невялікіх вадаспадаў. Гэтая частка Карпат менш вядомая турыстам, дзякуючы чаму цэны тут невысокія нават зімою, кавярні танныя, а культурны ландшафт амаль не скажоны патрэбамі разбудовы турыстычнай інфраструктуры.

## Чанахі ў калыбах

Краявіды навокал ідылічна-пастаральныя: у гарах часта чуваць меладычныя сімфоніі каровіных ці авечых званочкаў, якія пасвяцца на зарослых кветкамі і травамі лугах. Тут жа можна пабачыць і традыцыйныя калыбы — буданы, куды пастухі сыходзілі жыць на лета, каб пасвіць статак. Сёння такі доўгі сыход ужо не практыкуецца, але калыбы працягваюць выкарыстоўвацца пастухамі для жылля і начлегу. Да таго «Калыба» — гэта самая папулярная назва для

## Нескажоны краявід

Букавіна, што ў нізіннай сваёй частцы, што ў горнай — гэта той рэгіён Еўропы, які варта паспець наведаць не адкладаючы да святога ніколі. Тут ужо ёсць усё, каб турыст адчуваў сябе камфортна, але ў той жа час лад жыцця і ландшафт яшчэ не скажоныя турыстычнаю сферай, як у Львове, Ярэмчы ці Букавелі. Такія змены не ў лепшы бок часам адбываюцца вельмі імкліва. Сюды не трэба віза, няма і спецыяльных пандэмічных абмежаванняў, а машына часу, як і раней, працуе справна. ◆

**Гэтая частка Карпат менш вядомая турыстам, дзякуючы чаму цэны тут невысокія нават зімою, кавярні танныя**

### Чанахі

Гэта суп, які гатуюць у гаршчэчках з бараніны, курыцы ці свініны з гароднінай.
Мяса кубікамі, бульбу, моркву, баклажаны, памідоры (набор гародніны залежыць ад сезона) кладуць у гаршчэчкі, заліваюць кіпнем і гадзіну пражаць у духоўцы ці аэрагрылі. Пад канец дадаюць часнок, кінзу, іншыя прыправы на смак.



**Даліны, горныя рэкі і меладычныя сімфоніі званочкаў.** То каровы і авечкі пасвяцца на зарослых кветкамі і травамі лугах.

WIKIMEDIA COMMONS

**Выйшаў № 2 часопіса «ARCHE» за 2021 год**




На яго старонках — навукова-папулярныя артыкулы са шматлікімі ілюстрацыямі.

У нумары:
– артыкулы Юрыя Тамковіча пра школы пры БДУ ў 1920–1930-я гады і пра малодшага брата Івана і Антона Луцкевічаў;
– матэрыялы Аляксандра Кур'яновіча пра падзабытыя старонкі гісторыі Беларусі 1990-х;
– нарыс Дзмітрыя Валасовіча пра тое, як былога кіраўніка БССР Панцеляймона Панамарэнку ў пачатку 1960-х выслалі з Нідэрландаў, дзе ён быў паслом;
– публікацыя Кірыла Карлюка пра харугву з гербам Вялікага Княства Літоўскага на каранацыі караля Аўгуста III у Кракаве ў 1763 годзе;
– матэрыял Змітра Дразда аб прытонах у Мінску ў сталінскія часы;
– артыкул Уладзіміра Ляхоўскага пра футбол пад нацыянальным сцягам;
– матэрыял Васіля Герасімчыка пра пячаткі паўстанцаў 1863–1864 гадоў;
– публікацыя Ягора Сурскага пра тое, што пілі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVII стагоддзі (на прыкладзе пітнога мёду);
– рэфлексіі даследчыцы з Лондана Паўлы Бароўскай пра сітуацыю хрысціянскіх цэркваў у Беларусі;
– развагі Алеся Мікуса пра тое, адкуль узялася назва Бешанковічы;
– рэцэнзія Антона Рудака на кнігу Сяргея Абламейкі «Невядомы Менск. Гісторыя знікнення»;
– агляд Сяргеем Грунтовым цікавых кніг *non-fiction*, якія выйшлі ў Беларусі, Расіі і Польшчы ў 1-й палове 2021 года.

Часопіс можна набыць у мінскіх кнігарнях **«Галіяфы»** (вул. Няміга, 3, крама 47) і **«Кніжная шафа»** (пр. Дзяржынскага, 9), этнакраме **«Рагна»** (вул. Сухая, 4), краме 41–42 у гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай), інтэрнэт-кнігарнях **knihi.by**, **kniganosha.by, mmkut.by**, у гарадзенскай **«Цудоўні»** (вул. Кірава, 3).

На сайце **arche.by** даступная не толькі папяровая, але і электронная версія часопіса.

# «Літоўская Ламбардыя, урадлівая і шматлюдная...»

## Колькі слоў пра слуцкі рэгіяналізм

**Пра мінуўшчыну, сучаснасць і рэгіянальную адметнасць гістарычнай Случчыны разважае доктар гісторыі Алесь Белы.**

Задума гэтага невялікага артыкула нарадзілася падчас працы над нарысам пра гісторыю сыраварства на гістарычнай Случчыне, які я нядаўна скончыў і які чакае публікацыі — спадзяюся, у лістападзе 2021 года. Дагэтуль мне не даводзілася займацца гісторыяй гэтага рэгіёна, ды і бываў я тут заўжды толькі вельмі коратка, праездам. Аднак яшчэ ў дзяцінстве запалі ў душу радкі з Коласавай «Новай зямлі»:

Прад імі Случчына ляжала,
Старонка міла і багата.
Народ, відаць, жыў панавата,
Прынамсі, добра і заможна,
Па ўсім аб гэтым судзіць можна:
Па ветраках, такіх удумных,
І па абэржах гэтых, гумнах,
Па старасвецкіх азяродах,
Па гарбузах на агародах,
Па тытуні і па садочках,
Дзе хаты ніклі, бы ў вяночках.
А тыя ліпы ці таполі!
Такіх не бачылі ніколі:
Развіслы, тоўсты, сакавіты,
Гамоняць з небам — паглядзі ты!
За многа вёрст здалёк відаць.
— Ну, дрэвы! нечага сказаць;
Зямля, брат, сілы многа мае –
Такія вежы выганяе!
А роўнядзь, роўнядзь! як далоні! –
Міхал зазначыць ці Антоні:
— Эх, брат, зямля: ўміраць не трэба,
Не пашкадуе табе хлеба.




**Хата з вёскі Ісерна Слуцкага раёна** ў экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах пад Мінскам.

Гістарычная Случчына — паняцце значна шырэйшае, чым сучасны Слуцкі раён. Бо старажытны Слуцк здаўна быў натуральным цэнтрам для куды большай тэрыторыі: спачатку Слуцкага княства, якое ўзнікла яшчэ ў сярэдзіне XII стагоддзя ў складзе Турава-Пінскай зямлі, а затым увайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага і праіснавала да 1791 года. Потым — Слуцкага павета Мінскай губерні ў складзе Расійскай імперыі (1893–1924), і нарэшце — Слуцкай акругі БССР (1924–1938).

Гэтую тэрыторыю аб'ядноўвалі ў адно цэлае многія супольныя

## Кансэнсус сярод знаўцаў

Ёсць пэўныя рознагалоссі адносна таго, дзе менавіта праходзяць межы гістарычнай Случчыны, на што лепш арыентавацца: межы колішняга расійскага павета, савецкай акругі ці гістарычнага княства. Аднак яны, па вялікім рахунку, другасныя і непрынцыповыя. Ва ўсякім разе, усе сыходзяцца на тым, што несумненнае ядро гэтай тэрыторыі — паўднёвыя раёны сучаснай Мінскай вобласці: перадусім Слуцкі, Капыльскі, Клецкі, Нясвіжскі, Старадарожскі, Салігорскі і Любанскі раёны. Менавіта гэтая тэрыторыя ўмоўна разумеецца пад Случчынай і ў гэтым артыкуле.

Галоўнае — гісторыкі, краязнаўцы, музейныя работнікі гістарычнай Случчыны выдатна ўсведамляюць сімвалічную еднасць рэгіёна і неабходнасць яго вывучэння ды сімвалічнай рэпрэзентацыі менавіта ў шырокіх межах. Вось што кажуць некаторыя з іх, што важна, якія самі не са Слуцка (цытуецца па публікацыях на сайтах *kurjer.info* і *nasledie-sluck.by*).

**Валянціна Шуракова**, дырэктар Капыльскага краязнаўчага музея:

«Жыццё Слуцка і Капыля цесна пераплеценыя паміж сабой са старажытных часоў, і сёння справядліва казаць пра нашу супольную слаўную гісторыю. Напрыклад, першай рэзідэнцыяй князёў Алелькавічаў быў менавіта Капыль, а ў іх тытуле значылася: князі Слуцкія і Капыльскія.

Я перакананая, што сусветна вядомая традыцыя мясцовага ткацтва пайшла з Цімкавічаў і Семежава, але носіць яна назву “слуцкая”, бо Слуцк, у адрозненне ад гэтых мястэчак, своеасаблівы гістарычны брэнд. Многія вядомыя дзеячы культуры і навукі нарадзіліся на капыльскай зямлі, а вучыліся ў знакамітай Слуцкай гімназіі.

Гэта справядліва, што пра іх жыццядзейнасць распавядаюць экспазіцыі краязнаўчых музеяў і ў Капылі, і ў Слуцку. Два нашы гарады ў гісторыі непарыўныя, як Зямля і Месяц».

**Наталля Тупека**, старшы навуковы супрацоўнік Салігорскага краязнаўчага музея:

«Безумоўна, на аблічча сённяшняй Салігоршчыны багатая гісторыя Случчыны аказала сур’ёзны ўплыў. Яе адбітак на працягу стагоддзяў не выклікае сумневу. Мноства сучасных дасягненняў і культурны здабытак Салігорска можна разглядаць як працяг слуцкай культурнай традыцыі».

Гэтаксама шырока разумее гістарычную Случчыну і краязнаўчы сайт «Спадчына Слуцкага краю».



рысы: прыродна-кліматычныя, эканамічныя, культурныя.

## Заможны край

Сярод большасці іншых рэгіёнаў Беларусі (і Літвы) Случчыну вылучалі перадусім урадлівасць мясцовых глеб і спрыяльны для сельскай гаспадаркі клімат. Праз гэта большая частка тутэйшай зямлі здаўна была разараная і спрэс засявалася. Знакаміты езуіцкі прапаведнік Пятро Скарга, рэктар Віленскага ўніверсітэта, у 1582 годзе ў лісце да правінцыяла ордэна езуітаў Яна Паўла Кампалы пісаў пра Навагрудскае ваяводства, у якое тады ўваходзіла і Слуцкая зямля: «Нясвіж знаходзіцца за 28 міль ад Вільні, ... размешчаны ў цэнтры Навагрудскай зямлі ў Беларусі, называнай “літоўскай Ламбардыяй”, урадлівай і шматлюднай...»

Але калі ў часы прыгону плёнам натуральнага багацця зямлі карысталіся пераважна магнаты і шляхта, то вызваленне сялян у выніку вялікай рэформы 1861 года дало прастор ініцыятыве тых, хто сам працаваў на зямлі. Многія незалежныя гаспадары пачалі хутка багацець — пры ўмове, што мелі гэтай зямлі дастаткова.

Як пісаў у рамане-эпапеі «Засценак Малінаўка» ўраджэнец вёскі Кулакі цяперашняга Салігорскага раёна Аркадзь Чарнышэвіч (1912–1967), «жылі малінаўцы нельга сказаць каб вельмі дрэнна. Хто меў паўвалокі зямлі, зусім за пана сябе лічыў. Не гаравалі і тыя, што мелі па чвэрці, хоць і тыя, і другія з лапцей не вылазілі. Затое гаравалі трацячнікі, што мелі па трацяку паўвалокі [прыкладна 3,5 га]. Хлеба ледзь да Каляд хапала, і то папалам з мякінай. На падаткі, на іншыя расходы трэба было шукаць капейку збоку, а яе не вельмі лёгка было знайсці».

Выраз Чарнышэвіча «зусім за пана сябе лічыў» супадае з патэтычным абяцаннем Хвядоса Хадыкі з «Новай зямлі» пакупнікам слуцкай зямлі, прататыпам якіх былі бацькі Якуба Коласа: «Панамі будзеце, панамі! Ядуць вас мухі з камарамі»...

## Гераічнае і трагічнае

І зусім невыпадкова, што менавіта на заможнай Случчыне ў 1920 годзе сяляне масава падтрымалі ідэю незалежнай Беларусі, нават са зброяй у руках, падняўшы знакамітае Слуцкае паўстанне. Бо тут як, бадай, нідзе больш яны сапраўды мелі што бараніць. Тым больш што ім і пашанцавала: у 1915 годзе нямецка-расійскі фронт сюды не дайшоў, стабілізаваўшыся на суседняй Наваградчыне. Мясцовыя сяляне дзякуючы гэтаму не мусілі выпраўляцца далёка ўглыб Расіі ў бежанства, а таму збольшага захавалі свае гаспадаркі.

Паўстанне, аднак, не ўдалося, і Случчына, за выключэннем ►

▶ заходніх тэрыторый з Нясвіжам і Клецкам, апынулася пад бальшавіцкай уладай. І ўжо праз дзесяцігоддзе, у гады прымусовай калектывізацыі, якая пачалася ў 1929 годзе, вялікая колькасць заможных гаспадарак зрабілася не перавагай, а бядой Случчыны. Найбольш руплівыя і прадпрымальныя гаспадары разам з сем'ямі масава паехалі ў вагонах для жывёлы ў Сібір, на Поўнач, у Казахстан. Заключным акордам гэтай вялікай трагедыі стала ссяленне апошніх, цудам ацалелых хутароў у калгасныя пасёлкі паводле пастановы пленума ЦК КП(б)Б у 1939 годзе.

Велізарная несправядлівасць і жорсткасць пакінулі ў сваякоў і блізкіх рэпрэсаваных прыкрасць і натуральнае жаданне адплаты. Адпаведна, і калабарацыя з нацыстамі, на жаль, у гады Другой сусветнай вайны знайшла на Случчыне нямала прыхільнікаў. Пасля вайны многія былыя случчакі, незалежна ад асабістай віны, апынуліся на Захадзе, каб пазбегнуць сталінскай кары — заслужанай ці не, мусіць быць асобная размова ў кожным канкрэтным выпадку. Сярод іх былі самыя розныя людзі: і найталенавіцейшы беларускі паэт на эміграцыі, ураджэнец Бязверхавічаў пад Слуцкам Рыгор Крушына (Казак), і былы высокі савецкі функцыянер родам са Старыцы цяперашняга Капыльскага раёна Сымон Кандыбовіч-Кабыш, аўтар напісанага пад псеўданімам



Будзімер грунтоўнага краязнаўчага нарыса «Случчына», і многія іншыя. У выніку нацысцкая акупацыя фактычна толькі давяршыла распачаты раней бальшавікамі разгром слуцкага сялянства.

### «Япрукі тут кормяцца пудоў па васямнаццаць»

Характэрна, што заможнасць тыповай слуцкай сялянскай гаспадаркі ў часы да калектывізацыі апявалі ў сваіх творах беларускія літаратары савецкай эпохі. Тыя, хто застаўся фармальна верным савецкай уладзе — але пры гэтым сам зазнаў горыч сталінскіх рэпрэсій. Так, бацьку згаданага вышэй Аркадзя Чарнышэвіча ў 1930 годзе раскулачылі і адправілі на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, а рэшту сям'і вывезлі ў Комі-Пярмяцкую акругу. Многіх случчакоў, дарэчы, ссылалі менавіта ў паўночныя рэгіёны Расіі: Комі, Вятку, Архангельскую вобласць. Відаць, там і цяпер жыве нямала іх асіміляваных нашчадкаў.

Дачка заснавальніка беларускай прафесійнай крытыкі і літаратуразнаўства Адама Бабарэкі (1899–1938) Алеся так успаміна̀ла перадсмяротныя просьбы паміраючага бацькі з Паўночлага пад Котласам: «Як і ў кіраўскай вязоўні пасля гадовага тэрміну на галоднай вязоўнай ежы, яму хочацца сялянскае хатняе кілбасы, беларускага хатняга белага сыру. Апошняе жаданне згасаючага». Бабарэка паходзіў з вёскі Слабада-Кучынка Капыльскага раёна.

Найбольш жа яскрава выразіў гэтыя настальгічныя настроі Кузьма Чорны (1900–1944) — выхадзец з сучаснай вёскі Борка-Бялевічы Капыльскага раёна, адзін з найбольш крытычна настроеных да савецкага ладу сярод вонкава лаяльных ёй творцаў. Арыштаваны ў кастрычніку 1938 года, ён 8 месяцаў прасядзеў у мінскай турме, з іх 6 — у камеры-адзіночцы. Праз катаванні ён страціў здароўе і пражыў пасля вызвалення ўсяго 5 гадоў, памёршы ў лістападзе 1944 года ў нядаўна вызваленым ад нацыстаў Мінску.

У няскончанай эпічнай аповесці «Скіп'ёўскі лес», пачатай незадоўга да смерці, Кузьма Чорны так апісваў колішні дабрабыт родных мясцінаў: «Усе дваццаць



WIKIMEDIA COMMONS

**Карта Слуцкага павета** ў часы Расійскай імперыі.

дзве хаты Скіп'ёўскага Пераброддзя паабрасталі вішняком і арабіннікам. За хатамі спеюць улетку антонаўкі, папяроўкі і слуцкія бэры, і да самых замаразкаў вісяць у голлі чырванабокія "цыганкі". Да самых маразоў пад вокнамі цвіце бабіна лета. З канца зімы і да лета пры кожнай хаце дыміцца вяндлярня, і па селішчы стаіць пах вэнджаных каўбас і шынак. Праз усё лета на вешалах пад застрэшшамі сушацца тварожныя сыры. Усюды крычаць гусі і крэкчуць качкі. Спяваюць, аж разлягаюцца пеўні, і па хлевухах стогнуць ад гультайскай асалоды ружовыя ягамосці з кірпатымі лычамі і закручанымі ў тонкі абаранак хвастамі. Япрукі тут кормяцца пудоў па васямнаццаць. Дык якое дзіва, што вяндлярны дым на добрыя тры месяцы на год перабівае пах смалы, што шырокай хваляй вечна плыве з густых хвояў Скіп'ёўскага лесу».

Падобная ідылія сустракаецца і ў апавяданні Чорнага «Франтаваты камендант»: «У раннюю весну, бывала, толькі снег сыдзе і зямля падсыхаць пачне, дык так ужо і ведай: з кожнага двара ці саду такім смачным духам цягне, што аж слінка цячэ. Гэта людзі вэндзілі сабе на лета шынкі, паляндвіцы і каўбасы. А сыры якія ў нас рабілі! Таго сыру, здаецца, і жаваць не трэба, сам ён у роце растае. Ды што сыры! Усё ў нас добрае было. Хаты якія стаялі, дамы якія! Якія кветкі перад вокнамі раслі! А якая капуста радзіла ў агародах! А якія сады ўзяліся на яблыкі і грушы! А колькі збожжа нажыналі!»

Так што, бадай, нідзе кантраст паміж тым, якую Беларусь чакалі выхадцы з сялянства сярэдняй заможнасці і якую атрымалі ў выніку «будаўніцтва сацыялізму», не быў у Беларусі такім вострым, як на Случчыне.




**Кузьма Чорны**, непераўзыдзены беларускі раманіст, памёр без пары пасля катаванняў у НКВД, пра што пакінуў вусцішныя запісы.

Прытым што менавіта ў гэтым рэгіёне, амаль суцэльна праваслаўным, амаль пазбаўленым праз асаблівасць гістарычнага лёсу ўплыву Контррэфармацыі і, адпаведна, істотнай праслойкі насельніцтва, арыентаванага на Польшчу, быў самы высокі ўзровень прыняцця Беларусі як гэткай, гатоўнасць жыць менавіта ў такой краіне, прынамсі, на побытавым узроўні. А згадкі пра амаль казачны дакалгасны дабрабыт Случчыны з вуснаў паміраючых Чорнага ці Бабарэкі гучалі міжвольным дакорам савецкаму ладу ў той форме, якую яны маглі сабе дазволіць — хоць у тых абставінах усё адно небяспечным.

## Патрэбен скансэн

І вось мне падаецца, што Случчыне як асобнаму гістарычнаму рэгіёну вельмі патрэбен свой уласны, хаця б невялічкі скансэн. Які перадаваў бы менавіта слуцкую своеасаблівасць, захоўваў рэгіянальную ідэнтычнасць. Безумоўна, перавезеныя са Случчыны пабудовы глядзяцца годна і ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах пад Мінскам. Але, па-першае, мала хто з наведвальнікаў пры аглядзе музея звяртае ўвагу на рэгіянальную атрыбуцыю гэтых помнікаў, якая там не надта і акцэнтуецца. Па-другое, сам пазначаны там ▸

## Пісьменнікі Случчыны

Гістарычная Случчына — радзіма не толькі згаданых у тэксце Адама Бабарэкі, Рыгора Крушыны, Аркадзя Чарнышэвіча і Кузьмы Чорнага, але і іншых вядомых беларускіх літаратараў. Вось толькі некаторыя з іх:

**Альгерд Абуховіч** (1840–1898), ураджэнец Бабруйшчыны, жыў у Слуцку з канца 1870-х;

**Алена Васілевіч,** аўтарка цыкла аповесцяў пра Ганьку (1922–2021), з вёскі Ліпнікі Слуцкага раёна;

**Васіль Вітка** (сапр. Цімох Крысько, 1911–1995), з вёскі Еўлічы Слуцкага раёна (гл. пра яго ўспаміны ягонай унучкі Юліі Чарняўскай у № 7/2021 «Нашай гісторыі»);

**Цішка Гартны** (сапр. Зміцер Жылуновіч, 1887–1937), з Капыля;

**Алесь Гурло** (1892–1938), з Капыля;

**Язэп Дыла** (1880–1973), са Слуцка;

**Міхась Кавыль** (сапр. Язэп Лешчанка, 1915—2017), з вёскі Покрашава Слуцкага раёна;

**Аляксей Кулакоўскі** (1913–1986), з вёскі Кулакі Салігорскага раёна;

**Максім Лужанін** (сапр. Аляксандр Каратай, 1909—2001), з вёскі Прусы Салігорскага раёна;

**Ян Скрыган** (1905–1992), з вёскі Труханавічы Капыльскага раёна;

**Фабіян Шантыр** (1887–1920), са Слуцка.



ETNA.BY

**Інтэр'ер хаты сям'і патомных «выбранцаў» Савановічаў** з вёскі Агароднікі Слуцкага раёна. Дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах.

▶ «гісторыка-этнаграфічны рэгіён Цэнтральная Беларусь» — гэта бюракратычная савецкая фікцыя, антыгістарычная па сваёй прыродзе. Бо ў ёй змяшаныя разам і Случчына, і ўсходняя Віленшчына, і паўднёва-ўсходні куток Наваградчыны, і іншыя адметныя рэгіёны, кожны з якіх заслугоўвае самастойных асэнсавання і рэпрэзентацыі.

Дарэчы, менавіта тыповая слуцкая сялянская сядзіба была першым комплексам аб'ектаў, рэстаўраваных у Строчыцах у 1984 годзе: хата з вёскі Ісерна Слуцкага раёна, хлеў з вёскі Солан Старадарожскага раёна, гумно з вёскі Лучнікі Слуцкага раёна. І гэта хутчэй не выпадковасць, а заканамернасць, вынік асаблівага месца Случчыны ў гісторыі менавіта беларускага сялянства, кароткага 70-гадовага перыяду ягонага адносна вольнага развіцця (1861–1929) і эканамічнага росквіту. Або вось яшчэ цікавая сядзіба са Случчыны — знакавая яшчэ і сваёй прыналежнасцю да «выбранцаў», асобнай катэгорыі насельніцтва, прамежкавай паміж шляхтай і сялянамі, уласцівай толькі слуцкаму рэгіёну.

У Беларусі такіх рэгіянальных скансэнаў вельмі мала, а тыя, што ёсць, як правіла, слаба вытрымліваюць аўтэнтыку. Некаторым выключэннем і адным з магчымых прататыпаў з'яўляецца музей рамёстваў у недалёкай ад Случчыны Глушы (Бабруйскі раён), славутай найбольш праз свайго вялікага земляка — пісьменніка Алеся Адамовіча, які тут і пахаваны.

### Экспазіцыя

Вядома, сітуацыя ў краіне сёння надзвычай неспрыяльная для рэалізацыі такіх праектаў, але вельмі хацелася хаця б абазначыць яго магчымыя контуры. У цэнтры экспазіцыі такога рэгіянальнага скансэну мусіў бы знаходзіцца комплекс пабудоў, падобны да аднаўленага ў Строчыцах. Але ў ідэале — максімальна «жывы»: з курамі, гусямі і «ружовымі ягамосцямі з кірпатымі лычамі і закручанымі ў тонкі абаранак хвастамі». З вішняком і арабіннікам, з антонаўкамі, папяроўкамі — і абавязкова са славутымі слуцкімі бэрамі. І з самімі дрэвамі, і з асобнай музейнай экспазіцыяй, прысвечанай гісторыі гэтага славутага сорту груш, адной з падстаў колішняга слуцкага дабрабыту і рэгіянальнай ідэнтычнасці. З варштатамі некалькіх тыповых рамёстваў. І з крамай рэгіянальнай прадукцыі, сувенірнай і харчовай. І штукарскай, і звычайнай прамысловай.

Бо Случчына і сёння — рэгіён, слаўны сваімі прадуктамі. Сыраробны і цукровы камбінаты, мясакамбінат, камбінат

### Выбранцы

ваенна-служылая група сельскіх жыхароў у Рэчы Паспалітай у XVI–XVIII стагоддзях. За сваю вайсковую службу выбранцы і іх сем'і вызваляліся ад усіх падаткаў і павіннасцяў, атрымлівалі «ў вечнасць» зямлю, прывілеі выбранцаў («выбранецкае права») пашыраліся і на іх нашчадкаў.

У 1-й палове XVII стагоддзя магнаты ВКЛ стваралі атрады выбранцаў і ў прыватных войсках, набіраючы іх з дробнай шляхты, вольных людзей і сялян. Але ў 2-й палове XVII стагоддзя выбранцы засталіся толькі на Случчыне (вёскі Агароднікі, Бранавічы, Варкавічы, Лучнікі, Падзёры, Сярагі), несучы службу ў слуцкім гарнізоне.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі і наступнай ліквідацыі слуцкага гарнізона выбранцаў спрабавалі зрабіць прыгоннымі, але яны змагаліся за свае правы і дабіліся залічэння ў разрад «вольных хлебаробаў» Ажно да пачатку XX стагоддзя яны захоўвалі спецыфічныя рысы побыту ў параўнанні са сваімі суседзямі з іншых сацыяльных груп.

хлебапрадуктаў, воцатны завод і многія іншыя прадпрыемствы рэгіёна маглі б прадаваць тут найлепшыя ўзоры сваёй вытворчасці, які турысту або звычайнаму «камандзіровачнаму» пакуль што немагчыма знайсці ў адным месцы. І, канечне, абавязковай часткай экспазіцыі мне бачыцца гісторыя сталінскіх рэпрэсій, гісторыя разгрому і паўторнага запрыгоньвання ▶

## Вярталіся «кулакі» да пустых сядзібаў

Пра калектывізацыю і раскулачванне самых працавітых сялян з высылкай на Поўнач, у тайгу за Котласам, а то і ў Сібір, пасля распаду СССР пісалася нямала. Стала вядома нават, што такі лёс напаткаў каля 60 тысяч сем'яў з БССР з улікам старых, дзяцей...

А колькі іх засталося пасля вайны, калі да састарэлых і нягожых для лесанарыхтоўкі, «кулакоў», мужчын і жанчын, адміністрацыя паселішчаў, дзе яны жылі, ставілася болей цярпіма, з дазволам на вяртанне ў Беларусь, такой статыстыкі штосьці я не сустракаў.

У вёсцы Боркі такія «шчасліўцы», хто вярнуўся з-за Котласа, былі, хоць і адзінкі. Ужо пасля дэмабілізацыі з флоту ў 1951 годзе, праведаўшы бацькоў, сустрэўся на вуліцы з хударлявым дзядком з кійком у руцэ, з густой сівой бародкай. Мы прывіталіся, хоць ні ён мяне не ведаў, ні я яго: такі ўжо вясковы звычай. Дзядок адказаў на мой «добры дзень» — «добрага здароўя». Ад бацькі даведаўся, што гэта быў Язэп Малевіч. Яго адным з першых «кулакоў» у вёсцы з жонкай Марыляй, з жанатым сынам Пятром і яго жонкай Анютай выслалі за Котлас. Унучку Нілу, чатырох гадкоў, пакінулі на выхаванне роднаму брату Анюты — Мацвею Валатковічу.

У вайну дарослых сыноў раскулачаных сялян прызывалі на фронт, трапіў туды і сын Язэпа — Пётр, ён загінуў пад Сталінградам у 1942 годзе. Яго бацькі пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў у 1944 годзе, ужо маючы ўзрост 77 і 74 гады, вярнуліся спярша да сваякоў у вёску Дараганава Асіповіцкага раёна, дзе пражылі з год. А потым — у Боркі, дзе на сваёй сядзібе ўбачылі чужую хатку, бо іхнюю пасля раскулачвання разабралі і вывезлі ў суседнюю вёску. Сустрэла іх 18-гадовая ўнучка Ніла, якую яны з цяжкасцю пазналі. Старшыня тутэйшага калгаса памяркоўна, па-людску аднёсся да абаіх Малевічаў. Ім дазволілі прыстасаваць пад жыллё хляўчук паблізу закінутай свінафермы. Язэп, меўшы немалы вопыт работы з сякерай і пілой, сам склаў печ, выразаў у сцяне два акны, змайстраваў дзверы, перакрыў дах свежай саломай.

Па ўспамінах іх унучкі Нілы Пятроўны Масюк, калгас дазволіў старым апрацоўваць паблізу іх хаткі 20 сотак зямлі.

Унучка тым часам выйшла замуж за дэмабілізаванага вяскоўца, які збудаваў свой дом, насіла дзядулю і бабулі то бохан хлеба, то збан малака — яны не галадалі.

— Ніколі не забуду, — са слязьмі на вачах успамінае Ніла Пятроўна, — як паспела збажына на ўчастку і я сярпом зжала яе, павязала ў снапы. Калі яны падсохлі, бабуля Марыля разаслала некалькі пасцілак і дзядуля цэпам змалаціў іх, правеяў на ветры зерне з рэшата, потым змалоў яго ў жорнах аднавяскоўца Івана Жаўрыда і сказаў мне: «Бог даў, што мы з жонкай дачакаліся, калі ўнучка зжала наша жыта, дай Бог ёй здароўя». З таго змеленага жыта бабуля ў печы пякла на дубовых лістах духмяныя боханы хлеба, смачнейшы за які я потым не ела.

У той хаціне на выгане, узбоч вёскі, старыя дажылі свой доўгі — да 85 і 83-х гадоў — век.

Хто яшчэ з вяскоўцаў-«кулакоў» вярнуўся ў вёску восенню 1946 года? Сусед Язэпа — яго родны брат Васіль Малевіч, якому ўжо было 69 гадоў. Даў яму прытулак той жа Мацвей Валатковіч, бо і на яго пляцы жыў ужо ў сваёй новай хаце чужы чалавек. Высылалі Васіля як удаўца, бо за пяць гадоў да калектывізацыі памерла яго жонка, пакінуўшы дзвюх дачок-малалетак. Камбедчыкаў, што чысцілі «вёску», гэта не засмуціла. Добра, што ўпотай ад іх суседка Васіля — Таццяна Малевіч — схавала тых дзяўчынак у запечку, а потым, калі іх бацьку павезлі ў Слуцк на зборны пункт, адправіла да добрых людзей у Мінск, дзе ім далі прытулак.

З раскулачаных сем'яў Ёсіпа Жаўрыда, Хведара Забелы, Аляксандра Перагуда, Кастуся Кунцэвіча ніхто з мужчын і іх жонак назад пасля вайны не вярнуўся, нават іх дзеці, якія падраслі за час высылкі.

**Міхась Тычына**, kurjer.info




### Слуцкія бэры

Культавы сорт грушаў. Дрэвы жывуць да 150 гадоў, вырастаюць да 20 метраў вышынёю. Дэсертныя грушы здымаюць у кастрычніку, ядуць да студзеня. Імаверна, вывелі слуцкія бэры мясцовыя манахі-бернардзінцы на аснове заходнееўрапейскіх сартоў.



**Ідылія. Фальварак Смольгаў** Слуцкага павета на гравюры Напалеона Орды. 1877 год.

▸ слуцкага сялянства. Случчына гісторый накшталт той, якой некалі падзяліўся слуцкі журналіст і краязнаўца Міхась Тычына, магла б расказаць тысячы.

Нам сёння кажуць, што без касмічнай энергіі гэтых тысяч асабістых трагедый нібыта немагчымыя былі б ані перамога ў «Вялікай Айчыннай», ані палёт Юрыя Гагарына. Але ці так гэта на самай справе — наведвальнікі скансэна маглі б паразважаць асабіста, зрабіўшы ўласныя высновы.

### Ідэальнае месца

З майго ідэалістычнага гледзішча найлепшым сімвалічным месцам для такога скансэну маглі б быць ваколіцы вёскі Смольгава Любанскага раёна. Бо гэта і месца нараджэння нашага славутага паэта Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), вядомага таксама як «лірнік вясковы», і адначасова — тая самая «Новая зямля», набыць якую імкнуліся героі аднайменнай паэмы Коласа, па сутнасці — «абяцаная зямля» беларускага сялянства.

Але, разважаючы больш рэалістычна і зыходзячы перадусім з патрабаванняў лагістыкі, скансэн мусіў бы месціцца недзе паміж гістарычнай сталіцай рэгіёна — Слуцкам, і новай эканамічнай сталіцай — Салігорскам. Чаму б, напрыклад, не вярнуць хату з вёскі Ісерна на яе гістарычную радзіму? І не пачаць збіраць тут іншыя падобныя пабудовы? Якраз адно з найлепшых для ахопу мэтавай аўдыторыі месца. Гэта, вядома, толькі аўтарская ідэя, без прэтэнзій на месіянства — буду ўдзячны за яе крытыку і сустрэчныя прапановы.

У мясцовых краязнаўцаў папулярным месцам для рэфлексіі над лёсам рэгіёна, узорным кутком Случчыны пэўны час лічылася вёска Бранчыцы: традыцыйная драўляная забудова, ідылічны двор Булгакаў, старая царква са слядамі ўніяцкага ўплыву — і навіслыя над вёскай тэрыконы адкідаў калійнай вытворчасці. Але з гэтымі адкідамі — сапраўдная праблема: ані слуцкія бэры, ані іншыя даўнія сарты пладовых дрэў не хочуць расці ў радыусе многіх кіламетраў ад салігорскіх руднікоў.

Мікалай Амяльковіч, садавод-аматар з вёскі Балотчыцы Слуцкага раёна, які ладны кавалак жыцця прысвяціў развядзенню мясцовых сартоў, у адным з інтэрв'ю са скрухай падсумоўваў перспектывы слуцкай бэры на ладнай частцы яе гістарычнай радзімы: «Мо ў іншых мясцінах праявіць сябе, але побач з салігорскімі руднікамі асуджана на выміранне. Вядомы беларускі селекцыянер-садавод Сібаева задумвала скрыжаваць слуцкую бэру з больш устойлівым да экалогіі сортам, каб не пашкоджваліся плады паршою. Але прыродныя гены слуцкай бэры даволі трывалыя і перадаюцца гібрыдам. Пакуль што эксперымент не ўдаецца».



Слаўныя слуцкія бэры не хочуць расці ў радыусе многіх кіламетраў ад **салігорскіх руднікоў.**

## Сыраварня як сімвал

А вось яшчэ адзін магчымы знакавы экспанат меркаванага скансэну: дом сыравара, сумешчаны з сыраварняй і крамай па продажы сыру, міжваеннай пабудовы ў вёсцы Сіняўка Клецкага раёна. Паводле становішча на 2018 год, добра захаваны будынак (дадзеныя аўтара фота і паведамленне пра аб'ект Ігара Клімчанкі). Адныя дзверы на фасадзе будынка вядуць у краму, другія — у жыллё гаспадара, у прыбудову за будынкам, куды паступала купляное ў людзей малако.



DREWA.BY, ФОТА ІГАРА КЛІМЧАНКІ

**Дом сыравара ў Сіняўцы** пад Нясвіжам.

Дарэчы, спакуслівa выглядае ідэя аднавіць у скансэне забытую тэхналогію вытворчасці і «літоўскага» сычужнага сыру, якой Случчына славілася нароўні з Наваградчынай, і мясцовага слуцкага варыянту тварожных (клінковых) сыроў, якую Сымон Кандыбовіч-Будзімер у нарысе «Случчына» настальгічна апісаў так: «*смачна прыгатаваныя белыя сыры, сухія і завялыя, свежыя, мала прасоленыя з пракладкамі запраўднай смятаны...*»

Гэтая прыватная традыцыйная сыраварня — выдатная сімвалічная ілюстрацыя да кароткага працягу гісторыі Случчыны, заходняй яе часткі, яшчэ на 10 гадоў, у міжваеннай Рэчы Паспалітай. Канчаткова перапыненай у тым самым 1939 годзе, калі, паралельна з «вызваленчым паходам» 17 верасня, былі сселеныя ў калгасныя пасёлкі і ацалелыя слуцкія хутары ў БССР.

А я ж ніколі не бачыў у Беларусі, напрыклад, і рэстаўраванай алеярні (месца, дзе выціскаюць алей), калісьці нярэдкай на Случчыне. (Затое бачыў іх, напрыклад, у некалькіх скансэнах польскага Падляшскага ваяводства.) Тое самае — наконт многіх іншых тыповых вясковых промыслаў, цалкам ужо забытых сучаснымі беларусамі.

Чым больш будзе гэтай памяці, чым больш будзе павагі да гісторыі натуральнага развіцця нашай сельскай гаспадаркі і лакальнай перапрацоўкі яе прадукцыі — тым вышэйшая будзе канкурэнтнасць нашай краіны на сусветным рынку. Гісторыя Случчыны тоіць у сваіх нетрах адказы на многія пытанні, якія мы яшчэ не асмеліліся ёй задаць. ◆




**І немагчымае зрабі! Успаміны пра падзеі 1968 года.** — Мінск: Тэхналогія, 2021. — 160 с., [22] арк. іл.

У 1968 годзе студэнты беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ склалі адкрыты ліст за тое, каб усе прадметы ў іх выкладалі па-беларуску. За палову дня пад петыцыяй падпісаліся некалькі сотняў чалавек. Аднак яе вынікам стала выключэнне ініцыятараў з універсітэта.

У кнігу ўвайшлі трыццаць два ўспаміны пра падзеі той восені, а таксама фотаздымкі ўдзельнікаў тых падзей. Сярод аўтараў — Алесь Разанаў, Зміцер Санько, Ніл Гілевіч, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Міхась Казлоўскі і іншыя.

Пра тыя падзеі, дарэчы, у № 1/2019 «Нашай гісторыі» друкаваў артыкул паэт і літаратуразнаўца Анатоль Івашчанка. Але з кнігі пра іх можна даведацца нашмат падрабязней.

Набыць кнігу можна ў інтэрнэт-краме **tn.by**, а таксама ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72).

# У пошуках Ваўчынак



ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Як дзякуючы выпадковай сустрэчы ў вандроўцы па правым беразе Нёмана ўдалося аднавіць гісторыю адной забытай мясціны — і святыні, — піша кандыдат гістарычных навук Святлана Лугаўцова.**

Ці верыце вы ў сяброўства з першага погляду? А яно дакладна існуе. Больш за трыццаць гадоў таму мы з Тэрэсай Кудрык выхапілі позірк адна адной у натоўпе студэнтаў і ціхенька сталі побач. Калі прагучала каманда «разбіцца на брыгады», то ўжо збіралі бульбу разам. Здаецца, першыя дні больш маўчалі, прыглядаліся. Затое потым так разгаварыліся, што дагэтуль спыніцца не можам. Я дваццаць гадоў адпрацавала на гістфаку БДУ, а Тэрэса Дзеанізаўна Кудрык больш за 20 гадоў працуе ў Воўпаўскай сярэдняй школе Ваўкавыскага раёна, займаецца краязнаўствам і адказвае за школьны музей.

Калі мы разам сядзелі ў яе ў старажытнай Воўпе і распрацоўвалі маршрут вандроўкі па правым беразе Нёмана, прагучала фраза: «Можа, па дарозе заедзем у Ваўчынкі, толькі каб мне там не расплакацца»...

Чаму расплакацца? Тэрэса нарадзілася ў Глінічах Шчучынскага раёна, хадзіла ў пачатковую школу ў Ваўчынкі праз Губічы. Зараз мала што засталося ад першых, другіх

**Непаўторна беларускі дуэт готыкі і рэнесансу зачароўвае**: царква ў Мураванцы, на правабярэжжы Нёмана, пад Лідай. Але з яе гэтая гісторыя толькі пачынаецца, каб завесці нас нашмат далей.




і трэціх. Яна ж памятае Глінічы вёскай, дзе было шмат дзяцей, весела, былі свае абрады. Напрыклад, цыганне бабаў. Калі ў бабуль нараджаўся першы ўнук, то падчас застолля іх садзілі на воз, і мужчыны цягнулі гэты воз праз усю вуліцу. Побач ішлі астатнія госці, гралі музыканты, спявалі песні. На такі шум і гоман выходзілі з хат людзі, віншавалі бабуль. Тых, хто павіншаваў, частавалі, спецыяльна для іх спявалася песня «пад заказ». Смех, музыка, жыццё! А цяпер такая цішыня, што да зямлі клоніць...

Паехалі мы праз Масты Правыя, Ражанку, Жалудок і Мураванку — тую, дзе стаіць шэдэўр беларускай архітэктуры, царква непаўторнага архітэктурнага стылю, якая носіць назву «Маламажэйкаўскай».

## А што, Ваўчынкі існуюць?

Зайшлі мы ў яе, і на іконе, што лепш за ўсіх упрыгожана, бачу надпіс: «Ваўчынкаўская». Я запытала ў іерэя Кірыла Кубрака, ці звязана яна з Ваўчынкамі. Ён паглядзеў на мяне як на іншапланетніцу, якая хоча да вячэры на Марс заскочыць. «А што, — спытаў ён, — Ваўчынкі яшчэ існуюць?»

Завязалася размова.

Аказалася, што гэта не арыгінал, а адноўленая па фатаграфіях копія старадаўняй іконы, якая захоўвалася ў Мураванцы да Першай сусветнай вайны і лічылася цудатворнай.

Айцец Кірыл так пранікся, што прынёс нам падшыўку «Літоўскіх епархіяльных ведамасцяў» за 1873 год, дзе быў вялікі артыкул протаіерэя Льва Савіцкага, які быў настаяцелем Мураванкаўскай царквы ажно 60 гадоў, з 1863-га па 1923-ці. Артыкул распавядаў у тым ліку пра гісторыю царквы і абраз Божай Маці Ваўчынкаўскай: «У апісанні Ваўчынкаўскай царквы, прыпісанай да Маламажэйкаўскай, было згадана пра абраз Божай Маці ў срэбранай рызе з выявай паўкружжа Месяца ля падножжа ліку Божай Маці... Года на абразе не выстаўлена; знаходзіцца толькі надпіс: *Иосиф и Екатерина Овсяны*; паводле выгляду — абраз вельмі старажытны».

Мы да сустрэчы ў Мураванцы нічога не ведалі пра абраз і колішнюю царкву, а айцец Кірыл нічога не ведаў пра шпіёна і пісьменніка Сяргея Пясецкага. Мы расказалі яму, што Ваўчынкі належалі абшарнікам Паплаўскім, што апошняя іх уладальніца Яніна была тая яшчэ арыгіналка, і ў яе Пясецкі на нейкі час спыняўся. Што менавіта ў Ваўчынках Сяргей Пясецкі пасябраваў з Аленай Скіндар (сястрой Вацлава Іваноўскага). Менавіта Пясецкі дапаможа Алене ў 1939 годзе тайна перайсці мяжу і апынуцца ў Вільні, каб пазбегнуць праследу з боку савецкай улады. ▶


ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Царква ў Мураванцы.** Злева — копія іконы Маці Божай Ваўчынкаўскай.

Скончылася тым, што мы паехалі ў Ваўчынкі ў кампаніі айца Кірыла.

### Толькі трава ў чалавечы рост

Калі паглядзець на карту, то **Ваўчынкі** знаходзіліся недзе паміж вёскамі Лазаўцы і Скрыбаўцы. Школа там існавала да 1978 года, потым будынак быў разабраны.

Цяпер тут буяюць травы з мяне ростам ды кусты разрасліся. Толькі сэрца Тэрэсы ды настойлівасць яе былой вучаніцы, а маёй былой студэнткі Юлі маглі ў тым гушчары знайсці рэшткі падмурка сядзібнага дома па кустах бэзу і высахлых межавых таполях!

А дзе ж стаяла Ваўчынкаўская царква?

Льву Савіцкаму яшчэ давялося ўбачыць царкву. Яна была ўжо «вельмі трухлявай», мела саламяны дах, каля яе стаялі гаспадарчыя будынкі, дзе гаспадарыў арандатар абшарніка Паплаўскага. Протаіерэй піша: «Паданне кажа, што пасля ўвядзення ў м. Васілішкі ордэна базыльян, для якога быў заснаваны некім Рачынскім драўляны манастыр з каменнай царквою, базыльяне пачалі рабіць прыцясненні суседняй Ваўчынскай царкве і яе настаяцелям, угаворваючы калятара Паплаўскага аддаць фундушавую зямлю ордэну ў вечнае ўладанне і гвалтоўна ўрываючыся ў прыход для выканання духоўных трэбаў. Настаяцелі пасля гэтага павінны былі хоцькі-няхоцькі пакідаць прыход і шукаць іншага месца».

Варта адзначыць, што вядомы знаўца гісторыі базыльянскага ордэна Дзяніс Лісейчыкаў сцвярджае: у Васілішках ніколі базыльянскага манастыра не было. Але сама схема, апісаная ў легендзе, блізкая да сапраўднасці: манахі прыглядалі сабе які-небудзь перспектыўны прыход і атрымлівалі грошы на яго фундацыю ў землеўладальнікаў. Так у 1720-х стала базыльянскай звычайная прыходская ўніяцкая царква ў Міры, а ў 1740-х — у Новым Свержані.

Леў Савіцкі паведамляе, што царква ў Ваўчынках тры гады таму (артыкул быў апублікаваны ў 1873 годзе) «невядома чаму і па чыім дазволе была прададзена за самы нікчэмны кошт яўрэям на лазню і перавезена ў м. Васілішкі. Цвінтар царкоўны стаўся могілкамі для вёсак, якія належалі некалі да гэтай капліцы: Ваўчынак, Зенявіч, Глініч, Губіч і Лазоўцаў».

Гутарка ідзе пра час пасля паўстання 1863–1864 гадоў, калі каталіцкія храмы масава перадаваліся Рускай праваслаўнай царкве. А тут нехта прадае праваслаўную царкву, ды яшчэ яўрэям, ды яшчэ на лазню... Што за загадка?

Тым не менш стала ясна, што капліца з цудатворным абразом у Ваўчынках стаяла там, дзе пазней былі могілкі. Людская памяць хутка сціраецца, калі яе

### Дзе спыніцца?

У Шчучыне ёсць добры міні-гатэль «Утульнасць» у аўтэнтычным будынку ў цэнтры.

Толькі гіганцкія старчы высахлых таполяў пазначаюць месца, дзе **некалі стаяла сядзіба Ваўчынкі.**

ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

не падтрымліваюць грамадскія інстытуты. Тэрэса пра могілкі ля школы ўжо нічога не чула.

### Крыжык на дрэве

Раз'ехаліся мы, закапаліся ў даведнікі, а ўранку стэлефанаваліся. І тут высветлілася, што кожны самастойна прыйшоў да адной і той жа высновы: могілкі былі зусім недалёка ад сядзібнага дома фальварка Ваўчынкі, трошкі ў бок вёскі Лазаўцы, і былі пазначаныя на мапе Расійскай імперыі канца XIX стагоддзя крыжам. Якраз на тым месцы на адным з дрэў нехта прыбіў маленькі крыжык.

Тэрэса патэлефанавала свайму дзядзьку, які быў вучнем школы ў Ваўчынках аж у 1950-я. Дзядзька добра памятаў, што побач са школай былі не толькі могілкі, але і напаўразбураны склеп былых паноў. Нягледзячы на забарону і страх, хлопчыкі туды лазілі і нават бачылі там нейкія косткі.

Гэтую інфармацыю пацвердзілі і былыя жыхары вёсак Губічы і Зенявічы. Такую гісторыю нам расказалі:

«Жыў калісьці ў Зенявічах ляснік па мянушцы Цецярук. I вось ён з парай іншых мужчын палезлі ў ваўчынкоўскі склеп. А там стаялі труны, абітыя металам. Неяк ускрылі яны тыя труны, а ў іх косці толькі засталіся. Але на адным шкілеце быў багаты касцюм апрануты. Цецярук садраў пінжак са шкілета і надзеў на сябе. І смяецца: "Глядзіце — як на мяне сшыты!" І хадзіў у тым пінжаку. Цецярук той быў здаровы мужык, як кажуць, у целе, а тут людзі заўважаць сталі, што ён пачаў марнець. "Можа, ты хворы ці што?" — пытаюцца ў яго. "Ат, — кажа ляснік, — бяда. Ходзіць за мной нейкі цень, палохае мяне і ўсё шэпча "аддай мой пінжак". Я ўжо выкінуў той пракляты пінжак, а голас не знікае". Людзі смяяліся з яго. Смех смехам, але Цецярук зусім змарнеў і хутка памёр».


ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Тэрэса Кудрык і айцец Кірыл Кубрак** з падшыўкай «Літоўскіх епархіяльных ведамасцяў» за 1873 год.

Заставаліся пытанні: як цудатворны абраз Божай Маці апынуўся ў Мураванцы? І куды ён з яе падзеўся? Сталі шукаць, пачалі з гаспадароў фальварка Ваўчынкі Паплаўскіх, пра якіх не раз узгадвае на старонках сваіх прац галоўны знаўца Лідскага павета Леанід Лаўрэш, які сабраў шмат каштоўных матэрыялаў на сайце *pawet.net*.



Таксама цікавіўся мясцовай гісторыяй жыхар суседняга Гурнофеля, былы дырэктар школы ў Ваўчынках Вінаград Іван Міхайлавіч. Вырашылі, што Тэрэса, як настаўнік з настаўнікам, з ім паразмаўляе... Не паспелі. Год таму памёр Іван Міхайлавіч. З дапамогай айца Кірыла знайшлі сына Вінаграда Канстанціна Іванавіча. Высветлілася, што архіў бацькі, дзе захоўваліся сабраныя ім матэрыялы, у тым ліку арыгінальныя дакументы і старадаўнія манеты, знік яшчэ пры яго жыцці. ▸

▶ А я палезла ў шафу з папкай матэрыялаў з фондаў Літоўскага гістарычнага архіва. Ёсць у мяне адзін неацэнны спіс лідскай шляхты за 1835 год. «Неацэнны» таму, што з'яўляецца рэдкім прыкладам спіса шляхты, дзе побач з мужчынамі пазначаныя ўсе дзяўчынкі і жанчыны, што дало мне магчымасць даследаваць мадэль шлюбных адносін у коле мясцовай шляхты.

## Дынастыя падкаморых

Адкрываю спіс на літары «П» і адразу бачу:

> ***Паплаўскі Фама*** *Антонаў сын, 41 год, халасты, былы лідскі падкаморы. Зацверджаны ў дваранскай годнасці Гродзенскім дваранскім дэпутацкім сходам у 1817 годзе, уладальнік двух фальваркаў і 171 душы прыгонных сялян.*
>
> ***Паплаўскі Міхаіл*** *Сімпліцыянаў сын, 44 гады, удовы, лідскі межавы суддзя. Мае дачку 6 гадоў і сына 3 гадоў. Жыве сумесна з братам* ***Ігнатам*** *42 гадоў, халастым. Браты валодаюць 2 фальваркамі. Гродзенскім дваранскім дэпутацкім сходам зацверджаны ў дваранскім паходжанні ў 1817 годзе.*

Адразу стала ясна, што гэта сваякі, бо яны адначасова падавалі дакументы на зацвярджэнне ў губернскі дваранскі дэпутацкі сход. Акрамя таго, яны былі паважанымі асобамі ў павеце. Бо падкаморы — гэта суддзя, які абіраўся шляхцічамі павета для вырашэння пазямельных спрэчак. А межавы суддзя — аналагічная пасада ў Расійскай імперыі, якая з'явілася ў выніку судовай рэформы Аляксандра І 1810–1812 гадоў.

У віленскага гісторыка Чэслава Малеўскага знаходзім: Паплаўскія (гербаў «Дравіца» і «Траска») валодалі маёнткам Капцюга з фальваркам Ваўчынкі і вёскамі Глінічы, Губічы, Зенявічы, Лазаўцы.

Яны! Малеўскі пералічвае:

**Антоній Паплаўскі** — каморнік Вялікага Княства Літоўскага, які ў 1789–1797-х валодаў маёнткам Капцюга.

**Тамаш Паплаўскі** (вось ён «Фама Антонаў сын», які быў унесены ў спіс 1835 года па расійскай традыцыі) — падкаморы лідскі ў 1818–1837 гадах. Нічога сабе! Ды гэта ж патрыярх сярод падкаморыяў! З усёй адказнасцю скажу, што трэба быць вельмі паважаным чалавекам у павеце, каб абірацца на такую пасаду шэсць разоў запар (выбары праходзілі раз на тры гады). Рэдкі выпадак. Тым больш гаворка ідзе пра час да і пасля паўстання 1830–1831 гадоў. Тамаш памёр у 1854 годзе ва ўзросце 63 гадоў і прамых нашчадкаў не пакінуў.

**Тадэвуш Паплаўскі** — лідскі межавы суддзя, памёр у 1824 годзе ва ўзросце 28 гадоў. Жыў у Лідзе.

**Міхал Паплаўскі** — суддзя гродскі лідскі ў 1835–1837 гадах.

**Антоній Паплаўскі** — маёр расійскіх войскаў у 1835 годзе.

**Ігнат Паплаўскі** — лідскі межавы суддзя ў 1841 годзе.

Такім чынам, гэта была дынастыя межавых суддзяў. Разбіраемся далей.

## Аўсяны, Паплаўскія

Удзельніца нашай вандроўкі пані Юлія знайшла ў сеціве вопісы фондаў гістарычнага архіва ў Гродне, дзе нас зацікавілі некаторыя справы за 1854–1855



**Тэрэса Кудрык і аўтарка артыкула Святлана Лугаўцова (справа)** перад палацам Друцкіх-Любецкіх у Шчучыне.

ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

гады. У адной з іх гаворка ішла пра тое, што ў красавіку 1722 года ўладальнікі фальварка Малыя Ваўчынкі **Крыштаф і Барбара Аўсяны** аддалі яго пад заклад шляхцічу Барташэвічу. Дык гэта ж тое самае прозвішча, якое напісана на цудатворным абразе Ваўчынкаўскай Божай Маці!

Але якім чынам фальварак Ваўчынкі стаў уласнасцю Паплаўскіх? Зараз мы ведаем, што да 1722 года фальварак Малыя Ваўчынкі належаў Аўсянам. З матэрыялаў гродзенскага архіва даведваемся, што ў 1760 годзе Юрый і Мар'яна Пратасевічы аддалі пад заклад фальварак Капцюга Дамініку і Анэлі Пашкевічам.

А дзе ж нашыя Ваўчынкі? Пра іх ні слова. Ці належалі яны па-ранейшаму тым жа землеўладальнікам, што і Капцюга? Хутчэй за ўсё, не. Бо айцец Леў Савіцкі паведамляў: «Канонік Паплаўскі, калятар царквы ў Ваўчынках, у 1751 годзе прасіў святара Маламажэйкаўскай царквы Сасіновіча прыняць да сябе гэтую царкву на правах філіі».

Калятарам, гэта значыць апекуном царквы, як правіла, з'яўляўся ўладальнік таго маёнтка, на тэрыторыі якога яна знаходзілася.

## Страва з Глініч: квасок

«На Вігілію бабця абавязкова варыла "квасок", — расказвае Тэрэса Кудрык, — посны суп з сушаных баравічкоў, круп, бульбы. Запраўляла ўсё цыбуляй і морквай, падсмажанымі на алеі. Дадавала лыжку воцату, каб суп быў кісленькі. Для мяне і зараз гэта страва — пах дзяцінства».



## Рада канфедэрацыі

1 ліпеня 1812 года французскі імператар Напалеон падпісаў дэкрэт пра ўтварэнне дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага і сфармаваў Камісію Часовага ўрада. Яна з'ўлялася найвышэйшай уладай княства.

Адначасова паўсталі павятовыя рады. У Лідскім павеце пад кіраўніцтвам маршалка Ігнацыя Скіндара рада была ўтворана 7 ліпеня. Але ж на Лідчыне паўстала і другая рада сканфедэраванай шляхты — у Жалудку пад кіраўніцтвам графа Рудольфа Тызенгаўза, сябрам якой быў **Сімпліцыян Паплаўскі**. Такім чынам, у адным павеце былі створаныя дзве рады. Хутчэй за ўсё, Рудольф Тызенгаўз — чалавек французскай арыентацыі — хацеў супрацьпаставіць сваю канфедэрацыю ўладзе ў Лідзе, якая, на яго думку, была прарасійскай.


ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

Акно ў храме **ў Старых Васілішках.**

З матэрыялаў той жа архіўнай справы вынікае, што ў 1778 годзе шляхцянка Паплаўская падаравала маёнткі Вялікія Ваўчыны, Малая Барэйкаўшчына, Доцішкі з фальваркам Капцюга каморніку Антонію Паплаўскаму.

Той перадаў гэтыя ўладанні ў спадчыну свайму сыну **Тамашу Паплаўскаму**, які абіраўся на пасаду лідскага падкаморыя з 1818 па 1837 гады. Тамаш памёр у 1854-м ва ўзросце 63 гадоў. Прамых нашчадкаў не пакінуў.

У 1855 годзе землеўладанні ўспадкавалі сваякі Тамаша браты **Міхал і Ігнат Паплаўскія,** сыны Сімпліцыяна. Ігнат сям'і не меў. У Міхала былі сын Юльян і дачка, імя якой мне невядома. Імя сына Міхала я даведалася з мемуараў лідскага суддзі ў 1930-я гады Юльяна Грымайлы-Прыбыткі, які з'яўляўся ўнукам Юльяна і праўнукам Міхала Паплаўскіх.

Браты Міхал і Ігнат Паплаўскія былі паважанымі асобамі ў павеце, дзе ў розныя гады неаднойчы абіраліся на судовыя пасады. Ёсць звесткі і пра іх бацьку, Сімпліцыяна. У 1812 годзе ён быў сябрам павятовай рады канфедэрацыі ў Лідскім павеце.

## Усё змяніла паўстанне

**Юльян (сын Міхала) Паплаўскі** за ўдзел у паўстанні 1863 года быў сасланы ў Сібір. Вось якую інфармацыю пра яго даслаў мне даследчык эміграцыйных хваляў з тэрыторыі Беларусі ў XIX стагоддзі Дзмітрый Матвейчык:

«Паплаўскі Юльян, сын Міхала, памешчык. Да паўстання валодаў маёнткам Капцюга Лідскага пав. 09.06.1863 года ў Капцюзе паўстанцы ўзялі каня з сядлом і да іх далучыўся дваравы чалавек, таму западозраны ў дапамозе ім. Яго маёмасць на падставе распараджэнняў віленскага губернатара ад 27.06.1863 і 04.07.1863 падлягала секвестру».

Увогуле, Паплаўскія былі адными за найбольш актыўных удзельнікаў паўстання. Леанід ▶

Лаўрэш згадвае «Уладзіміра Паплаўскага з Ваўчынак», які ўваходзіў у Лідскі павятовы рэвалюцыйны камітэт. 4 траўня 1863 года каля Дубічаў адбыўся бой паміж паўстанцамі на чале з Людвікам Нарбутам (сынам гісторыка Тэадора Нарбута) і атрадам імператарскай арміі, у баі загінулі камандзір і 12 ягоных найбліжэйшых паплечнікаў-паўстанцаў. Сярод іх быў і 28-гадовы Уладзімір.

Адзін з заснавальнікаў беларускай археалогіі Вандалін Шукевіч запісаў такі эпізод з бітвы пад Дубічамі:

«Адзін з удзельнікаў быў паранены ў нагу, страціў шмат крыві і, перамагаючы боль, краўся ў бок мястэчка Забалаць. Каб набрацца сіл, ён прылёг у лесе і ўбачыў вайсковы аддзел з афіцэрам на чале, які ішоў у яго бок. Ні хвіліны не марудзячы, не думаючы пра наступствы, ён стрэліў у афіцэра з пісталета і забіў яго. Жаўнеры кінуліся да паўстанца і літаральна ўзнялі яго на штыхі, пасля чаго вырашылі, што герой загінуў, і таму пакінулі ў лесе, а цела афіцэра панеслі з сабой. Аднак, атрымаўшы шаснаццаць ран, паўстанец не памёр, яго знайшлі і перанеслі ў бліжні маёнтак. Ён выжыў, паправіўся і цяпер тымі ранамі, якія пакрываюць яго цела, можа засведчыць праўдзівасць сваёй гісторыі».

Гэтым паўстанцам быў родны брат Уладзіміра Паплаўскага Пётр. У 1930-х гадах лідскі суддзя Юльян Грымайла-Прыбытка, унук Юльяна Паплаўскага, згадваў, што Уладзімір і Пётр вучыліся разам з яго дзедам, а потым жылі ў яго маёнтку і дапамагалі па гаспадарцы.

Ён пісаў: «Уладзімір і Пётр Паплаўскія паходзілі з фальварка Крэвін Сабакінскай гміны, мелі маці з Гофманаў і жылі




**Шчучын.** Людзі ідуць на вяселле.

пераважна ў маёнтку Капцюга, дзе дапамагалі па гаспадарцы свайму сябру і аднакашніку Юльяну Паплаўскаму, які не быў іх сваяком... Сасланы быў потым на Каўказ, але дзякуючы старанням маёй бабкі пасля маніфеста вярнуўся дахаты».

«Памёр у 1915 годзе ў Ваўчынках у спадарыні Яніны Мейр», — дадаў брат Юльяна Грымайлы-Прыбыткі Антон, вядомы ў 1930-я гады краязнаўца і паэт.

Актыўны ўдзел у паўстанні ўзялі суседзі і сябры Паплаўскіх. Разам з Людвікам Нарбутам пад Дубічамі загінулі браты Бразоўскія з суседняга да Ваўчынак Гурнофеля — Аляксандр і Францішак, а таксама сын уласніка маёнтка Галавічполе Стэфан Губарэвіч. Спіс загінулых ці сасланых з навакольных маёнткаў можна прадоўжыць. Але і пералічанага хопіць, каб адчуць атмасферу таго часу.

Лідчына была сапраўдным гняздом паўстанцкага руху.

У ліку першых пакаранне смерцю атрымаў ксёндз Станіслаў Ішора, вікары з парафіі ў Жалудку. Ён прачытаў паўстанцкі маніфест і сам здаўся ўладам. Ксёндз быў асуджаны ў Вільні на 5 гадоў катаргі, нягледзячы на амністыю тым, хто сам здасца ўладам. 26 траўня ў Вільню прыбыў новы генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў і замяніў прыгавор карай смерці. Ксёндз Ішора быў расстраляны на Лукішках і стаў першай ахвярай Мураўёва ў Вільні.

## «Цыганы»

З традыцый правабярэжжа Нёмана Тэрэса Кудрык добра памятае вясёлую вясельную завядзёнку, калі госці пераапраналіся ў цыганоў. Спявалі, выдурняліся, кралі курэй з хлява, а самы цымус, як казалі, гэта было ўкрасці маладую і падмяніць яе на якую-небудзь старэйшую гаваркую жанчыну — вось тут і пачыналася цэлае шоу, госці са смеху аж падалі. Маладую за выкуп «цыганы» вярталі, сядалі ў воз і ехалі дахаты пераапранацца, каб потым ізноў вярнуцца да вясельнага стала. А яшчэ праз тыдзень пасля вяселля госці з боку жаніха ехалі да бацькоў нявесты на давясёлкі і гулялі яшчэ дзень.

Новы генерал-губернатар таксама замяніў прыгавор пробашчу парафіі Ваверка Раймунду Зямацкаму. Святар быў расстраляны ў Вільні. Пробашч Ішчалны Адам Фалькоўскі быў расстраляны ў Лідзе. Ксёндз Сырвід Ануфры з парафіі Васілішкі за прачытанне маніфесту быў пакараны 12 гадамі катаргі ў шахтах Тамбоўскай губерні. Такім чынам, усе ксяндзы, якія былі расстраляныя ці пакараныя іншым чынам у першыя дні паўстання, былі з касцёлаў, якія знаходзіліся ледзь не ў пешай даступнасці ад Ваўчынак!

Адразу пасля расстрэлу ксяндза Ішоры паўстанцы забілі некалькі праваслаўных святароў, што дапамагалі царскаму ўраду. І вось у такой напружанай атмасферы супрацьстаяння ў лістападзе 1863 года 22-гадовы Леў Савіцкі, патомны святар каранямі са Спорава на Палессі (цяперашні Бярозаўскі раён), быў прызначаны настаяцелем Маламажэйкаўскай царквы ў Мураванцы.

**«Фамілія»**

У Глінічах сваякі трымаліся адзін аднаго, такі клан называўся «фамілія» — як магнацкая групоўка часоў апошняга польскага караля. Сваякі нават кароў стараліся сабраць у асобным статку, каб пасвіць іх па калейцы.

Ці мог малады святар удзельнічаць у супрацьстаянні 1863 года? Наўрад ці. Леў Савіцкі быў прызначаны ў Мураванку ў лістападзе, калі паўстанне ў павеце было фактычна ліквідавана.

Гэта быў энергічны чалавек. Практычна адразу пасля прызначэння святар стаў шукаць грошы для рамонту сваёй царквы. Грукаў ва ўсе дзверы, але сродкаў спачатку не атрымаў. Гэта здарылася толькі ў 1871 годзе. Асвячэнне адрамантаванай царквы адбылося ў студзені 1873-га. Думаю, менавіта з гэтай нагоды і быў апублікаваны ў «Літоўскіх епархіяльных ведамасцях» вядомы нам артыкул Льва Савіцкага. ▶



**Рэстаўрацыя царквы ў Мураванцы** — заслуга айца Льва Савіцкага.

ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

▶ За 60 гадоў службы айцец Леў Савіцкі заслужыў павагу сваёй паствы.

## Адкрыццё абраза

А як жа айцец Леў адкрыў абраз? Сам ён пісаў, што ікона была выпадкова адкрытая «з прычыны асаблівага Промыслу Божага, які дзейнічаў праз адну вельмі хворую жанчыну з блізкай вёскі, якая адкрыла мне на споведзі пра свой відзеж, быццам нейкая цудоўная жанчына ва ўбогім адзенні, з'явіўшыся, сказала ёй: "Памаліся абразу Божай Маці, што быў раней у капліцы ў Ваўчынках, а цяпер у цёмным і смуродным месцы знаходзіцца, і тады пазбавішся хваробы"».

Словы жанчыны прымусілі айца Льва адправіцца да абшарніка Ваўчынак з просьбай пра выдачу абраза, які раней знаходзіўся ў капліцы. Абшарнік «сам адправіўся ў паказанае мною месца, дзе нічога не было знойдзена. Пацярпеўшы яшчэ некалькі разоў няўдачу ў росшуках абраза, я ... два гады не звяртаўся да абшарніка па гэтай справе, чакаючы больш спрыяльнага выпадку, які неўзабаве прадставіўся».

Абшарнік пераехаў у іншы фальварак, а Ваўчынкі аддаў у арэнду аднаму шляхцічу, у якога фактарам (пастаўшчыком тавараў) быў яўрэй. У 1868 годзе ад сялян айцец Леў даведаўся, што абраз вісіць у свірне. Пасля таго ён адправіў да яўрэя дваіх вернікаў свайго прыхода, якія быццам бы хацелі прыцаніцца да свірна, прызначанага ўладальнікам на продаж. Фактар адчыніў свіран, дзе і быў знойдзены абраз Божай Маці, які з належным гонарам перанеслі ў Маламажэйкаўскую царкву. Пасля «цудоўнага выяўлення» абраз Божай Маці Ваўчынкаўскай стаў самым шанаваным у акрузе.

Падчас святкавання юбілею царквы ў 1907 годзе святар назваў імёны дзейных асоб гэтай гісторыі:

- абшарнік маёнтка Капцюга — Юльян Паплаўскі;
- хворая жанчына, якая бачыла сон, — Людвіка Сцяпанаўна Чурган;
- дбайныя прыхаджане з вёскі Бешанкі — Іван Міхайлавіч Хлус і муж хворай жанчыны Тамаш Аўгусцінавіч Чурган.

Такім чынам, выходзіць, што капліца ў Ваўчынках закрылася, калі фальваркам валодаў удзельнік паўстання 1863 года Юльян Паплаўскі, які вярнуўся на радзіму з выгнання. Хутчэй за ўсё, да закрыцця ўласніка падштурхнула актыўная дзейнасць энергічнага айца Льва, які, аднавіўшы храм у Мураванцы, актыўна цікавіўся маёмасцю капліцы.


**Бацька наш Нёман** у Мастах.

ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

У 1884 годзе сваю малую радзіму, таксама на правабярэжжы Нёмана, але вышэй па цячэнні, наведаў ва ўзросце 82 гадоў вядомы навуковец, былы філамат Ігнат Дамейка. У сваіх успамінах «Мае падарожжы» ён апісвае, як ягоны швагер пайшоў на немалыя матэрыяльныя выдаткі, абы толькі перанесці праваслаўную капліцу далей ад свайго двара.

Напэўна, і Юльян Паплаўскі пасля вяртання з выгнання на радзіму не жадаў, каб мясцовая капліца і месца пахавання яго продкаў перайшлі да праваслаўнага святара, таму ён знёс (прадаў на лазню, згодна са сцверджаннем айца Льва) стары, струхнелы храм. Вось такія бываюць павароты гісторыі.

## Застаецца знайсці ікону

А што ж абраз Божай Маці, дзе ён можа быць?

У віхуры Першай сусветнай вайны абраз з Маламажэйкаўскай царквы мог вынесці і схаваць нехта з вернікаў і святароў. Можа, і цяпер ён вісіць у хаце адной з блізкіх да Мураванкі вёсак? Прыгледзьцеся, у вашай сям'і няма абраза з надпісам **«Іосифъ и Екатерина Овсяны»**?

Іншы варыянт — абраз разам з іншымі царкоўнымі каштоўнасцямі вывезлі ў Маскоўскую епархіяльную кантору. Тады трэба звяртацца з адпаведным запытам у Маскву. Можа, абраз пыліцца ў нейкім сховішчы ці перададзены ў раённы музей, дзе не ўяўляюць яго каштоўнасць?

І будзе добра, калі на месцы былых могілак з'явяцца крыжы, каб ушанаваць памяць продкаў. Хай бы тое разам зрабілі праваслаўныя і каталікі, бо Ваўчынкі — месца пахавання і першых, і другіх. ◆

# Што яшчэ пабачыць на правым беразе Нёмана?

Вось ідэя маляўнічага маршруту: Масты Правыя – Ражанка – Жалудок – Мураванка – Старыя Васілішкі – Шчучын.




**Ражанка** здзіўляе казачным храмам.

## Масты Правыя

Сядзіба Азнабішыных размешчаная на высокім беразе Нёмана, недалёка ад моста, «прадзед» якога быў пабудаваны яшчэ па загадзе каралевы Боны Сфорцы ў XVI стагоддзі. Адтуль адкрываюцца цудоўныя краявіды.

Першым вядомым гаспадаром сядзібы быў памешчык Азнабішын, які атрымаў яе пасля паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Расійскі род, а пройдзе час, і прадстаўнік яго — Аляксей Азнабішын — у 1919 годзе ўвойдзе ў склад дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на Парыжскай мірнай канферэнцыі.

З 1945-га ў былым маёнтку мясціўся Дом-інтэрнат для дзяцей-сірот. Сёння там храм іконы Божай Маці «Усіх смуткуючых Радасць».

## Ражанка

здзіўляе касцёлам Святых апосталаў Пятра і Паўла, які быў пабудаваны ці то ў XVII, ці нават у XVI стагоддзі, але сучасны выгляд атрымаў пасля перабудовы 1827 года, у выніку якой касцёл стаў першым неагатычным будынкам на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Менавіта тады галоўны фасад быў абліцаваны бутавым каменнем, у яго цэнтры размясцілася круглае акно ў выглядзе ружы і франтон, упрыгожаны ў сярэдзіне ляпным гербам. Касцёл быў зачынены ў 1960 годзе і пераабсталяваны пад склад ды аптовую краму, у 1989-м вернуты Каталіцкай царкве.

Выгляд мае казачны. Для агляду абавязковы!

## Жалудок

У палацы Святаполк-Чацвярцінскіх, напэўна, усе былі, а хто яшчэ не быў, той лёгка знойдзе пра яго цікавую інфармацыю. Пра яго шмат пісалі, і няма сэнсу паўтарацца.

Палац уражвае. Але да гэтага я была падрыхтаваная, а вось да чаго я падрыхтаваная не была.

Па-першае, калі глянуць на Жалудок зверху, то можна ўбачыць, што сучасны пасёлак стаіць на барочным шкілеце, дзе вуліцы з цэнтра разыходзяцца промнямі ў розныя бакі. ▸


ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Жалудок стаіць на барочным шкілеце**, а найбольш вядомы ў ім кінематаграфічны палац Святаполк-Чацвярцінскіх. Пра Чацвярцінскіх, Жалудок і яго залаты век падрабязней гл. у артыкуле Андрэя Вашкевіча ў № 4/2019 «Нашай гісторыі».

▶ Па-другое, уразіў мяне касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Магутны. Неверагодны. А з якой прамовай выступаў ксёндз! Узнёслай, эмацыйнай, старанна падрыхтаванай. Заслухаліся.

Касцёл быў пабудаваны яшчэ ў 1490 годзе, але сучасны выгляд набыў у 1853-м паводле праекта ўраджэнца вёскі Жырмуны Воранаўскага раёна Караля Падчашынскага — архітэктара і тэарэтыка позняга класіцызму.

## Мураванка

Да нашага часу захаваліся дзве царквы-крэпасці абарончага тыпу: у вёсках Сынкавічы (Зэльвенскі раён) і Мураванка (побач Малое Мажэйкава, таму яе яшчэ называюць Маламажэйкаўскай). Тып адзін, адрозненне каласальнае. Сынкавічы — сапраўдны аб'ект абарончага тыпу. Мураванка — прыгажунька, якая зачароўвае сваімі вытанчанымі лініямі. У 2020 годзе ўрачыста адзначалася 30-годдзе адраджэння храма.

Мураваны храм з'явіўся ў 1524 годзе, будынак быў адноўлены ў першай чвэрці XIX стагоддзя па ініцыятыве расійскага імператара Аляксандра I. Дуэт готыкі і рэнесансу зачароўвае, вачэй не адвесці.

ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Мураванка зачароўвае** сваімі лініямі.

## Старыя Васілішкі

Знаходзяцца ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці, дзе працякае рачулка Лебяда.

Цяпер там дзве галоўныя славутасці: чырвоны касцёл і музей спевака Чэслава Немэна. Мы пачалі з апошняга, бо, калі праязджалі міма, пабачылі, як гаспадар музея выйшаў на вуліцу. Было зразумела, што ён збіраецца зачыніць дзверы ды адправіцца дадому. Гадзіннік паказваў 18.05. Я выскачыла з аўто і папрасіла пусціць нас літаральна на 5 хвілін. Але ж спадар Уладзімір запэўніў, што працуе да апошняга кліента. І гэта быў не жарт.

Старыя Васілішкі здзівілі нават такога дасведчанага турыста, як я, сваёй кліентаарыентаванасцю. Тут пра вандроўнікаў падумалі, якім бы ні выдаўся дзень: спякотным ці дажджлівым. За цану білета вы атрымліваеце экскурсію, а таксама столікі ў цяні дрэваў, мясцовыя вішні, яблыкі, цукеркі, гарачыя напоі ці сцюдзёную ваду, а галоўнае — такую ўсёабдымную ўвагу гаспадароў, што з нязвычкі яна нават пужае☺. І, канешне, слухаеце спевы Немэна.

У Старых Васілішках нам двойчы пашанцавала: а 19-й гадзіне касцёл быў адчынены, бо прымаў чарговую групу турыстаў. Таму і нам удалося разгледзець яго прыгажосць не толькі звонку, але і ўсярэдзіне.

Першы драўляны касцёл у Старых Васілішках быў


ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Чэслаў Немэн**
(сапр. Чэслаў Юліюш Выдрыцкі, 1939–2004), польскі спявак беларускага паходжання.

Нарадзіўся і выгадаваўся ў Старых Васілішках. Вучыўся ў музычнай педагагічнай вучэльні ў Гродне па класе домры. У 1958 годзе разам з бацькамі скарыстаўся магчымасцю выехаць у Польшчу, калі савецкі ўрад дазволіў палякам з СССР «рэпатрыявацца». Жыў у Гданьску, дзе вучыўся ў вышэйшай музычнай школе.

У пачатку 1960-х пачаў выступаць на польскай эстрадзе, набыў вялікую папулярнасць. Тады ж узяў псеўданім Немэн ад ракі Нёман, на якой стаяць Вялікія Васілішкі. Выступаў у жанры рок-музыкі.
Самая вядомая песня — «Дзіўны гэты свет» («Dziwny jest ten świat»).



пабудаваны яшчэ ў 1489 годзе. Дазвол на будаўніцтва сучаснага касцёла Святых апосталаў Пятра і Паўла парафія атрымала ў 1897-м. У будаўніцтве касцёла бралі ўдзел усе парафіяне. Прадзед маёй сяброўкі Тэрэсы таксама вазіў камяні на будаўніцтва, што нават зафіксавана на фота.

Вялікі ўклад у будаўніцтва ўнёс ксёндз-канонік Францішак Сакалоўскі. Пра Сакалоўскага апавядаюць такую гісторыю.

Зайшоў неяк ксёндз Францішак да аднаго заможнага гаспадара, каб прасіць ахвяру на касцёл. У гэты момант гаспадар дома і яшчэ некалькі мужчын сядзелі за сталом і гулялі ў карты на грошы. Калі ксёндз сказаў, з якой мэтай ён прыйшоў, адзін з мужчын падышоў да яго і моцна стукнуў у твар. Ксёндз спакойна сказаў: «Дзякуй, але гэта было для мяне, а цяпер прашу ахвяраваць штонебудзь на касцёл». Усім адказ так спадабаўся, што выйграныя ў карты грошы былі аддадзеныя на патрэбы касцёла.

Будаўніцтва было скончана ў 1904 годзе. Касцёл уяўляе сабой помнік архітэктуры неаготыкі.



ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

Унутры храма **ў Старых Васілішках.**

Храм-карабель ганарліва ідзе пад распушчанымі ветразямі дзвюх трох’ярусных вежаў. Палымяная чырвоная цэгла змяняецца ў інтэр’еры светлай тынкоўкай. Унутраная прастора храма — адзіны ансамбль, дзе архітэктура, скульптура, жывапіс, разьба па дрэве, чаканка, вітраж сышліся ў сваім імкненні матэрыялізаваць хрысціянскую ідэю. На мяне вялікае ўражанне зрабілі аконныя вітражы і, канешне, капліцагрот. Капліца ў левым нефе ўпрыгожаная неверагоднымі формамі з гіпсу і ўяўляе сабою выдатны твор мадэрну.

З 1958 года парафія ў Старых Васілішках на 30 гадоў засталася без ксяндза. Улады хацелі забраць ключы ад касцёла, але парафіяне пакінулі іх у сябе. Заходзіць у касцёл было нельга, таму людзі маліліся перад зачыненымі дзвярыма, дзе ўстанавілі мініяцюрны алтар. Урачыстасць Святых апосталаў Пятра і Паўла людзі таемна адпраўлялі ноччу, без святла... Стаіш увечары перад храмам і ўяўляеш тыя часы і тых людзей... ◆





ФОТА ЮЛІІ УЛАДЗІМІРСКАЙ

**Уладзімір Сянюта з любоўю апякуецца музеем Чэслава Немэна** ў Старых Васілішках, непаўторная атмасфера.

У 2020 годзе рэканструктары прайшлі **па Дзвіне на дракары ад Полацка да Лявонпаля ў Мёрскім раёне і назад.**

INITIATIVE-POLOTSK.BY

# Да Рыгі і назад

## Беларускі транзіт і паўтысячы гадоў таму ішоў праз балтыйскія парты

**У кожным падручніку напісана, што беларускія землі спрадвеку ляжалі на перасячэнні гандлёвых шляхоў. І гэта чыстая праўда. Але як гэтыя шляхі даўней выглядалі, чым на іх гандлявалі і як гэта ўплывала на рассяленне і заняткі нашых продкаў? Пра тое, як гэта было на самым паўночным з гэтых шляхоў, Дзвінскім, у XVI–XVII стагоддзях, расказвае кандыдат гістарычных навук Віктар Якубаў.**

У старажытнасці перад кепскімі сухапутнымі дарогамі, якія і ўвогуле не заўсёды былі, купцы і падарожнікі адназначна аддавалі перавагу водным шляхам. Чоўны і плыты ламаліся куды радзей, чым колы і восі вазоў, што было асабліва важна для транспартавання цяжкіх і аб'ёмных грузаў. Да таго ж, у адрозненне ад сухапутных вандровак, на вадзе трэба было карміць толькі каманду, а адпачываць падарожнікі маглі і не сыходзячы на бераг, працягваючы пры гэтым плыць. Усё гэта значна паскарала перасоўванне і змяншала выдаткі.

Старажытны Полацк стаяў на дзвінскім адгалінаванні шляху «з варагу грэкі». У 1223 годзе палачане, віцябляне і смаляне заключылі мір з крыжакамі, па ўмовах якога страцілі магчымасць хадзіць па вадзе далей за Рыгу. Рыга і Полацк сталі *штапельнымі** партамі дзвінскага гандлю. Гэта азначала, што палачане і віцябляне абавязваліся разгружаць і прадаваць свае тавары ў Рызе, а немцы — у Полацку. Падобныя правілы дзейнічалі і на нёманскім ды бугска-віслянскім кірунках гандлю, толькі што гарады былі іншыя.



WIKIMEDIA COMMONS

**На гербе Полацка —** трохмачтавы карабель.

### Перасолы і госці

Купцы паводле маштабаў і кірунку дзейнасці дзяліліся

* **Штапельнае права** (*Stapelrecht*) — права, якое вымушала замежных купцоў выгружаць і раскладаць свае тавары на пэўны час толькі ў акрэсленым пункце і прапаноўваць іх для куплі мясцовым жыхарам.

**Шлях з варагаў у грэкі**
асноўны міжнародны гандлёвы шлях Старажытнай Русі, які злучаў паўночную Русь з паўднёвай, а Прыбалтыку і Скандынавію з Візантыяй. Меў два асноўныя адгалінаванні: 1) з Балтыйскага мора ў Дзвіну, а з яе некалькімі волакамі ў Дняпро ці Бярэзіну; 2) з Балтыйскага мора па Няве ў Ладажскае возера, затым па рацэ Волхаў у Ільменскае возера, далей па рацэ Ловаць і адтуль ужо волакам у Дняпро. Першае адгалінаванне мела вялікае значэнне для гаспадарчага жыцця сярэднявечнай Беларусі.

на розныя катэгорыі. Адныя з іх, якія зваліся *перасоламі, прасоламі* і *шкотамі*, закуплялі тавары па ўсім рэгіёне і звозілі іх у буйныя гарады, а купцы-*госці* сплаўлялі аптовыя партыі гэтых тавараў да марскіх партоў: Караляўца (Кёнігсберга), Мемеля (Клайпеды) ці Данцыга (Гданьска). Тавары разгружаліся на склады-штапелі мясцовым немцам, а ўжо тыя перапрадавалі іх далей, на караблі іншых купцоў-ганзейцаў або галандцаў ці скандынаваў.

Нашы ж землякі ў штапельных партах загружаліся еўрапейскімі таварамі і везлі іх уверх па рэках на радзіму. А тут ужо «прасолы» і «шкоты» прымалі ў «гасцей» гэтыя тавары і развозілі іх з рачных партоў па ваколіцах. Такая ў асноўным была схема нашага замежнага гандлю і яго лагістыка да з'яўлення ў XIX стагоддзі чыгункі.

### Стругі

Для сплаву і пад'ёму купецкіх тавараў і прадукцыі шляхецкіх фальваркаў па рэках наймаліся караблі (стругі) з камандай: *сходнікамі* (грузчыкамі), *малайцамі/карэннымі* (веслярамі і стырноўшчыкамі) ды *кармнікамі/коршчыкамі* (лоцманамі).

Па звестках віцебскага гісторыка і краязнаўца Аляксея Сапунова, яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя існавалі вялікія баржы з камандай у 30 чалавек, якія сплаўляліся да Рыгі і там разбіраліся. Але найбольш распаўсюджаным тыпам рачных стругоў была невялікая аднаветразевая «якіманка» з 6–8 веслярамі. Яна дамінавала на Дзвіне амаль тысячагоддзе.

## У полацкім задзвінскім пасадзе Экімань выраблялі і рамантавалі караблі-якіманкі

У полацкім задзвінскім пасадзе Экімань, як і па іншых прырэчных паселішчах, рабілі і рамантавалі



**Двухветразевы струг.**

якіманкі і іншыя тыпы стругоў, слалі сходы і прычалы, дапамагалі перавальваць караблі цераз парогі, кармілі вандроўнікаў і давалі ім начлег.

Як сцвярджаюць весляры полацкага рэканструктарскага дракара «Рубон», максімальны сплаў карабля на вёслах па плыні вялікай ракі за дзень складае каля 40 км. Па малой рэчцы хуткасць наўрад ці магла перавышаць тую, якую маюць сучасныя байдаркі — каля 15 міляў (25 км) у дзень. Калі караблі ішлі гружаныя ці супраць плыні на вёслах, тады іх дзённы пераход складаў не больш за 20 км. Ветразі палягчалі шлях не толькі ўніз, але і ўверх па рэках. ▶



**Дракар «Рубон».**

## ▸ Цераз парогі

Плыць з Полацка да Рыгі было не так проста. Не было таго, што, вывеўшы караблі на Дзвіну, можна было за плынню без перашкод дабрацца аж да самага Балтыйскага мора. Шлях купцам нярэдка перакрывалі ўчасткі, непрыдатныя для навігацыі вялікіх суднаў — *парогі*. Іх размяшчэнне па рацэ было нераўнамерным, і гэты фактар мусіў улічвацца пры планаванні графіку руху па рацэ: працягласці дзённых пераходаў, лакалізацыі прыпынкаў для адпачынку і начлегаў і г. д.

У сярэдняй плыні Дзвіны, у Полацкім павеце, існавалі толькі два парогі — Дзетвілы і Дзісенскі. Пасля Дзісны да Друі былі яшчэ два — Пясчаная Каса і Мелізна, а ад Друі да Краславы — ажно 8, згрупаваных у 3 калены: Красналука, Базыліха і Талкачоўка. Ад Краславы да Дынабурга (цяперашняга Даўгаўпілса) — яшчэ 14, а адтуль да Крыжборга (цяперашні Крустпілс) — 6.

**Парогі** — кароткія мелкаводныя камяністыя або скалістыя ўчасткі ракі з адносна вялікім падзеннем узроўню вады і падвышанай хуткасцю цячэння. Парогі ўтвараюцца звычайна ў месцах выхаду на паверхню горных парод, якія цяжка размываюцца.

Калі браць за модуль дзённага праходу ўніз па рацэ ў залежнасці ад надвор'я, тыпу судна, колькасці весляроў, тыпу ветразяў і неабходнасць перапынкаў на адпачынак кожныя 20–40 км, то атрымліваем, што пры вандроўцы па Дзвіне з Полацка першым прыпынкам мела быць Дзісна. Яна знаходзіцца за 40 км ад Полацка, тут на рацэ ёсць парог, а мытная камора існавала яшчэ з часоў Сярэднявечча. Разам з тым ёсць сведчанні, што з-за хуткасці плыні па шляху ў Рыгу купцы маглі тут і не спыняцца, праскоквалі, але калі ішлі назад, то прыпынак у мытнай каморы на востраве быў абавязковым.

Другая начоўка была ў Дрысе (сучасны Верхнядзвінск) яшчэ праз 40 км, трэці пераход — праз Друю (каля 40 км) да Краславы (60 км), чацвёрты — праз Дынабург (цяперашні Даўгаўпілс) (45 км) да Герцыке (Ерсіка) (40 км). Паколькі парогаў на гэтым участку няма, то па рацэ можна было спускацца і без перапынку на ноч. Пяты прыпынак — Крыжборгскія парогі (Крустпілс — Екабпілс, 40 км ад Герцыке) і Зельборкскія броды, шосты — Кукейнос (Кокнесе) за 40 км ад Екабпілса, сёмы — за якім праз 50 км скала і перакаты за Ленэвардэн (цяперашні Ліелвардэ). Восьмы і апошні пераход быў ад Ленэвардэна да Рыгі (40 км).


ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА, DEPOSITPHOTOS.COM

**Сафійскі сабор у Полацку** стаіць на правым — высокім — беразе Дзвіны.


POEHALI.NET

Парогі на Дзвіне.

Такім чынам, у дасведчаных спадчынных кормнікаў і малайцоў, узброеных вёсламі і жардзяжжам, сплаў па Дзвіне да Рыгі мог складаць прыкладна тыдзень. У плытагонаў шлях быў хутчэйшы, бо яны на ноч не спыняліся. Пад'ём жа супраць плыні займаў у два-тры разы больш часу. Гэта пацвярджаюць запісы Полацкай мытні 1616 года, паводле якіх зварот стругоў з Полацка да Рыгі і назад складаў каля месяца.

Валачэнне стругоў супраць плыні і на парогах на невялікія адлегласці выконвалася «сходнікамі» і «малайцамі» пры дапамозе мясцовага насельніцтва.

## Кадэты на яхце

**Больш працяглы, аматарскі варыянт гэтага шляху быў зафіксаваны ў 1901 годзе, калі спуск полацкіх кадэтаў на яхце да Рыгі заняў з экскурсіямі 20 дзён. Праца малойцаў і сходнікаў заўсёды была цяжкай, таму мясцовыя жыхары тады здзіўляліся, за што ж афіцэр так пакараў дзетак-кадэтаў.**

Але большасць шляху стругі ішлі на ветразях і вёслах. Левы, «літоўскі», бераг Дзвіны нізкі, правы, «рускі» — высокі і стромкі, пад ім большая глыбіня. Плыты і стругі ішлі ўніз па плыні бліжэй да «рускага» боку, а пасля плыты і баржы заставаліся ў Рызе, стругі ж вярталіся па «літоўскім» баку.

### Экспарт і імпарт

Заходняя Еўропа пачынаючы з XV–XVI стагоддзяў ваявала і каланізавала свет. Таму ёй востра патрабавалася сыравіна, за якую еўрапейцы маглі плаціць добрыя грошы. Экспарт сельскагаспадарчай і лясной прадукцыі з ВКЛ у XVI–XVII стагоддзях у некалькі разоў перавышаў імпарт тавараў з Еўропы.

Паводле звестак полацкай мытнай каморы за 1616 год, з Беларусі экспартавалі рагожы, пяньку і паклю (на канаты і ветразі), канаплянае семя, гарэлку (бочкамі 200–400 квартаў), попел, воск, лён, мыла, футры, дубовыя клёпкі на бочкі (ванчос) і донцы (тарчыцы). Вясной да стругаў чапляліся плавіцы (гружаныя плыты), а ў жніўні — верасні да экспартных тавараў дадаваліся скуры і футры (кароў, ласёў, коней, падцёлкаў, казлоў). У вілейска-нёманскім і бугскім гандлі большую долю мелі збожжавыя культуры. Іх штапелем быў Данцыг, які спецыялізаваўся ў еўрапейскім гандлі на пастаўках збожжа.



**Ад Полацка да Рыгі** сплаўляліся за тыдзень.

INITIATIVE-POLOTSK.BY

У імпарце з Рыгі ўглыб кантынента выразна пераважалі соль і селядцы. Іх вёз дадому кожны гандляр. Далей па папулярнасці ішлі разынкі, фігі, воцат, віно (французскае, італьянскае, мальвазія), пітны мёд, радзей піва. Соль была асновай тагачаснай кансервацыі, воцат — медыцыны, селядцы — фастфудам. Яшчэ ў часы канцлера Льва Сапегі нашы продкі ведалі і ўжывалі спецыі і экзатычную садавіну: аніс, перац (ядрамі і пукамі), міндаль, цынамон, мускат, цукар, грэцкія арэхі, аліўкавы алей, апельсіны, лімоны, рыс.

З нехарчовых тавараў масава ўвозілі шкло, жалеза, волава, свінец, сукно, восу (распушчаныя і пасечаныя на кавалкі рэшткі старога пяньковага такелажу для свечкавых кнатоў), паясы і паперу.

Пад будучыя пастаўкі немцы выдавалі нашым панам і мяшчанам крэдыты. А таксама складалі замовы, якія фармавалі спецыялізацыю вытворчасці. У пачатку XVII стагоддзя ў балтыйскім гандлі рыжскі порт спецыялізаваўся на перапродажы ў Еўропу лясных тавараў (мачты, паташ, клёпкі). Найбуйнейшыя партыі дрэва пастаўлялі ўласнікі і трымальнікі пушчаў ды фальваркаў — падзвінская шляхта і магнаты: Сапегі, Гасеўскія, князі Друцкія і іншыя.

Грошы ад атрыманых пры дапамозе замежнага гандлю прыбыткаў дазволілі панам будаваць палацы і фальваркі і матывавалі іх да атрымання ►



INITIATIVE-POLOTSK.BY

**Нашы продкі экспартавалі лён і каноплі** — яны былі запатрабаваныя для вырабу ветразяў і канатаў. Таксама ў Еўропу везлі збожжа, з Еўропы — соль і селядцы.

**Дзвіна-Даўгава ў Рызе** шырачэзная.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY INNERVISION

дармовай працоўнай сілы, тобок да запрыгоньвання сялян. Але дыктаваць свае ўмовы на міжнароднай арэне не надта ўдавалася. Калі паслы ад караля Жыгімонта Вазы ў 1597 годзе паспрабавалі схіліць галандцаў і англічан да некаторых саступак на сваю карысць, шантажуючы спыненнем гандлю, тыя адказалі: «Мы гаспадары сваіх грошай, а вы — свайго тавару». Так першая з вядомых спробаў нашых антыеўрапейскіх санкцый скончылася, нават не пачаўшыся.

## Гарады і замкі

З часоў Полацкага княства на месцы ўпадзення ў Дзвіну яе прытокаў для збору падаткаў і вайсковага кантролю над наваколлем ствараліся замкі. Па левым баку на захад ад Полацка ў XIII—XVI стагоддзях гэта былі Ушач (Капец-Гарадок, Палюдавічы), Дзісна, Вята, Друя, якія вайскова-стратэгічна падтрымлівалі Браслаў і сам Полацк. Вята і Ушач, як і эканамічная моц Полацка, былі знішчаныя Іванам Жахлівым падчас Інфлянцкай вайны. Альгердавы замкі доўга дазвалялі Віцебску адбівацца ад маскоўскіх нападаў і дзякуючы гэтаму абысці Полацк у памерах рачнога флоту і гандлю.

Акрамя вайскова-палітычных прычын, прычынай узнікнення гарадоў па берагах рэк былі магчымасці працяглых пераходаў па іх. Яны залежалі не толькі ад кіламетражу, але ад складанасці навігацыі — наяўнасці водмеляў і парогаў. Дзеля іх пераходу трэба было запавольвацца, а тое і перацягваць (пераналочваць) караблі па зямлі. Час ад часу стругі разбіваліся, а мясцовыя жыхары з гэтага жывіліся. Для недапушчэння бандытызму яшчэ полацкія князі ставілі гарнізоны на гэтых небяспечных месцах і праводзілі збор падаткаў на іх утрыманне. Мясцовыя ж жыхары забяспечвалі харчаванне, дапамагалі валачэннем і давалі кармнікаў для праходу парогаў і меляў.



THELEIDENCOLLECTION.COM

**Гандлярка селядцамі.** Карціна Герыта Доу. 1664 год.

## Масты і дарогі

Патрэбы абыходу складаных участкаў і неабходнасць падымаць грузы супраць плыні, асабліва ў непагадзь, прыводзілі да развіцця ўзбярэжных дарог. Ужо ў 1557 годзе ад Рыгі да Зэльбарка абапал Дзвіны былі добрыя дарогі. У ВКЛ правы, «рускі», бок Дзвіны меў толькі кепскую, затое левы, «літоўскі» — добрую дарогу ад Друі аж да Бярозы (Бешанковічаў) з мастамі над усімі ручаямі і рэчкамі.

На Уле і Бярозцы быў другі па папулярнасці пасля Віцебска выхад у Дзвіну для пераваткі дняпроўскіх тавараў.

Па Дзісне і Друйцы ішоў асноўны сплаў на Рыгу з поўначы Віленскага ваяводства.

Па Віліі, пратоках Нарачанскіх азёраў і Дзісне пралягаў стратэгічны батарыянскі шлях з Вільні на Полацк. У 1579 годзе і пазней па ім войска з цяжкой артылерыяй хадзіла абараняць поўнач і ўсход ВКЛ.

Стратэгічныя пераправы цераз Дзвіну былі на мастах і водмелях у Віцебску, Бешанковічах, Полацку, Дзісне, Друі, Дынабургу, Зэльбарку і Рызе.

Важнымі для ўсесезоннасці камунікацыі былі і масты над прытокамі Дзвіны.



RAILWAIZ.INFO

У Талачынскім раёне ёсць вёска Пераваланая і чыгуначны прыпынак пры ёй. **Але яна спрадвеку звалася Пярэвалачняй**: тут перацягвалі (валачылі) стругі з рэчак Друці і Крывой ва Усвейку і далей у Дзвіну.

Як бачым, Дзвіна спрадвеку давала працу, грошы і спрыяла тэхналагічнай ды культурнай сувязі беларускіх земляў з Еўропай. Неабходнасць у задавальненні патрэбаў і бяспекі вандроўнікаў прывяла да стварэння яшчэ ў Сярэднявеччы паселішчаў на адлегласці дзённых пераходаў і добрых дарог на дзвінскіх берагах. Трывалая эканамічная і культурная сувязь падзвінскіх і падняпроўскіх земляў стала асновай для стварэння рэгіёна, які з XVII стагоддзя стаў вядомы пад назвай Белая Русь. ◆



INITIATIVE-POLOTSK.BY

**Вярталіся супраць плыні** уздоўж нізкага, «літоўскага», берага.




**Баркун, Любоў. Гісторыя дзеткам** / Малюнкі В. Вікторчык. – Мінск: Тэхналогія, 2021. — 20 с.



Сшытак з заданнямі для малодшых школьнікаў. Уяві, што ты і твая сям'я жывяце ў першабытны перыяд. Як бы вы выглядалі? Расшыфруй рэбусы і даведайся імёны першых князёў. Дамалюй пояс Вітаўта і знайдзі зброю на полі Грунвальдскай бітвы.

У сшытку ёсць гульня і самаробка, дзве карты, каб арыентавацца ў месцах, а таксама стужка часу з самымі значнымі гістарычнымі падзеямі. Выданне забаўляе, развівае густ, логіку, маторыку і дае базавыя веды па гісторыі і культуры Беларусі.



Набыць кнігу можна ў інтэрнэт-крамах **tn.by, knihi.by, kniger.by, kniganosha.by**, а таксама ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) .

# «Цвітуць на ўзлеску верасы...»

## Сімвал беларускай восені

**Пра яшчэ адну расліну, якая стала адным з вядомых брэндаў нашай краіны не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Мабыць, самы старажытны з міфаў, дзе згадваецца верас, — егіпецкі. Цела падступна забітага малодшым братам, Сетам, бога Асірыса ў саркафагу марской плынню вынесла да горада Бібла (на тэрыторыі цяперашняга Лівана), дзе куст верасу абхапіў яго сваімі галінамі і схаваў у сваім ствале. Цару Бібла спадабаўся прамы і гладкі ствол, і ён загадаў ссячы дрэва, каб зрабіць з яго калону для падтрымкі даху свайго палаца. Але ўдава Асірыса Ісіда даведалася, дзе знаходзіцца труна, пасля чаго ёй удалося выпрасіць калону ў цара і вывезці яе ў Егіпет.

Цяжка ўявіць верас настолькі вялікім. Відаць, у гэтым старажытным міфе хаваецца нейкая незразумелая нам метафара. А вось рэальны верас, які мы ведаем, — невысокі куст. Дакладней, кусты, бо пад гэтым іменем у беларускай культуры вядомы і звычайны верас (*Callúna vulgáris*), і некалькі відаў ягоных «стрыечных братоў» з роду *Erica*. Яны часта растуць разам, утвараючы верасовыя пусткі.

### Прыкмета восені

Верас — адна з нямногіх раслін, якая заслужыла права «адкрыта» даць сваю назву каляндарнаму месяцу ў беларускай (*верасень*), польскай (*wrzesień*), украінскай (*вересень*) мовах. І гэта трохі нечакана, бо верас не мае важнага гаспадарчага значэння і нейкіх яскравых міфалагічных

Верасы каля Юркавіч у Лагойскім раёне.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

> Верасы, верасы зацвілі на світанку,
> Нібы слёзы, раскіданы кроплі расы.
> Я па лесе блукаю ад самага ранку —
> Пазбаўляюць спакою мяне верасы!
>
> *Раіса Баравікова*

асацыяцый, прынамсі, у нашай сённяшняй або даступнай даследаванню народнай культуры. Можа, нашых продкаў некалі ўразіла трывожная прыгажосць верасня, у якой ужо адчуваецца подых будучых халадоў?

Разнаквецце верасоў — яскравая прыкмета восені. Лісце гэтага невысокага хмызняку можа быць срэбным, жоўтым, зялёным, карычневым, чырвоным, а кветкі — белымі, ружовымі, ліловымі, малінавымі, вішнёвымі і іншых колераў. Найлепш верас расце на верхавых балотах, якія да меліярацыі складалі ладную частку тэрыторыі Беларусі. Так што даўней і сапраўды верас падчас квітнення, з канца лета і часам да канца лістапада, быў вельмі прыкметнай часткай беларускага пейзажу.

## Ад шчасця да няшчасця

Сімвалічнае значэнне верасу больш надаюць заходнееўрапейскія народы. У кельцкай культуры гэта расліна з пераважна пазітыўным значэннем, яна абяцае каханне і шчасце. Галінка верасу пад падушкай нібыта рабіла сны прарочымі (ёсць версія, што незвычайныя сны выклікалі непрыкметныя галюцынагенныя грыбкі, якія паразітуюць на верасе). У Ірландыі верасовым дымам абкурвалі дамы і жывёлу, баронячы іх ад злых духаў. А ў Шатландыі верас шырока распаўсюджаны ў дэкоры дому для шлюбу (пры гэтым асабліва цэніцца белы). Нявесты там часта дадаюць белы верас у вясельныя букеты або прышпільваюць да валасоў — у знак намеру захаваць вернасць і пражыць доўгае і шчаслівае сямейнае жыццё.

Дарэчы, і ў Беларусі з верасу часам рабілі гэтак званае «вясельнае дрэўца» — важны атрыбут абраду г.зв. «дзявочага вечара», хоць часцей для гэтага выкарыстоўваліся галінкі хвойных дрэў.

Старадаўняя шатландская легенда апавядае, што верас быў адзінай раслінай, якая «пагадзілася» з Божай прапановай расці на скалістых пагорках. І за гэтую пакору атрымала дар незвычайнай цярплівасці, непатрабавальнасці і непаўторную розначаляровую прыгажосць. Верас — нефармальны сімвал Шатландыі, прысутнасць якога ў мясцовай культуры вельмі прыкметная. У старыя часы з расліны рабілі жоўтую фарбу для знакамітай тканіны «шатландкі», з якой шылі нацыянальнае адзенне і, паводле апрацаванай Робертам Льюісам Стывенсанам легенды, выкарыстоўвалі для прыгатавання верасовага мёду (элю), рэцэпт якога страчаны назаўжды.

А вось у германскіх народаў верас мае сімвалізм змрочны. Ён асацыюецца з беднасцю і нешчаслівым лёсам, а прынесены ў дом — здольны наклікаць бяду. Уключыць яго ў букет, які збіраешся падарыць, — гэта абраза, дэманстратыўны намер сурокаў. А калі і высаджваць ►

### Верас звычайны

шматгадовая вечназялёная галінастая куставая ці кусцікавая расліна вышынёю да 1 м. Расце на пясчаных мясцінах у хваёвых барах, на высечках, выгарынах, пустках, тарфяніках, утварае вялікія зараснікі — верасоўнікі.

Гістарычная радзіма верасу — Паўднёва-Усходняя Азія, але цяпер ён пашыраны таксама ў Еўропе, Заходняй Азіі, Паўночнай Афрыцы і на атлантычным узбярэжжы Амерыкі. З'яўляецца афіцыйным раслінным сімвалам адной з паўднёвых правінцый Швецыі — Вёстэргётланда.

Лісце ў верасу дробнае, лускападобнае, размешчана накшталт чарапіцы ў 4 рады. Кветкі дробныя, двухполыя, званочкавыя, у аднабокіх гронках. Плод — пушыстая чатырохгранная каробачка. Размнажаецца пераважна насеннем, але можа і парасткамі. Дзеля дэкаратыўных мэтаў культывуецца і як садовая расліна.





SILHOUETTEDONNA.IT

## Верасовы мёд

Верас — выдатны меданос. Вельмі папулярны ў познім СССР беларускі вакальна-інструментальны ансамбль «Верасы» нагадваў пра гэта ў песні «Белая Вежа»:

*А навокал вежы — як акінуць вокам —*
*Пушчы, белавежскія лясы.*
*Край ты мой любімы, родная старонка,*
*Подыхам мядовым пахнуць верасы.*

Верасовы мёд вельмі цэніцца ў сапраўдных знаўцаў, часам яго нават называюць «каралём мядоў». Ён мае высокае ўтрыманне рэчываў, неабходных для сінтэзу ферментаў, жыццёва неабходных амінакіслот, а таксама марганцу і іншых мікраэлементаў. Лічыцца, што такі мёд спрыяе загойванню ран і аптымізацыі працэсаў метабалізму.

Такі мёд мае своеасаблівыя смак і кансістэнцыю. І прытым ён амаль не салодкі. А таксама мае незвычайную ўласцівасць, у навуцы называную «тыксатрапія»: вельмі лёгка застывае ў стане спакою, але гэтаксама лёгка робіцца плынным нават ад лёгкага штуршка. Гэта ўскладняе здабыванне мёду з сотаў, і таму верасовы мёд часта так, у сотах, і прадаюць.

У Беларусі такі мёд папулярызуе, у прыватнасці, прадпрыемства «Мядовы шлях» з Парэчча (Гродзенскі раён), і нават сцвярджаецца, што ён можа стаць брэндам гэтага паселішча.

Не варта блытаць верасовы мёд, які носіцца пчоламі, з тым верасовым мёдам, рэцэпт якога шатландскі кароль марна намагаўся здабыць ад зваяваных медавараў у баладзе Стывенсана. Там гаворка вялася, вядома, пра пітны мёд (эль), пра які пісалася ў № 1/2019 «Нашай гісторыі».

▶ верас — то найлепш на магіле. Але, нягледзячы на гэта, менавіта верас з'яўляецца адной з дзвюх раслінаў-сімвалаў Нарвегіі.

Прыкладна гэтак жа ўспрымаўся верас у Польшчы і ў Літве. Прынамсі, у даўняй шляхецкай Літве. На парослых верасам балотах, маўляў, водзяцца чэрці, а сама расліна, магчыма, служыць жытлом для непрыкаяных душаў, якія захраслі паміж нашым і тым светам. І прарочыць жывым слёзы і расстанні. Таму дымам верасу дзенідзе абкурвалі магілкі на Дзяды.

Змрочны, вусцішны сімвалізм верасовых пустак перадаў Уладзімір Караткевіч у «Дзікім паляванні караля Стаха». Магчыма, ён пераняў яго з замежнай літаратуры, бо ў славутым рамане англійскай пісьменніцы Эмілі Бронтэ «Навальнічны перавал» верасовыя пусткі Ёркшыра таксама служаць фонам для падобных падзей.

**Верасовы мёд вельмі цэніцца, яго называюць «каралём мядоў»**

Дзе-нідзе ў Польшчы і Украіне верасовы вянок дарылі ў знак заканчэння рамантычных адносін. Такое ж значэнне — безнадзейнасці і самоты — верас у пару цвіцення мае ў некалі папулярнай польскай эстраднай песні «Ліловы верас», якую выконвала ўраджэнка Вільні Рэгіна Бельская (1926–2018).



### Сімвал роднага краю

У беларускай паэзіі, у адрозненне ад «Дзікага палявання», верас звычайна нясе толькі пазітыўныя асацыяцыі.

Вядомая літаратарка, дзеячка беларускага руху часоў БНР і знаўца батанікі Людвіка Сівіцкая-Войцік (1892–1991) увайшла ў гісторыю айчыннай культуры пад псеўданімам Зоська Верас. І адзін са сваіх вершаў прысвяціла гэтай расліне:

Цвітуць на ўзлеску верасы
Пяшчотным колерам ліловым.
Змаўкаюць птушак галасы,
Губляюць першы ліст дубровы.
Як промні сонейка зальюць
Апошняй цеплынёй паляны, —
Тут пчолы рупныя снуюць
І звон плыве іх несціханы.

Апошні верасовы мёд
Пчалу паклікаў у палёт.

Уладзімір Дубоўка, які параўнаў Беларусь з шыпшынай (гл. пра гэту расліну артыкул у № 8/2021 «Нашай гісторыі»), напісаў таксама верш «Ты ляжыш на руцэ маёй, верас», дзе развіваецца той жа матыў. Сціплы верас выступае як яшчэ адзін сімвал роднага краю і ягонай долі.

Ты ляжыш на руцэ маёй, верас,
найдрабнейшая з кветак.
Я пытаўся, пытаю яшчэ раз:
чым ты вабіш нас гэтак?
Ледзь прыкметны для нашага вока,
быццам зернейка маку.
Ад зямлі не расцеш ты высока,
цябе топча ўсякі.
А калі расцвіцеш на ўзлессі,
закрасуеш у пушчы, —
харaством ты тады апранешся
сапраўды неўмірушчым.
Найдрабнейшыя кветкі складаюць
харaство у кілімы.
Наша доля хіба не такая?
Скажы, верас любімы!
Ты ляжыш у мяне на далоні,
найдрабнейшая з кветак.
Я пытаю, пытаю сягоння:
чым ты вабіш нас гэтак?

## Дзікае паляванне на верасовых пустках

…Але яшчэ і зараз я часам бачу ў сне сівыя верасовыя пусткі, чэзлую траву на паверхні прорваў і дзікае паляванне караля Стаха, якое скача па дрыгве. Не бразгаюць цуглі, моўчкі сядзяць у сёдлах прамыя постаці коннікаў. Вецер развейвае іх валасы, плашчы, грывы коней, і самотная гострая зорка гарыць над іхнімі галовамі.

У жахлівым маўчанні шалёна скача над зямлёю дзікае паляванне караля Стаха. Я прачынаюся і думаю, што не прайшоў ягоны час, пакуль ёсць цемра, голад, нераўнапраўе і цёмныя жах на зямлі. Яно — сімвал усяго гэтага…

Уладзімір Караткевіч.
«Дзікае паляванне караля Стаха»

WIKIMEDIA COMMONS



KP.BY

**Зоська Верас** у ролі Ганкі ў п'есе «Модны шляхцюк». 1910 год.

## Лечыць і ўпрыгожвае

Верас здаўна вядомы як лекавая расліна. Нашы продкі пілі з верасу гарбату, лячылі рэўматызм, поліартрыт, бяссонніцу, пілі адвар, калі балелі страўнік, пячонка ці ныркі. Настойкай з верасу лечаць туберкулёз лёгкіх, ацёкі на нагах, а таксама сардэчныя і ныpачныя захворванні. Адварам верасу прамываюць раны і выкарыстоўваюць для ваннаў пры рэўматызме. Часам пры лекаванні ранаў, апёкаў і іншых захворванняў скуры прымяняюць парашок з высушанага верасу, якім пасыпаюць раны.

Па-за гэтым уласна выкарыстанне верасу ў гаспадарцы нязначнае. Хоць вядома, што ў Заходняй Еўропе з яго традыцыйна рабілі венікі ▶

## Верас як брэнд

Вобраз верасу ў Беларусі здаўна выкарыстоўваецца як пэўны брэнд, бадай што не саступаючы ў гэтым плане чабору, пра які ішла гаворка ў № 8/2019 «Нашай гісторыі».

Найбольш вядомы з гэтых брэндаў — вакальна-інструментальны ансамбль «Верасы», які з пачатку 1970-х па-сапраўднаму грымеў не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім СССР, нароўні з іншымі славутымі калектывамі: «Песнярамі» і «Сябрамі». Дзякуючы ў тым ліку і яму далёка за межамі БССР рабіліся вядомымі і папулярнымі песні на беларускай мове.



**Песня «Першае спатканне»** (словы Генадзя Бураўкіна, музыка Васіля Раінчыка) у выкананні салістаў ансамбля «Верасы» Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча на ўсесаюзным тэлефестывалі «Песня-85».

Акрамя таго, у Беларусі ёсць даўняя традыцыя даваць назвы «Верас» ці «Верасок» розным установам: санаторыям, аздараўленчым лагерам, цырульням, кавярням, барам, рэстаранам, крамам, гандлёвым і вытворчым прадпрыемствам і г. д. Такіх аб'ектаў сапраўды безліч, і іх можна сустрэць у любым кутку Беларусі.

Падобны брэнд выкарыстоўваецца для прэзентацыі беларускага і па-за межамі нашай краіны. Так, назву «Верас» мае гандлёвая сетка на поўдні Расіі, якая спецыялізуецца на пастаўцы і рэалізацыі харчовых прадуктаў, выробленых у Беларусі. Яна мае больш за 30 пунктаў на тэрыторыі Краснадарскага і Стаўрапольскага краёў, а таксама Растоўскай вобласці.

У той жа час сусветна вядомы абутковы брэнд *Veras*, нягледзячы на падабенства назвы, ні да Беларусі, ні нават увогуле да верасу ніякага дачынення не мае. Яго назва паходзіць ад вёскі ў Іспаніі.




для падмятання жытла. Яшчэ ў 1834 годзе ў Вільні выйшла кніга Каэтана Красоўскага «Спосаб узвядзення гаспадарчых будынкаў з верасу і гліны», у якой прапагандаваўся спосаб таннай пабудовы будынкаў гаспадарчага прызначэння з саману, зробленага з сумесі гліны і верасовага галля. Але цяжка сказаць, ці атрымаў ён у той час шырокае выкарыстанне. Калі раптам хто зацікавіцца — можа паспрабаваць адрадзіць старую тэхналогію.

Ну і, вядома, верас цяпер шырока выкарыстоўваецца ў дэкаратыўным садоўніцтве. Прыгожыя і разнастайныя інтэнсіўныя колеры кветак ідэальна кантрастуюць з іншымі зялёнымі раслінамі. Дзякуючы верасовым акцэнтам сад набывае непаўторны характар. Верас выдатна падыходзіць для вылучэння іншых раслін або сцяжынак, але таксама і як элемент кампазіцыі ў кошыках або вазонах.

### Знак вечнага расстання

У польскай культуры шырока вядомая класічная аповесць пісьменніцы Марыі Радзевічаўны (якая жыла якраз на тэрыторыі Заходняй Беларусі) «Верас» (1903) і аднайменны фільм на яе аснове 1938 года. Іх можна лічыць мастацкім асэнсаваннем у тым ліку і беларускага кантэксту эпохі пазітывізму.

Паводле сюжэту, героі аповесці Анджэй і Кася заключаюць шлюб па разліку, не маючы ніякіх узаемных сімпатый. Кася кахае былога паўстанца Стаха, які згубіўся недзе ў сібірскай ссылцы, а эгаістычны Анджэй даўно мае каханку Цэліну, з якой не збіраецца развітвацца. Яны заключаюць пагадненне, каб жыць хто як хоча, не ўмешвацца ў справы адно аднаго.

З цягам часу, аднак, Анджэй пачынае адчуваць да сціплай, працавітай і, як высвятляецца, прыгожай Касі невытлумачальную сімпатыю. У той час, як ён жыве толькі для сябе, яна прысвячае жыццё клопатам пра бедных і хворых. Пакуль нарэшце не памірае ад цяжкой хваробы ў той самы момант, калі ён, здаецца, па-сапраўднаму пакахаў яе. На магілкі ён нясе ёй сціплы букет з верасоў — у знак вечнага расстання, а магчыма, і як сімвал яе ўласнай някідкай прыгажосці...



**Польскі фільм «Верас»** 1938 года.

# КАРАШАВА

## Як мы ў «чортавых вокнах» мачылі лён, як выціскалі алей і жавалі макуху

**Беларускія вёскі ўсё больш пусцеюць, многія ўвогуле знікаюць. Часта мяняецца да непазнавальнасці і прыроднае аблічча іх ваколіцаў. А пра тое, што тут было раней, застаюцца толькі ўспаміны. Пра мінулае і сучаснасць сваёй малой радзімы піша былая настаўніца беларускай мовы Яўгенія Кулевіч.**

### Хутар каля вёскі

Я нарадзілася ў 1935 годзе ў вёсцы Карашава непадалёк ад Скідзеля Гродзенскага раёна. Карашава — так вёска афіцыйна пішацца, але ў народзе яе звалі Асошнікі. У кнізе Сяргея Токця і Мікалая Дзелянкоўскага «Скідзель і яго ваколіцы: жывая гісторыя» я прачытала, што некалі існавала Вялікае і Малое Карашава, а потым адна з гэтых вёсак была перайменаваная на Белякоўшчыну, другая ж засталася проста Карашава.

Мы жылі на хутары, але хутар быў ля самай вёскі. Вёска ў нас была з паўночнага боку, з захаду — лес, з поўдня — іншыя хутары і Скідзель, а з усходу за хутарамі раскінуўся вялізны луг Ліскава. На гэтым

Ліскаве кожны гаспадар меў палоску сенакосу. Палоскі былі няроўныя, адныя шырэйшыя, другія вузейшыя. У нас была вузкая палоска, можа, пракосы з два. Усяго мы і мелі той зямлі — хутар ды гэтая палоска, разам тры гектары.

## Дрыгвянае возера

У ражку Ліскава, скіраваным у бок Белякоўшчыны, было азярцо, прыкладна 50 га. Я лічу па тым, што Ліскава пасля меліярацыі раздзялілі на тры часткі канавамі, і кожная з частак была па 50 га. Блізка да возера не падыдзеш, бо падступала дрыгва. Казалі, што возера зарастае. Як збяруць сена з двух укосаў, а гэта ўжо позняя восень, то на лузе гэтым пасвілі каровы.

Была вялікая перасцярога — не падыходзіць да возера, бо праваліцца і ніхто не знойдзе. Нават была паўтыканымі калочкамі пазначаная граніца. Ды мы і самі баяліся, бо як ступіш на забароненыя месцы, то дрыгва пачынае ісці хвалямі, выгінаючыся. Кароў туды блізка не падпускалі.

Рыбы ў возеры не было. Чаму — не ведаю. Можа быць, у дрыгвяным балоце яна не вядзецца ў прынцыпе. Ад возера ішла даўжэзная канава. Я думаю, што яна была натуральная, а не штучная. Хоць, можа, па загадзе якога пана і спецыяльна праклалі.

У канаве рос аер, мы елі яго беленькія смачныя сарцавінкі (вельмі добра апісана гэтая расліна Алесем Белым у № 2/2021 «Нашай гісторыі»). Жавалі зялёныя лісты, але яны горкія і за язык шчыплюць. На шырокіх лістах аеру пяклі хлеб. Мая бабуля насушвала яго посцілкі з дзве і дабаўляла ў сяннік, набіты саломай, для




**Старая адрына** ў Карашаве.

паху. На свята ток (глінабітную падлогу) у хаце пасыпалі жоўценькім пясочкам, а тады крышылі дробненька пучкі зялёнага аеру і пасыпалі ўжо на яго. Усе любілі пах аеру.

Канава цягнулася кіламетры з тры, калі не болей, на пераездах нават мосцікі былі. Яна злучала з нашым другое возера. Недалёка ад таго возера, якое звалі Фенькаўскім, быў чварак (чатырохкватэрны дом) і яшчэ два дамы простыя, звычайныя. Тут былі ставы, у якіх некалі пан разводзіў рыбу. Праўда, ён сам жыў не тут, а недзе каля Гродна. А тут жылі рабочыя. Як ужо я помню, то ў Фенькаве быў філіял (ці, як тады называлі, участак) саўгаса «Скідзельскі». Потым гэтае месца закінулі, і цяпер знаку няма, што была гаспадарка, усім завалодаў хмызняк.

## «Чортавы вокны»

Наша дрыгвянае возера выкарыстоўвалася на карысць гаспадаркі: у ім мачылі лён.

Лён тады сеялі ў кожнай гаспадарцы. Яго вельмі даглядалі, чыста выполвалі пустазелле. У канцы лета вырывалі, звязвалі ў маленькія снапкі, ставілі сушыцца. Галоўкі хутка высыхалі — як паварушыш, то звінелі. Тады іх малацілі — лён абмалочваецца лёгка — і правейвалі. Мякіну ссыпалі ў вялікія драўляныя скрыні. Гэта дабро ішло на корм свінням, а сам лён звязвалі ў вялікія снапы (кулі).

Тады збіраліся талакой і везлі кулі на возера. Праразалі ў дрыгве дзіркі (іх называлі потым «чортавы вокны», бо былі вельмі небяспечнымі) і пазначалі іх. У гэтыя дзіркі-палонкі запіхвалі кулі лёну. Кожны гаспадар свае кулі пазначаў па-асобаму, каб пасля пазнаць, і кожны ведаў іх колькасць. Нас, дзяцей, асабліва туды не падпускалі, але мы ўсё адно былі там.

Цікава, што колькі кулёў у тыя дзіркі ні запіхалі, усе яны недзе дзяваліся. Мужчыны жэрдкамі не давалі ім выплываць. А як увесь лён схаваецца ў палонках, тады на гэтыя дзіркі клалі даўжэзныя жэрдкі, а наверх дзёран.

Лён там знаходзіўся пэўны час, а тады зноў талакой яго даставалі. Калі адкінуць жэрдкі, то лён сам падплываў у дзірку, толькі бяры. Ніводзін куль не ўтопіцца, усе выплывуць наверх. Мужчыны адцягваюць кулі далей ад палонкі, а жанкі пазнаюць, дзе чыё, і складаюць кожны сваю кучку.

Як работа скончыцца, то кучкі адвозяць, і кожны свой лён рассцілае на лузе тонкім слоем. Не проста каб ён сох, а, як кажуць, ▸

адлежваўся. І луг выглядае тады так цікава, прыгажосць — не апісаць: усюды як усё адно заслана паласатым бліскучым дываном. Па нейкіх прыкметах ведалі, калі лён гатовы, тады яго збіралі і звозілі дамоў для апрацоўкі: сушылі, мялі ў церніцу, трапалі, вычэсвалі, сартавалі, пралі і ткалі.

### Ільняны алей

Як управяцца з усімі асноўнымі асеннімі гаспадарчымі работамі, то везлі намалочанае льняное семя ў Гродна, каб выціснуць з яго алею. Гродна ад Скідзеля — 27 км (так было на паказальніку), а да Скідзеля ад нас — каля 5 км. Звычайна ехалі з вёскі фурманак з 5. Усе вяскоўцы давалі ім свае торбы з семем і пасудзіны на алей. Трэба было неяк разбірацца, але ніколі не было з гэтым ніякага непаразумення, блытаніны. З уладальнікам прэса разлічваліся семем, нешта яму адсыпалі.

Бралі з сабой для коней аўса, сечкі ў мяшках. Бо іншы раз прыходзілася і заначаваць, калі чарга была вялікая, ды і так дарога няблізкая. Але як усе вяскоўцы чакалі вазакоў назад! Увесь час выглядалі. Калі ўсё добра, то вечарам ужо ўсе дома, а ў Гродна выязджалі яшчэ амаль ноччу, каб быць там чым раней.

Але вось едуць: крык, шум, бегатня дзяцей. Усе атрымліваюць пасудзіны з алеем, макуху (жмых) ад семя. Макуха мела форму круга таўшчынёй амаль да 10 см, а пасярэдзіне — круглая дзірка. І ўсё пахнючае — дзятва кусала і жавала макуху.

Тады макуху падвешвалі ў торбах, чакалі, пакуль прыйдзе час паіць малое цялятка. Яе дабаўлялі да пойла, і цяляткі раслі здаровенькія, бо макуха, відаць, вельмі карысная. Сяляне ўсё такое ведалі, усе былі самі сабе заатэхнікамі і ветэрынарамі.

А з алею адразу здымалі пробу. Накрышвалі цыбулі, чуць падсольвалі і палівалі алеем. А ён прыгожы, жоўтага насычанага колеру з зеленаватым адценнем. Тады елі з хлебам і бульбай. Бабуля казала: «Еж пamaленьку, не спяшайся, а то язык уцячэ або праглынеш».

На льняным алеі ніколі нічога не смажылі, яго ўжывалі сырым, палівалі зімой нацёртую рэдзьку, салёныя грыбкі. Грыбкі кожная гаспадыня назапашвала: зялёнкі (самыя лепшыя для салення), рыжыкі, курачкі. Нават іншы раз і капусту кіслую запраўлялі алеем. І нешта я не помню, каб той алей прагаркаў, як цяпер.

### Няма таго, што раньш было

З 1975 года я жыву ў вёсцы Сялец Смаргонскага раёна. У родных краях не бывала аж да пенсіі. Гэта мне вялікі грэх, заглынула бяспамяцтва, так як і многіх. Але ў 2004 годзе вырашылі мы з дачушкай нарэшце туды паехаць. І на магільніку пабылі, і школу ў вёсцы Еўлашы, дзе вучыліся мае дзеці, наведалі, хоць яна ўжо занядбаная была, там лесапілка размясцілася.

У мясцовай тэлефоннай кнізе пры карашаўскіх нумарах быў толькі адзін чалавек са знаёмым мне прозвішчам — Бялко Тамара Іванаўна. З такім прозвішчам на маёй памяці была ў нас толькі адна сям'я, але ў ёй з моладзі былі толькі хлопцы. Тамара аказалася жонкай аднаго з іх, а сама паходзіла з недалёкай Баброўні . Гэтая маленькая, але ўдаленькая вёсачка, размешчаная на ўзгорку каля ракі Котра, прытока Нёмана — радзіма двух даволі вядомых паэтаў: Макара Краўцова, аўтара гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і Міхася Васілька (абодва яны па прозвішчы ад нараджэння былі Касцевічы, а Краўцоў ды Васілёк — псеўданімы). А таксама з яе выйшлі ажно шэсць настаўнікаў, два з якіх вучылі і мяне.

Калі я пры першым тэлефонным знаёмстве з Тамарай згадала пра свайго першага настаўніка родам з Баброўні (гл. успамін пра яго ў рубрыцы «Пошта і водгукі» ў № 4/2021), яна заплакала і праз слёзы прамовіла: «Гэта ж мой тата». Так мы пазнаёміліся, сталі называцца сёстрамі і дагэтуль стэлефаноўваемся час ад часу. А дачка Тамары Лена разам з мужам даглядае магілкі і маіх родзічаў. У 2017 годзе Тамары споўнілася 90 гадоў. Яна мяне ўсё запрашае прыехаць да яе пабыць з тыдзень, але гэта нерэальна.

Цяпер людзі пачалі цікавіцца сваімі каранямі. Усе любяць слухаць аповеды Тамары пра колішняе жыццё народа. Пра возера яна мне сказала, што Фенькаўскае, якое каля Баброўні, зусім зарасло. Проста дзівосы, бо яшчэ ў маёй маладосці па ім на лодцы плавалі. І быў яшчэ там невялікі ўчастак з журавінамі, якога ўсёй акрузе хапала на лекі. Ліскаўскае ж возера цяпер зусім маленечкае, і там усё, што магчыма, узаралі. ◆


ФОТА МІКАЛАЯ ЛАПІНА, RGAZETA.BY

**Тамара Бялко —** былая партызанка з вёскі Карашава.

З АРХІВА СЯМ'І АЛЕКСАНДРОВІЧАЎ

# Грамадзянін Вялікага Княства

## Станіслаў Александровіч — сын рэпрэсаванага, зорка навукі

**Ён быў дзевяцігадовым хлопчыкам, калі ў 1939-м арыштавалі яго тату. Але хлопчык выжыў, стаў прафесарам і — пілотам. Пра найбуйнейшага даследчыка гістарычнай картаграфіі Вялікага Княства Літоўскага піша Валянціна Андрэева.**

Яго бацькі вянчаліся ў касцёле Святой Ганны, у Вільні. Яны былі з заможных інтэлігентных сем'яў, і хай жыццё ніколі не пазбаўленае складанасцяў, усё ж разлічвалі, што старанная праца і пабожнасць усцерагуць ад сур'ёзных бедаў.

Станіслаў Александровіч нарадзіўся 5 красавіка 1930 года. Тата, Багдан Александровіч, быў намеснікам урадавага камісара па справах горада Вільня, маці, Марыя з Куковічаў, — настаўніцай.

Улетку малы Стась бываў у сваякоў у Струсце на Браслаўшчыне: тут стаяла родавая сядзіба, непадалёк ляжаў вялізны камень, ля якога збіраліся паўстанцы 1863 года, а вакол быў цудоўны азёрны край. Але большую частку дзяцінства ▸

▶ хлопец правёў у былой сталіцы Вялікага Княства. Пакуль бацьку па службе не перавялі ў Луцк: начальнікам палітычнага і нацыянальнага аддзелаў.

Тут, у Луцку, Александровічаў і заспела 17 верасня 1939 года. Здавалася, можна ўратавацца, сям'я рушыла ў суседняе Дубна, аднак хто мог уявіць, якой моцы будзе хваля чырвонага тэрору? Бацьку адразу ж забралі. Родныя шмат гадоў будуць спадзявацца, што ён недзе зняволены, жывы, але папраўдзе Багдана расстралялі яшчэ ў снежні таго ж года. А Марыю з трыма дзецьмі неўзабаве пасадзілі ў вагоны і выслалі ў Казахстан.


З АРХІВА СЯМ'І АЛЕКСАНДРОВІЧАЎ

**Сядзіба Александровічаў у Струсце**, 1930-я.

## Майкаінзолата

Александровічаў вывезлі ў Паўладарскую вобласць, пасёлак Майкаін. Тут нічога не расце. Адзінае дрэва, што вытрымлівае такую сухмень, — унікальная алеістая бяроза, якую тутэйшыя так і завуць: «майкайын». Яе лісткі нібы пакрытыя алеем — і гэта дазваляе ашчаджаць вільгаць.

Затое тут ёсць золата. Багатыя на гэты каштоўны метал пароды разведалі тут у пачатку стагоддзя: шатландзец Лэслі Уркв箇арт шукаў, куды ўкласці грошы, і лічыў перспектыўнымі кірункамі Сібір і Цэнтральную Азію. Урквартбыў сапраўдным, нібы з карцінкі, капіталістам: аб'яднаў увесь брытанскі нафтавы бізнэс, скупіў шмат горназдабыўных заводаў Расійскай імперыі.

Але здарылася рэвалюцыя. Урквартпадтрымліваў Калчака, але пра канцэсію на распрацоўку пакладаў згодны быў дамаўляцца і з Леніным. Вось толькі Ленін адмовіўся: у Леніна былі іншыя планы на капіталістаў.

У Казахстане доўга было неспакойна. Савецкія горныя работы пачаліся тут у 1933-м, калі савецкай уладзе стала катастрафічна бракаваць грошай. Тэрмінова патрэбна было золата, шмат золата. Яго здабывалі і прыватныя «старацелі», і запаленыя рэвалюцыяй маладзёны, і палітычныя ссыльныя. Праца апошніх была надзвычай выгаднай, літаральна бясплатнай. Праўда, неэфектыўнай: вольныя старацелі здабывалі золата значна болей.


PAVGEO.KZ, BY ALEXEY BRAVO

**Рэліктавая алеістая бяроза ў Майкаіне.** Яшчэ перад Другой сусветнай іх было тут даволі шмат, але за час вайны і пасля яе дрэвы высеклі на апал, і цяпер рэдкі від — на мяжы знікнення.

У гэтай сухой залатаноснай зямлі і засталіся сёстры малога Станіслава. Казахі і цяпер паказваюць прыезджым старыя могілкі, на якіх ляжаць «палякі». Сярод іх назаўжды сямігадовая Венслава і трынаццацігадовая Рэгіна.

## Кепскае і яшчэ горшае

Голад, антысанітарыя і праца з кайлом і рыдлёўкай забілі б таксама маці і сына Александровічаў. Што ўжо горай, здавалася б. Але магло стаць яшчэ цяжэй. У 1943-м немцы раскапалі катынскія магілы і распавялі пра іх усяму свету. Савецкія ўлады раз'юшыліся і сталі спаганяць злосць на ссыльных, якія не забывалі пра сваё паходжанне і ўжо арганізаваліся ў Польскі камітэт.

Маці Стася, баючыся расправы, вырашыла ўпотай уцячы ў Паўладар, за 100 км. Праз некалькі дзён яны прыбылі туды на грузавіку. У вялікім горадзе ўдалося знайсці кабінетную працу за хлеб: дзённая норма — 800 г на дваіх. Трынаццацігадовы юнак стаў спецыялістам па зборы кавалачкаў вугалю на вуліцах і лепяхоў быдла ў стэпе: гэтымі «кізякамі» палілі ў печы.

Марыя Александровіч пастанавіла дабіцца выезду ў Польшчу. У Торунь, куды ў 1945-м з Вільні пераехалі сваякі.

Падарожжа заняло два тыдні. У сакавіку 1946-га колішнія віленчукі крочылі тарунскай вуліцай Адама Міцкевіча. Палякі прынялі іх як сваіх. Нарэшце яны мелі досыць ежы і адпачынак. Уявіце, што за лета 1946 года шаснаццацігадовы Стась вырас адразу на 20 см!

Нягледзячы на тое, што Польшча пасля Другой сусветнай стала сацыялістычнай дзяржавай, нашчадкі «буржуазіі» тут не былі абмежаванымі ў правах. Станіслаў Александровіч паспяхова скончыў школу і ў 1950-м паступіў ва ўніверсітэт Мікалая Каперніка.

На другую ступень вышэйшай адукацыі Станіслаў Александровіч паехаў у Познань. Тут ён ажэніцца, тут народзяцца яго дачка і два сыны. Тут яго і пахаваюць у 2015 годзе — як ён і хацеў. Аднак да гэтага міне яшчэ шмат часу...

## «Беларускі татарын»

І бацька, і маці Станіслава Александровіча лічылі сябе палякамі. І першая работа маладога навукоўца была прысвечана гандлю Польшчы з Кіеўскай Руссю да 1240-х гадоў. Але ўжо доктарскую дысертацыю* ён пісаў пра мястэчкі Вялікага Княства Літоўскага. Абарона работы, выкананай пад навуковым кіраўніцтвам выбітнага гісторыка Генрыка Лаўмянскага, адбылася ў снежні 1960 года.



**Затоплены кар'ер у Майкаіне**, у якім здабывалі золата высланыя «палякі».

PAVGEO.KZ, BY ALEXEY BRAVO

* У Еўропе доктарская ступень прыблізна адпавядае нашаму кандыдату навук, вышэй за яе — так званы «габілітаваны доктар».

Праз 12 гадоў Станіслаў Александровіч абараніў «габілітацыю» з працай пра развіццё картаграфіі Вялікага Княства Літоўскага да XVII стагоддзя. Гэтая яго габілітацыйная манаграфія мела поспех: яна двойчы перавыдавалася (з дапаўненнямі), а летась была перакладзена на беларускую мову.

Беларускі рэдактар яго «Картаграфіі» быў незадаволены: якая ж гэтая работа прапольская! І там, і тут гаворка пра польскую картаграфію, польскіх картографаў і польскі набытак. Аднак навуковая каштоўнасць гэтай працы ўсё адно вялікая. Александровіч пры гэтым высока ацэньваў культуру Вялікага Княства. Прыкладам, яго аўтарытэтны папярэднік, светач вывучэння польскай картаграфіі Караль Бучэк, паблажліва сцвярджаў, што Радзівілаўская карта Вялікага Княства Літоўскага, хай сабе і была створана з ініцыятывы Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі, канечне ж, не магла быць надрукавана ў Нясвіжы і, найхутчэй, была грубай, ▶



З АРХІВА СЯМ'І АЛЕКСАНДРОВІЧАЎ

**Чацвёрты злева — пяцігадовы Стась**, праваруч старэйшая сястра Рэня, леваруч меншая Слаўка. Вільня, 1935 год.



DEPOSITPHOTOS.COM, BY LIFEQUESTINT

### Самалёты

Ці можна было прывезці з Казахстана нешта станоўчае? Так. Менавіта тут Станіслаў гадзінамі глядзеў на самалёты ў небе над казахскім стэпам. Палюбіў іх на ўсё жыццё. У Познані Станіслаў прыходзіць у аэраклуб, становіцца пілотам планёра 1 класа, атрымлівае залаты значок пілота, а з часам будзе і прэзідэнтам гэтага аэраклуба.




### Струста

возера ў Віцебскай вобласці, трэцяе па велічыні ў Браслаўскай групе, а таксама вёска на беразе возера. Цяпер у ёй амаль няма старажылаў: на прыгожым узбярэжжы пабудавана шмат лецішчаў браслаўчан і турыстычных сядзіб. Затое ёсць досыць вялікая кавярня, паабедаць у якой улетку амаль немагчыма: так шмат гасцей.

▶ кепска зробленай — не вартай увагі. Бо, маўляў, да польскай яе адназначна залучыць усё ж немагчыма, а што вартага маглі стварыць ліцвіны?

Што ж гаворыць пра яе Станіслаў Александровіч? Ён адшукаў прамыя сведчанні, што ранейшае выданне Радзівілаўскай карты існавала, было падрыхтавана ў Нясвіжы і ўбачыла свет каля 1603 года! «Нават фрагментарнае знаёмства з помнікамі даўняй картаграфіі Вялікага Княства Літоўскага дазваляе зрабіць выснову, што ў тэхнічным плане яна зраўналася з картаграфіяй заходнееўрапейскіх краін, за выняткам некалькіх абсалютных лідараў тагачаснай картаграфічнай вытворчасці... Яна ні ў чым не саступала старапольскай картаграфіі земляў Польскага Каралеўства. У XVII стагоддзі яе найлепшыя ўзоры выйшлі на ровень, якога не дасягалі вядомыя сёння творы тагачасных польскіх геаметраў і картографаў».

Карацей, было за што злавацца на маладога даследчыка Каралю Бучэку. Александровіча ён называў не іначай як беларускім татарынам (відаць, з-за таго, што Александровічы — стары татарскі род, хоць сам сябе «беларускі татарын» татарынам не лічыў), а за нахабнасць — блакаваў яго шлях у Польскую акадэмію навук.

**Станіслаў Александровіч не лічыў сябе беларусам. Але спрыяў даследаванням гісторыі той дзяржавы, у сталіцы якой нарадзіўся**

Зрэшты, Станіслаў Александровіч задзіраўся не толькі з польскімі навукоўцамі: сваю порцыю крытыкі атрымаў і расійскі акадэмік Барыс Рыбакоў, які ва ўсім знаходзіў таемным чынам зніклыя расійскія першакрыніцы.

Станіслаў Александровіч не лічыў сябе беларусам. Але, працуючы ў філіяле Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку, ён спрыяў даследаванням гісторыі той дзяржавы, у сталіцы якой нарадзіўся. Яго магістранты і дактаранты даследавалі гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Падляшша. А студэнты з яго падачы збіралі аповеды жывых сведак гістарычных падзей сярод беларусаў Падляшша.

У 1994 годзе, ужо пераехаўшы ў Торунь, Станіслаў Александровіч атрымаў годнасць прафесара. А між тым у Торуні ён працягваў справу віленскіх эмігрантаў Рышарда Мяніцкага і Леаніда Жытковіча, і пад яго ўплывам навукоўцы і тут таксама даследавалі Вялікае



**Радзівілаўская карта ВКЛ 1613 года,** Упсальскі асобнік.

Княства. Яго аспірантамі, апроч іншых, былі Томаш Кемпа, аўтар выдатнай манаграфіі пра Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіротку, і Максім Макараў, даследчык гісторыі беларускага Падзвіння.

Беларускія кнігі Станіслаў Александровіч «*gromadził*» — і навуковец стараўся атрымаць усё, што выдаецца ў Беларусі. Ён заўсёды падкрэсліваў: Вялікае Княства Літоўскае — супольная спадчына беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. І сам, відаць, адчуваў сябе яго часткай.



Станіслаў Александровіч **на замчышчы Улы.**

З АРХІВА СЯМ'І АЛЕКСАНДРОВІЧАЎ

### У пагоні за Улай

Доўгая пакутлівая дарога ў Казахстан і назад не адбіла ў гэтага чалавека ахвоты да падарожжаў: ён лёгка здымаўся з месца. Сустракаўся з былымі ссыльнымі ў Паўладары, даследаваў ранні асобнік Радзівілаўскай карты ва Упсале, у Швецыі. Бываў у Вільні і ў Мінску.

Апошняй буйной экспедыцыяй стала паездка ў Беларусь улетку 2011 года. Ён прывёз сыноў у Струста, дзе на старых могілках, у самым цэнтры, і сёння стаяць вялікія крыжы яго продкам. Ад сядзібы, праўда, застаўся адзін падмурак. У Струсце Александровічаў ужо не памятаюць. Добра, што прынамсі Александровічы памятаюць пра Струста.

І яшчэ адно моцнае жаданне Станіслава Александровіча здзейснілася ў тую паездку. Шмат часу навуковец вывучаў план аблогі Улы Мацея Стрыйкоўскага 1568 года — і вось у 2011 годзе нарэшце пабачыў тое месца на ўласныя вочы. Здаецца, тая паездка падаравала навукоўцу некалькі імгненняў шчасця: усё склалася.

16 красавіка 2015 года ў Познані было выдатнае сонечнае надвор'е — лётнае, акурат такое, як любіў Станіслаў Александровіч. Ён пажадаў быць пахаваным побач з першай жонкай, у горадзе, дзе нарадзіліся яго трое дзяцей. У Торуні, на магіле маці, побач з дошкай, прысвечанай яго бацьку і сёстрам, усталявана памятная дошка пра навукоўца. ◆



WIKIMEDIA COMMONS, BY ВІКЭНЦЫКЛЯПЭДЫСТ

У 1990-я ў гэтым будынку па Захарава, 28 месціўся **Польскі народны ўніверсітэт**, лекцыі тут чытаў і Станіслаў Александровіч.

### Чалавек з усходу

Калі 10 красавіка 2010 года пад Смаленскам разбіўся самалёт з найвышэйшымі кіраўнікамі Польшчы, Станіслаў Александровіч быў страшна прыгнечаны. Тым жа самым «Тупалевым» ён год таму ляцеў з Варшавы ў Люблін, дзе атрымаў ад прэзідэнта Леха Качыньскага афіцэрскі крыж ордэна Рэспублікі Польшча за выдатныя заслугі ў пашырэнні ведаў аб супольнай гістарычнай спадчыне народаў, якія складалі Рэч Паспалітую.

Як пілот, ён мог уявіць сабе ўсе падрабязнасці катастрофы, а як чалавек з усходу і жывы сведка шалёнага XX стагоддзя — меў асаблівую чуласць і здольнасць да эмпатыі.




Беларускі пераклад бестселера прафесара Станіслава Александровіча сёлета выйшаў у выдавецтве «Тэхналогія». Замовіць можна па спасылцы.



**Палессе, 1930-я гады.** Фота зрабіў знакаміты майстар родам са Століна, Саўл Хохман. Фатограф загінуў падчас Халакосту ў столінскім гета.

Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра: Калоднае, Столінскі раён; Бершты, Шчучынскі раён; Чыжоўскія могілкі, Мінск; Унорыца, Рэчыцкі раён; Трашчычы, Карэліцкі раён; Мачуль, Столінскі раён; Падміколле, Магілёў; Смаляны, Аршанскі раён; Гнесічы, Навагрудскі раён.

## Не ў час раскрытыкаваў

Позняй восенню 1632 года Уільям Прын у працы «Гістрыямастыкс: бічаванне тэатральных акцёраў» абрынуўся на спектаклі і акцёраў Лондана, а асабліва рэзкай крытыцы падвергнуў практыку выканання юнакамі жаночых роляў і саміх жанчын, якія выходзяць на сцэну.

Ён пісаў, што актрысы — «вядомыя шлюхі», і пытаўся, як можа «хрысціянка быць настолькі бессаромнай, каб нешта граць і публічна гаварыць са сцэны ў прысутнасці розных мужчын і жанчын».



На бяду для Прына, усяго за некалькі тыдняў да публікацыі яго памфлета каралева Генрыэта ўзяла ўдзел у тэатральнай пастаралі «Пастушыны рай». Нападкі Прына



Антоніс ван Дэйк. **Генрыета Марыя са сваім прыдворным карлікам Джэфры Гадсанам.**




**Комікс «Беразіна»**, што чытаюць французскія дзеці :) (падзяліўся ў Фэйсбуку **Аляксей Ластоўскі**).

на жанчын-акцёрак успрынялі як атаку на саму каралеву.

Прына адправілі ў Таўэр, дзе ён паўстаў перад судом Зорнай палаты. Яго прысудзілі да пажыццёвага зняволення, штрафу 5000 фунтаў і выключэння з юрыдычнай школы Лінкальн-Ін, дзе ён выкладаў агульнае права. Суровае пакаранне таксама прадпісвала адрэзаць яму вушы ля ганебнага слупа. Адно вуха яму адрэзалі ў Вестмінстэры, другое — у Чыпсайдзе.

Гэтую цытату з кнігі Пітэра Акройда «Гісторыя Англіі. Мяцежнае стагоддзе. Ад Якуба I да Слаўнай рэвалюцыі» прыводзіць у Фэйсбуку **Павел Падкарытаў**. ◆



ONLINER.BY, ФОТА АЛЯКСАНДРА РУЖАЧКІ

## In memoriam

Увечары 6 верасня раптоўна памёр вядомы беларускі гісторык Уладзімір Ляхоўскі, адзін з найлепшых знаўцаў гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Ён — аўтар навуковай манаграфіі «Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915–1918)» і навукова-папулярнага выдання «Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)», дзясяткаў арыгінальных артыкулаў на розныя тэмы. Таксама ён непасрэдна спрычыніўся да выяўлення і публікацыі многіх важных дакументаў з беларускіх і замежных архіваў, сярод іншага быў галоўным укладальнікам і рэдактарам грунтоўнага зборніка «Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах».

Ляхоўскі зусім не збіраўся гэтым абмяжоўвацца, у яго былі вялікія планы на будучыню. Апошнія гады ён актыўна працаваў над доктарскай дысертацыяй, прысвечанай беларускай эміграцыі ў розных краінах свету перад Другой сусветнай вайной, а таксама марыў нарэшце давесці да канца працу над працягам дакументальнага зборніка «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі», над якім карпеў шмат гадоў. На ягоным працоўным стале засталася паперка, у якой па днях і гадзінах была распланавана праца ў Нацыянальным архіве на ўвесь верасень. 7 верасня ён павінен быў прыйсці туды а 14-й. Але смерць з планамі не лічыцца...

Гісторыкі і выдаўцы запомнілі Уладзіміра як вельмі шчодрага і бескарыслівага чалавека. Назапасіўшы за сваё навуковае жыццё вялікія веды, а таксама дакументальныя зборы і калекцыі фотаматэрыялаў, ён ахвотна імі дзяліўся, часцей за ўсё не патрабуючы за гэта нічога ўзамен тады, калі паважаў і цаніў тых людзей, якія да яго звярталіся. Відаць, не менш за публікацыі ягонага ўласнага аўтарства набярэцца такіх, дзе яму выказваецца падзяка за дапамогу і спрыянне пры іх падрыхтоўцы. А спрыянне было часам такое, што публікацыя дзякуючы яго парадам ці рэдкім, а то і ўвогуле раней нікому невядомым ілюстрацыям пачынала іграць новымі фарбамі. «Наша гісторыя» таксама напоўніцу карысталася ягонай бязмернай эрудыцыяй... зычлівасцю, і нам гэтага чалавека будзе вельмі не хапаць.

Уладзімір Ляхоўскі — аўтар трох публікацый у «Нашай гісторыі»: «Беларускім сцягам мог стаць трыкалор, але вайскоўцам спадабаўся бел-чырвона-белы» (2/2018), «Майсей Гутман: яўрэй, які стаяў ля вытокаў БНР і УНР» (2/2019) і «Як выбіралі герб БССР» (3/2019). І гэта публікацыі з той серыі, якія апраўдваюць адзін са слоганаў, вынесеных на вокладку нашага часопіса: «Важныя адкрыцці».

Вечная памяць і пухам зямля грунтоўнаму даследчыку і цудоўнаму чалавеку!





































**Два дні на месяц мы прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на сайтах і ў тэлеграм-канале @historynn**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях і крамах. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, ragna.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.